Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 42 (4688) 19 кастрычніка 2012 г.

## Думкапісьменніка

# Верны сябра і дарадца



У кожнага з нас жыве ў сэрцы вобраз любімага настаўніка, і на працягу жыцця ён, гэты вобраз, аберагае, раіць, парою дакарае, лечыць душэўныя раны, патрабуе годна перажываць цяжкасці, не збіцца з выбранага шляху… Мне ў гэтым сэнсе пашанцавала: я з дынастыі настаўнікаў. Больш таго, сама прысвяціла любімай прафесіі настаўніка роднай мовы і літаратуры дзесяць гадоў жыцця.

Памятаю, як мы радаваліся, калі ў 1988 годзе з'явіўся першы прафесійны часопіс для настаўнікаў-філолагаў. Мой бацька, Іван Паўлавіч Янучок, які 40 гадоў выкладаў беларускую мову і літаратуру ў вясковай школе на Случчыне, тады сказаў: "Вам, маладым, будзе намнога лягчэй працаваць! У вас цяпер ёсць сваё выданне!" Я нават не здагадвалася тады, што пройдзе час, і мне давядзецца ўзначаліць дарагі сэрцу часопіс, сустрэць тут сяброў і аднадумцаў.

З мая 2012 года разам з Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі" стала адным з заснавальнікаў часопіса "Роднае слова", які па ўзгадненні з кіраўніцтвам дзяржавы абвешчаны пляцоўкай для развіцця інстытута крытыкі. І гэта невыпадкова, бо ў рэдакцыйнай калегіі і сярод аўтараў нашага выдання — навуковая эліта краіны.

Тым не менш сёння больш як палова агульнаадукацыйных устаноў краіны, клапоцячыся пра набыццё сацыяльна значных выданняў, усё ж не мае нават па адным экземпляры часопіса "Роднае слова" ў сваіх фондах, што, на маю думку, значна зніжае эфектыўнасць працы настаўніка-філолага.

Увогуле ўсё часцей можна пачуць думку, што хутка папяровыя кнігі і часопісы будуць выцеснены электроннымі. Нічога не маю супраць электронных версій выданняў у наш імклівы час, магчымасці прэзентаваць часопіс ці кнігу мільённай аўдыторыі і ў любой кропцы свету. Дзеля гэтага электронная версія "Роднага слова" штомесяц перадаецца ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі. І ўсё ж каля трох тысяч падпісчыкаў чакаюць наш часопіс, па добрай звычцы заглядваючы ў паштовыя скрыні, радуючыся магчымасці прынесці яго ў клас ці аўдыторыю, працытаваць цікавыя вытрымкі вучням ці студэнтам…

На жаль, са студзеня 2010 года спынена дзяржаўнае субсідзіраванне "Роднага слова", таму асноўнай крыніцай фінансавання з'яўляюцца сродкі ад падпіскі. І нават у такіх няпростых умовах мы найперш працуем на карысць педагогаў краіны, на карысць роднага беларускага слова.

Разумею, што далёка ў мінулым дзень выхаду першага нумара часопіса (сёлетні снежаньскі нумар — ужо трохсоты!), што цяпер неабмежаваныя магчымасці інфармацыйнай прасторы, і ўсё ж не пакідае мяне як галоўнага рэдактара, як настаўніка, як сябра Саюза пісьменнікаў думка: што здарылася, чаму не радуе некаторых настаўнікаў шыкоўная магчымаць пачытаць любімае выданне, адчуць пах друкарскай фарбы, урэшце, сустрэцца не ў інтэрнэт-прасторы, а насамрэч, узяўшы ў рукі свайго "вернага сябра і дарадцу", няўжо часопісу "Роднае слова", які верай і праўдай служыць справе асветніцтва, так і не знойдзецца месца на палічках некаторых публічных і школьных бібліятэк?

**Зоя ПАДЛІПСКАЯ**

# Асоба. Час. Лёс

Пра пісьменніка лепш за ўсё гавораць ягоныя кнігі. З-пад пяра Мікалая Чаргінца з'явілася больш як сорак мастацкіх твораў, ён аўтар некалькіх кінасцэнарыяў і спектакляў. І гэта якраз той выпадак, калі колькасць напісанага — ніколькі не на шкоду якасці.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ, фота Кастуся Дробава**



Творы М. Чаргінца — тая высокамастацкая літаратура, якая патрэбная чытачам і заўсёды імі запатрабаваная. Так, выдавецтва "Харвест" некалькі гадоў таму пачало выпускаць серыю "Уголовный розыск", у якую сярод іншых увайшлі і творы Мікалая Іванавіча. Кнігі не залежваюцца на паліцах магазінаў і стэлажах бібліятэк, а кожнае новае выданне нязменна карыстаецца папулярнасцю. І не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой. М. Чаргінец папяхова выкарыстоўвае розныя жанравыя магчымасці прозы. Аднак, хоць і з'яўляецца прыхільнікам дэтэктыўна-прыгодніцкай літаратуры, высока трымае планку псіхалагізму, цудоўна разумеючы, што прыгожае пісьменства — гэта, поруч з іншымі якасцямі, яшчэ і чалавеказнаўства.

У літаратуру М. Чаргінец прыйшоў з журналістыкі. З першымі сваімі матэрыяламі выступіў у 1963 годзе, калі вучыўся на аддзяленні журналістыкі філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Вучобу сумяшчаў з работай інструктарам фізічнай культуры на Мінскім прыборабудаўнічым заводзе. Потым па накіраванні працоўнага калектыву перайшоў у органы міліцыі. Гэта, зразумела, падказала новыя тэмы. Не расстаўся з пяром і пасля таго, як перавёўся на юрыдычны факультэт. Калі адзін з калег прапанаваў узяцца за што-небудзь сур'ёзнае, нарадзілася задума аповесці "Четвертый след".

Пасля завяршэння твор прапанаваў у часопіс "Нёман". Аповесць атрымала станоўчую ацэнку рэдакцыі і хутка была надрукавана. Акрылены поспехам, малады аўтар пастукаўся ў дзверы выдавецтва "Беларусь". Праўда, там патрабаванні аказаліся больш строгімі. Давялося штосьці перарабіць, нешта падкараціць, а то і зусім зняць. Але гэта пайшло твору толькі на карысць.

Калі пісалася аповесць "Четвёртый след", М. Чаргінец працаваў намеснікам начальніка Першамайскага аддзела ўнутраных спраў горада Мінска. У год выхаду яе ўжо стаў начальнікам Ленінскага аддзела. Безумоўна, асноўная праца займала шмат часу, ды ён ужо проста не мог не пісаць. За першай кнігай з'явіліся другая і трэцяя: "Тревожная служба" і "Следствие продолжается". Як і ў "Четвёртом следе", прытрымліваўся падзей, якія мелі месца ў рэальнасці. Пра гэта сведчыць і тое, што жанр іх пазначыў адпаведна як "записки сотрудника милиции" и, как и в первой книге, "документальная повесть".

Сапраўды, М. Чаргінец яшчэ не выходзіў за межы дакументальнай літаратуры. Факты, канечне, самі па сабе ўражвалі, аднак належным чынам пакуль не асэнсоўваліся, характары персанажаў пакуль не раскрываліся ў прасторы і часе. Жыццёвая праўда ў творах не станавілася праўдай мастацкай. Але ўжо адчувалася, што пісьменнік абавязкова пераадолее гэта.

Крок быў зроблены ў аповесці "Финал Краба" (часопісны варыянт — "Догадка майора Ветрова"). Нават сёння, калі майстэрства М. Чаргінца дасягнула вялікіх мастакоўскіх вышынь, гэты твор, у якім пераканаўча і праўдзіва расказана пра работу супрацоўнікаў міліцыі, не губляецца на фоне ўсяго напісанага аўтарам.

"Финал Краба" — класічны дэтэктыў, у якім вытрыманы ўсе законы гэтага жанру. У творы ўсё настолькі лагічна і праўдападобна, што застаецца адно — здзіўляцца, наколькі аўтар умела валодае пяром, як ён у стане будаваць такія сюжэтна-кампазіцыйныя хады, што з кожнай новай старонкай чытацкі інтарэс не толькі не слабее, а яшчэ больш узрастае.

Высокую ацэнку гэтаму твору даў у прадмове Васіль Быкаў: "Как правило, автор счастливо избегает многих явных и тайных ловушек, уготованных особенностями данного жанра. Мы почти не найдём здесь облегчённых решений, холостых и подыгрывающих ходов. Вся работа по разоблачению преступления предстаёт исполненной труда, риска и опасностей. Тем серьёзнее и значительнее выглядит повседневный (а часто и повсенощный) труд оперативных работников уголовного розыска… В заключение хочется пожелать читателю истинного удовольствия от чтения этого полного напряжения, местами захватывающего и поучительного сюжета".

У гэтай прадмове важны яшчэ адзін момант, што дазваляе зразумець, у чым жа гэткая прыцягальнасць напісанага М. Чаргінцом: "Для искусства, как и для истории, особенную ценность представляют свидетельства очевидца, участника, человека бывалого, знающего всё о предмете своего повествования и даже чуточку больше. Эта ценность ещё значимее, если автор помимо недюжинного собственного жизненного опыта и знаний обладает и литературным даром, позволяющим ему с наибольшей полнотой и доходчивостью изложить суть событий и вынести им оценку".

Далёка не адназначнае стаўленне крытыкаў да розных дылогій, трылогій. Што да дылогіі М. Чаргінца, якая складаецца з раманаў "Вам — задание" і "За секунду до выстрела", то да яе ніякіх прэтэнзій няма. Ярка, таленавіта. Лёсы галоўных герояў паказаны не толькі на фоне важнейшых падзей, але і ў цесным пераплясценні. На гэта звярнуў увагу яшчэ В. Быкаў у рэцэнзіі "Наука побеждать" на раман "Вам — задание", змешчанай у "Литературной газете": "Это многоплановое произведение, по-видимому, задумывалось автором как традиционный семейный роман — с обстоятельным и неторопливым исследованием характеров в их семейных и бытовых сцеплениях, как это и принято в современной и классической литературе, имеющей немало великолепных примеров такого рода". Разам з тым В. Быкава-крытыка дапаўняў В. Быкаў-празаік, які ведаў, зыходзячы не толькі з вопыту сучаснай літаратуры, а і з уласнай творчай практыкі, што час прынёс адчувальныя змены нават у такі, здавалася б, непарушны асяродак, як той, які трымаецца на роднасных сувязях, таму ён далей развіваў сваю думку такім чынам: "Но известно, что в наш XX век с его отличными от предыдущих времен, порой лихорадочными и сумбурными ритмами жизни семейные рамки тесны и недостаточны. И уж они совершенно не в состоянии выдержать напора тех бурных страстей и ошеломляющих событий, которыми изобиловала минувшая война". Дылогія мела ашаламляльны поспех у чытачоў. Абодва раманы, не паспеўшы з'явіцца на паліцах кнігарань, сталі бібліяграфічнай рэдкасцю. Адразу дало свае вынікі ўменне аўтара пераконваць у "навуцы перамагаць". У гэтым пераканаў і раман М. Чаргінца "Приказ № 1", дзе расказваецца пра стварэнне мінскай міліцыі Міхаілам Фрунзэ. Гэтым разам пісьменніку давялося шмат працаваць у архівах, знаёміцца з успамінамі непасрэдных удзельнікаў тагачасных падзей. Затое і гэты раман стаў адной з самых значных старонак у ягонай творчасці, прыхільна быў сустрэты і чытачамі, і крытыкай.

**(Заканчэнне на стар. 4.)**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў старшыню Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца з 75-годдзем. "Узначаліўшы Саюз пісьменнікаў Беларусі, вы нямала зрабілі для аб'яднання мастакоў слова дзеля адраджэння лепшых традыцый літаратуры, развіцця культурных сувязей беларусаў і расіян. Упэўнены, што вы і надалей будзеце гэтак жа актыўна працягваць сваю творчую і грамадскую дзейнасць", — зазначыў Кіраўнік дзяржавы.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Сяргея Франкоўскага з 50-годдзем. "па праве вас лічаць сапраўднай гордасцю сучаснай беларускай опернай сцэны", — сказана ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 50-гадовым юбілеем народнага артыста Расіі Дзмітрыя Хварастоўскага. "Ваша мастацтва карыстаецца вялікай папулярнасцю і ў Беларусі. Упэўнены, што і ў далейшым вы будзеце рабіць свой значны ўнёсак у развіццё культурнага супрацоўніцтва нашых дзяржаў", — гаворыцца ў віншаванні.

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ўзнагародзіў Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла ордэнам Дружбы народаў за значны ўнёсак у саюзнае будаўніцтва, умацаванне сяброўскіх адносін, адзінства народаў Беларусі і Расіі. Падчас візіту патрыярха быў адкрыты ўсталяваны каля храма Усіх святых помнік Свяцейшаму патрыярху Алексію II.

✔ На нарадзе ў Маскве, якую з міністрамі культуры Беларусі і Расіі Паўлам Латушкам і Уладзімірам Мядзінскім правёў дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы Рыгор Рапота, былі дасягнуты пэўныя дамоўленасці аб супрацоўніцтве ў галіне культуры і падпісана адпаведная праграма на 2013 — 2014 гады. Адзін з пунктаў датычыць аднаўлення гістарычнага месца маёнтка роду Дастаеўскіх у Брэсцкай вобласці, з якога паходзіў пісьменнік Фёдар Дастаеўскі.

✔ Рыгор Рапота, дзяржсакратар Саюзнай дзяржавы, ацаніў работу СМІ на семінары "Саюзная дзяржава Расіі і Беларусі: PR у інтарэсах інтэграцыі". У прыватнасці, ён зазначыў, што грамадскасць слаба інфармавана пра мэты будучыні бліжэйшых суседзяў. На яго думку, нестае і аналітычных матэрыялаў. Кіраўнік камітэта Дзярждумы па справах СНД Леанід Слуцкі выказаў прапанову стварыць тэлевізійны канал навін Саюзнай дзяржавы.

✔ 16 кастрычніка ў Маскве адбыліся беларуска-расійскія творчыя сустрэчы, у праграму якіх увайшло правядзенне "круглага стала" з удзелам беларускіх і расійскіх пісьменнікаў і журналістаў, а таксама сумесны канцэрт вядучых оперных салістаў Вялікага тэатра Беларусі і Вялікага тэатра Расіі.

Падрыхтавала
Таццяна МАСТОЎСКАЯ

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Праверка творчасцю

Пісьменнікі Міншчыны рыхтуюцца да свайго справаздачнага сходу. Чым жа адметны для іх гэты год? Што зроблена? Чаго не ўдалося здзейсніць? На гэтыя і іншыя пытанні "ЛіМа" адказвае намеснік старшыні Мінскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатоль Смалянка.

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ**

— Год кнігі, юбілеі класікаў айчыннай літаратуры Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка… У мерапрыемствах, прысвечаных гэтым падзеям, літаратары сталічнай вобласці бралі і бяруць актыўны ўдзел, — распавядае Анатоль Уладзіміравіч. — Амаль ва ўсіх бібліятэках адбыліся тэматычныя сустрэчы нашых творцаў з чытачамі. Цікавымі і карыснымі, на мой погляд, былі таксама сустрэчы з пагранічнікамі застаў "Лясная" і "Сонца". Паэты і празаікі чыталі свае творы, расказвалі пра творчыя планы, падарылі воінам 35 кніг, аўтарамі якіх з'яўляюцца члены абласнога аддзялення СПБ. Было нямала іншых вечарын: з кіраўнікамі і спецыялістамі прамысловых і сельскагаспадарчых прадпрыемстваў, якія, на мой погляд, натхнілі пісьменнікаў на стварэнне новых запамінальных твораў.

**— Але ж такія мерапрыемствы адбываюцца і ў іншых абласцях — сустрэчы, справаздачы, падарункі, канцэрты… Хіба ж толькі ў гэтым заключаецца работа бюро абласной пісьменніцкай арганізацыі?**

— Вядома ж, не! Штогод пры рэдакцыях раённых газет, у цэнтральных бібліятэках ствараюцца літаратурныя аб'яднанні. У друку, на мясцовым радыё выступаюць не толькі пісьменнікі-пачаткоўцы, але і сталыя сябры нашага Саюза. Дапамагаем маральна і матэрыяльна аўтарам першых кніг, арганізуем іх прэзентацыі. Напрыканцы года мяркуем правесці абласны конкурс у намінацыях "Проза", "Паэзія", "Дзіцячая і юнацкая літаратура". Варта заўважыць, што летась нашы пісьменнікі выдалі 23 кнігі, а ўсяго за час існавання аддзялення — 90 найменняў. Карыстаючыся выпадкам, хачу падкрэсліць, што нядаўна здзейснілася доўгачаканая мара нашых творцаў: у РВУ "Літаратура і Мастацтва" рыхтуецца да выхаду салідны зборнік "Міншчына літаратурная", у якім будуць апублікаваны выбраныя творы ўсіх 62 сяброў абласнога аддзялення СПБ, а таксама лепшыя вершы пачынаючых паэтаў і празаікаў. Аўтары розных узростаў і прафесій славяць маці-Радзіму, яскрава пішуць пра адметныя мясціны, сваіх добрых і мудрых землякоў.

У нас, без перабольшвання, моцная ў творчым плане суполка. Мяркуйце самі: па выніках мінулага года прыза "Залаты купідон" і першай прэміі ўдастоены Зіновій Прыгодзіч. На яго рахунку амаль два дзясяткі мастацкіх і дакументальных кніг. Узнагародай адзначана апошняя з іх — "Постаці". Плённа працуюць Валянціна Гіруць-Русакевіч, Дзмітрый Вінаградаў, Таццяна Атрошанка, Барыс Далгатовіч, Міхаіл Сазончык і многія іншыя.

Упэўнены, што яны і іншыя пісьменнікі яшчэ неаднаразова парадуюць чытачоў новымі цікавымі творамі.

***P.S. Мінскае абласное аддзяленне СПБ цяпер знаходзіцца па адрасе:***
***220030, г. Мінск, вул. Камсамольская, 12, 2-і паверх, пакой 21.***
***Тэл.: 8-017-327-08-60.***

## За падзеяй

# Свята ў горадзе-музеі

Восеньскі, залаціста-барвовы Гродна, дзе на кожным кроку ажывае гісторыя, сустракаў гасцей Першага Нацыянальнага форуму "Музеі Беларусі" — людзей апантаных, зацікаўленых і бескарыслівых, тых, для каго музейная дзейнасць стала справай і сэнсам жыцця.

**Раіса МАРЧУК, фота аўтара**

Сёння ў Беларусі дзейнічае каля 2000 музеяў. На форуме было прадстаўлена больш як 150 дзяржаўных, ведамасных, грамадскіх і прыватных устаноў. Свае экспазіцыі прапанавалі і замежныя госці: Нацыянальны музей Літвы "Палац вялікіх князёў літоўскіх", Калінінградскі абласны гісторыка-мастацкі музей і Разанскі гісторыка-архітэктурны музей-запаведнік.

Асноўныя мерапрыемствы форуму прайшлі з 12 па 14 кастрычніка ў лёгкаатлетычным манежы Цэнтральнага спартыўнага комплексу "Нёман" у рамках Дзяржаўнай праграмы "Культура Беларусі" на 2011 — 2015 гады і былі накіраваны на падтрымку музейнай справы ў краіне, стымуляванне творчых ініцыятыў, заахвочванне музейных работнікаў, якія зрабілі значны ўнёсак у вывучэнне, захаванне і папулярызацыю культурных каштоўнасцей, а таксама на прыцягненне ўвагі грамадскасці да шматграннай музейнай дзейнасці.

— У кожным доме захоўваюцца рэліквіі, якія напамінаюць пра мінулае членаў сям'і. У краіне таксама ёсць куткі, дзе захоўваюцца самыя значныя каштоўнасці, дзе зберагаецца спадчына. Гэта — музеі, — зазначыў падчас урачыстага адкрыцця форуму старшыня Гродзенскага аблвыканкама Сямён Шапіра. — Музейная дзейнасць патрабуе значных выдаткаў, але прыбытак тут у іншым: у развіцці культуры і нацыі, нашай будучыні. Зярняты, якія сеюць музейныя супрацоўнікі, заўсёды даюць добры ўраджай.

У рамках форуму прайшлі дзелавая, дэманстрацыйная і культурная праграмы, майстар-класы для музейных супрацоўнікаў, інтэрактыўныя прэзентацыі, экскурсіі па горадзе і музеях Гродна, выстаўка-продаж твораў народных майстроў, шэраг іншых мерапрыемстваў. У якасці экспертаў музейнай справы выступілі спецыялісты з Аўстрыі, Германіі, Іспаніі, Ізраіля, Латвіі, Літвы, Нідэрландаў, Польшчы, Расіі, Украіны і інш.

— Рашэнне пра правядзенне Першага нацыянальнага форуму "Музеі Беларусі" менавіта ў Гродне было прынята невыпадкова, — распавёў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Павел Латушка. — Горад з нефармальным статусам горада-музея мае даўнія традыцыі працы з гістарычнай спадчынай. Упэўнены, гэты праект стане добрай традыцыяй і будзе вандраваць па гарадах Беларусі. А ў нас будзе нагода раз у два гады сустрэцца і абмеркаваць музейныя справы.

Усе чакалі падвядзення вынікаў конкурсу "Музеі Беларусі — трэцяму тысячагоддзю", якое прайшло ўвечары 14 кастрычніка. Журы разгледзела 175 заявак ад музеяў для ўдзелу ў 17 намінацыях. Прычым некаторыя ўстановы спаборнічалі ў некалькіх намінацыях.

Урачыстая цырымонія ўзнагароджання пераможцаў адбылася падчас закрыцця I Нацыянальнага форуму ў Гродзенскім абласным драматычным тэатры. Як адзначыў намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі, форум стаў адной з галоўных падзей у культурным жыцці Беларусі і музейнай сферы за апошнія гады. Госці Гродна змаглі пабачыць багатую і разнастайную палітру музейнай дзейнасці Беларусі. Як нацыянальныя, так і вясковыя школьныя музеі адказна падышлі да мерапрыемства і падрыхтавалі прыгожыя і змястоўныя прэзентацыі, падзяліліся вопытам, наладзілі кантакты. Вынікам форуму стане рэалізацыя сумесных, у тым ліку міжнародных, праектаў.



Падчас урачыстага адкрыцця форуму.

Гран-пры конкурсу атрымаў калектыў Гомельскага палацава-паркавага ансамбля. Лепшым кіраўніком музея прызнаны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Уладзімір Пракапцоў. Лепшая рэгіянальная ўстанова — Нацыянальны Полацкі гісторыка-культурны музей-запаведнік. Дыплом пераможцы конкурсу ў намінацыі "За вернасць прафесіі" атрымала кіраўнік Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Зінаіда Кучар. Дыплом за лепшую працу рэстаўратараў уручаны Гродзенскаму дзяржаўнаму музею гісторыі рэлігіі за вяртанне да "жыцця" партрэта "Манах картэзіянец Джон Х'ютан. Заходняя Еўропа XVII ст.", за лепшае музейнае выданне — Нацыянальнаму мастацкаму музею за серыю кніг "Славутыя мастакі з Беларусі". У ліку пераможцаў у намінацыях — мемарыяльны комплекс "Брэсцкая крэпасць-герой", Магілёўскі абласны краязнаўчы музей імя Е. Р. Раманава, Нацыянальны гістарычны музей, Вілейскі краязнаўчы музей.

— Агульнае ўражанне ад форуму — вельмі добрае, — заўважыў куратар выставак Нацыянальнага музея Літвы "Палац вялікіх князёў літоўскіх" Марюс Узорка. — Кожнае падобнае мерапрыемства станоўча ўплывае на культурнае жыццё краіны. Мне спадабалася менавіта тое, што было прадстаўлена столькі музеяў. Хаця некаторыя мае калегі заўважылі, што, можа, гэта і зашмат. Маленькі мінус бачу ў тым, што ўстановы дэманстравалі не столькі сваю дзейнасць і фонды, колькі carыентаваліся на само свята. І атрымлівалася так, што іншы раз за песнямі і танцамі дзейнасць музея адыходзіла на другі план. Зразумела, гэта свята, але яго мэта павінна быць іншай: у першую чаргу паказаць тое, што музей мае, тое, чым займаецца штодня. У нас падобных форумаў пакуль не праводзілася.

Літабсягі

# Медаль за літаратурную працу

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА,**
**фота Кастуся Дробава**

Творчы вечар Святланы Яўсеевай, члена Саюза пісьменнікаў Беларусі і Саюза пісьменнікаў Расіі, прысвечаны юбілею паэтэсы, прайшоў у Мінску ў Цэнтры навукі і культуры Расійскай Федэрацыі.



*Паэтэса Святлана Яўсеева.*

Як адзначыў на адкрыцці мерапрыемства кіраўнік прадстаўніцтва, саветнік Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь Віктар Малашэнка, лёс Святланы Георгіеўны вельмі сімвалічна аб'ядноўвае некалькі краін. Нарадзілася ва Узбекістане, жыла ў Кіргізіі, ярка заявіла пра сябе ў Маскве (у 1962 годзе выйшаў першы зборнік яе вершаў "Женщина под яблоней", ухвалены Барысам Пастарнакам, Міхаілам Святловым, Давідам Самойлавым) і ўжо пяцьдзясят гадоў жыве ў Мінску.

Выпускніцу літаратурнага факультэта Ташкенцкага інстытута, Літаратурнага інстытута імя Горкага прыгадваюць побач з Навелай Матвеевай, Андрэем Вазнясенскім, Яўгенам Еўтушэнкам і іншымі легендарнымі шасцідзясятнікамі. Яна была прынята Ганнай Ахматавай. Не раз выступала на вечарах з Булатам Акуджавам.

Госці імпрэзы пазнаёміліся з дакументальнай стужкай пра Святлану Георгіеўну, сцэнарый для якой напісала Ірына Масляніцына. Містычны пачатак яе гісторыі — праклён родзічаў-старавераў Алтая на чатыры пакаленні прабабцы, што збегла з чалавекам, якога пакахала. У біяграфіі паэтэсы — прысвячэнні слынных паэтаў, вялікае каханне, ад якога яна намагалася схавацца ў любові і пяшчоце іншага чалавека, сын, сяброўства з Бэлай Ахмадулінай.

На вечарыне гучала шмат вершаў: чытала свае новыя творы Святлана Яўсеева, цытавалі яе радкі вядучы Юрый Сапажкоў, Наталля Касцючэнка, Вадзім Спрынчан, Таццяна Шпартава, свой пераклад на беларускую мову прэзентаваў юбілярцы Мікола Шабовіч. Даслалі віншаванні Станіслаў Куняеў і Анатоль Аўруцін.

Узнагародай Мінскага гарадскога аддзялення СПБ — ганаровай граматай за шматгадовую плённую літаратурную працу, актыўны ўдзел у грамадскім жыцці — адзначана дзейнасць Святланы Георгіеўны. Старшыня аддзялення Міхась Пазнякоў перадаў юбілярцы віншаванні ад старшыні СПБ Мікалая Чаргінца і ўручыў вышэйшую ўзнагароду творчага саюза — медаль "За вялікі ўклад у літаратуру".

Арт-лінія

# Сакрэты кітайскага жывапісу

Персанальная выстаўка манахромнага жывапісу тушшу суйбоку-га "Віхор Імгненне" Марыны Эльяшэвіч адкрылася ў сталічнай галерэі "Беларт".

**Дар'я ШОЦІК,**
**фота аўтара**

Традыцыі кітайскага манахромнага жывапісу склаліся яшчэ ў XII — XIII стст. Суйбоку-га азначае "карціна вадой і тушшу". Для работы ў такой цікавай і незвычайнай тэхніцы выкарыстоўваюць чорную туш, якая разводзіцца вадой і наносіцца пэндзлем на паперу або шоўк. Вынік — цудоўны твор мастацтва.

Марына Эльяшэвіч прызнаецца, што ў сваіх работах імкнулася захаваць галоўныя прынцыпы манахромнага жывапісу: духоўнасць, гармонія, філасофскае светаўспрыманне. Мастачка, асвоіўшы ўсходні жывапіс, які мае свае адметныя рысы (стварэнне дакладных дэталяў, адчуванне навакольнага свету), адлюстравала іх у анімалістычным жанры.

— Адценні шэрага ствараюць плаўныя лініі аб'ёму. У фарбы таксама дабаўляю кітайскую гарбату: зялёную, чорную. Для стварэння каляровых работ выкарыстоўваю карыцу і ваніль, — патлумачыла Марына Эльяшэвіч.

Сапраўды, унікальная тэхналогія, якая аб'ядноўвае складанасць і вытанчанасць кітайскага жывапісу, бо кожны перададзены элемент на карціне — сімвал. Самі назвы зачароўваюць: "Казка майго жыцця", "Вобраз твой", "Дарога змен", "Свежасць гор", "Люстэрка душы" ды іншыя.

Прынамсі, у мастачкі былі ўжо персанальныя выстаўкі "Свет, які я люблю…" у родным горадзе Гродна ў галерэі Тызенгаўза (2012), "На беларуска-кітайскай мяжы" ў мінскім Палацы культуры (2012).

Куратар выстаўкі "Віхор Імгненне" мастацтвазнаўца Наталля Паўленка заўважае, што Марына Эльяшэвіч — практычна адзіная, хто прапаноўвае беларускаму гледачу карціны, зробленыя ў тэхніцы традыцыйнага кітайскага жывапісу.



*Лі Цзо з мастачкай Марынай Эльяшэвіч.*

На адкрыццё экспазіцыі завіталі паэт, перакладчык, майстар каліграфіі Лі Цзо, мастацтвазнаўца Яўген Шунейка, віцэ-прэзідэнт Міжнароднага жаночага клуба паслоў і дыпламатаў Наталля Сухавецкая.

Дарэчы, на выстаўцы адбылася і прэзентацыя кнігі М. Эльяшэвіч "Кітайскі жывапіс", дзе змешчаны мастацкія работы аўтара.

Повязі

# Турцыя вачыма паэта

Так называлася літаратурна-музычная вечарына ў Доме дружбы, прысвечаная Дню Рэспублікі Турцыя. На сустрэчу завіталі выкладчыкі і студэнты ВНУ, госці Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі.

**Ярына РЫТАМІНСКАЯ,**
**фота аўтара**



*На еўрапейскім беразе Басфора — крэпасць Румеліхісар.*

Яшчэ адна нагода для сустрэчы ў Доме дружбы — гэта дваццацігоддзе ўстанаўлення дыпламатычных адносін з Турцыяй. Дваццаць год — вялізны адрэзак часу, падчас якога фарміравалася прававая база стасункаў. Нягледзячы на значную геаграфічную аддаленасць, з кожным годам усё больш жыхароў Беларусі і Турцыі даведваюцца пра жыццё і традыцыі адно аднаго. Кантакты ў галіне культуры, адукацыі, навукі, эканомікі, грамадскія сувязі — заснаваныя найперш на ўзаемнай павазе.

Турцыя — краіна, якая шануе дарагія ёй імёны, адно з іх — імя пісьменніка-філосафа Фетхулаха Гюлена. Менавіта ён імкнуўся да дыялогу паміж Турцыяй і іншымі краінамі. І турэцкая дзяржава ганарыцца тым, што ініцыятарам дыялогу ад грамадства выступае менавіта гуманітарый.

Апошнім часам пашыраюцца стасункі ў інфармацыйным асяродку і на літаратурным полі. Дзякуючы працы перакладчыкаў ды навукоўцаў імя Фетхулаха Гюлена стала вядома і ў Беларусі. У Турцыі таксама знаёмяцца з сучаснымі беларускімі творцамі. Улетку дэлегацыя Мінскай гарадской арганізацыі Саюза пісьменікаў Беларусі наведала Стамбул. З'явіліся публікацыі і літаратурныя творы. Між іншым, публікацыя "ЛіМа" ("Дыялог са Стамбулам") паводле вынікаў гэтай паездкі змешчана на сайце фонду "Дыялог Еўразія". Дзякуючы дзейнасці прадстаўніцтва гэтага фонду ў Беларусі межы дыялогу — раўнапраўнага, паважлівага і пастаяннага — значна пашыраюцца.

Цікава і тое, што ў Турцыі, краіне з большасцю мусульманскага насельніц-тва, тым не менш захаваліся хрысціянскія святыні. Беларусы не прамінаюць музей Ая-Соф'я — былы Канстанцінопальскі Сафійскі сабор, па ўзоры якога пабудаваныя Сафійкі Полацкая, Кіеўская і Наўгародская. Падчас Асманскай імперыі ў XVI ст. яго перабудавалі пад мячэць.

Пра каштоўнасці, якія ўбачылі на турэцкай зямлі, слухачам распавялі пісьменніцы Ірына Тулупава і Аліна Легастаева. Яны прачыталі свае вершы на беларускай і рускай мовах. Лірычны настрой падтрымаў студэнт Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта Тайфун Кылач, які чытаў вершы па-турэцку. На вечарыне выступілі лаўрэаты міжнародных конкурсаў, стыпендыяты Фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Валерыя Ляшчук і Ганна Ліманоўская (абедзве граюць на габоі), песні на турэцкай мове выканалі Анастасія Кірыльчык і Ганна Султановіч.

Беларускія спевы прапанавалі Анастасія Кірыльчык і салістка ўзорнай студыі эстраднай песні "Рапсодыя" Дар'я Конанава. Выступіў таксама ансамбль скрыпачоў "Кантабіле".

З-пад пяра

Кніга азербайджанскага прафесара Аіды ханум Імангуліевай "Статьи и переводы" была прэзентавана ў галерэі "Лабірынт" Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Аіда ханум Імангуліева — першая жанчынаўсходазнаўца, а яе навуковыя работы — артыкулы і пераклады, апублікаваныя яшчэ ў 60 — 80-я гады мінулага стагоддзя (яны, дарэчы, і склалі кнігу, выдадзеную Інстытутам Усходазнаўства Нацыянальнай Акадэміі Навук Азербайджана), і сёння ў цэнтры ўвагі ўсяго свету. Прафесар адкрыла новую старонку ў вывучэнні сучаснай арабскай культуры, заклала аснову новай школы.

**Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

У Палацы Рэспублікі ў Мінску адбыўся прыём з нагоды дзяржаўнага свята Чэшскай Рэспублікі — Дня святога Вацлава. На ўрачыстасць былі запрошаны дзеячы культуры і мастацтва, прадпрымальнікі Беларусі і Чэхіі. Мудры ўладар ведаў, "калі ўзяць у рукі меч, а калі можна пазбегнуць зла шляхам перамоў". Легенды пра яго дабрыню і справядлівасць спрыянне міру паміж народамі захаваліся ўдзячнымі нашчадкамі. Як святога яго шануе і Руская Праваслаўная Царква. Творы для выстаўкі-падарунка нябеснаму апекуну Чэхіі прадаставілі вядомыя беларускія мастакі: Валерый Славук, Барыс і Аксана Аракчэевы, Наталля Паплаўская, Ала Каласенкава, Уладзімір Федаровіч, Спартак Аруцюнян, Вячаслаў Паўлавец, Дзяніс Барсукоў, Уладзімір Ткачоў і іншыя.

**Вольга НОРЫНА**

Выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" праводзіць серыю пазнаваўчых мерапрыемстваў для юных чытачоў — "Урокі ў кніжным". Так, 17 кастрычніка дзеці, што завіталі ў кнігарню "Прэзентацыя", мелі магчымасць пазнаёміцца з гадаванцамі Рэспубліканскага эколага-біялагічнага цэнтра і сустрэцца з героямі кніг серыі "Маленький профессор", заснаванай выдавецтвам.

**Алеся БАЦЮСЬ**

Сёння ў галерэі "Беларт" а 17-й гадзіне адкрываецца дабрачынная выстаўка-продаж "Help Stasya", арганізаваная групай мастакоў у падтрымку маладой і таленавітай мастачкі Анастасіі. Тут можна будзе набыць работы і вядомых беларускіх творцаў, і студэнтаў Акадэміі мастацтваў. Працаваць выстаўка будзе з 19 па 21 кастрычніка з 10 да 18 гадзін.

**Арцём ВАСІЛЕВІЧ**

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніку Сотнікаву Міхаілу Юр'евічу (Міхасю Южыку) з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці МАЦІ.

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць шчырыя спачуванні пісьменніцы Шамякінай Марыі Вячаславаўне з прычыны напаткаўшага яе вялікага гора — смерці БАЦЬКІ.

# Асоба. Час. Лёс

**(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.)**

З 1984 па 1987 год М. Чаргінец служыў у Афганістане. Непасрэдна ўдзельнічаў у баявых аперацыях, быў паранены і кантужаны. Убачанае, перажытае, выпакутаванае не магло прайсці бясследна. Так нарадзіліся раманы “Тайна Чёрных гор” і “Сыновья”. Усё ў іх узята, як кажуць, з пярэдняй лініі барацьбы. Праўда ў гэтых творах — жорсткая, бескампрамісная, такая, пра якую кажуць, што яна аголеная. Аднак інакш Мікалай Іванавіч пісаць проста не мог. Не меў маральнага права. Перад памяццю тых, хто назаўсёды застаўся ў Афганістане. Пісаў і дзеля тых, хто выжыў, годна выканаўшы свой інтэрнацыянальны абавязак.

Раман “Сыновья”, як і многія іншыя кнігі М. Чаргінца, неаднойчы перавыдаваўся (гэта пры тым, што першы тыраж яго, як і “Тайны Чёрных гор”, быў для Беларусі агромністы — 180 тысяч экзэмпляраў), што само па сабе ўжо сведчыць пра вялікую запатрабаванасць гэтых твораў. У 1990 годзе “Сыновья” адзначаны сярэбраным медалём імя Аляксандра Фадзеева, а ў 1995-м — залатым медалём разам з міжнароднай прэміяй імя Валянціна Пікуля. Гэты твор перакладзены на многія мовы. Нядаўна ён выйшаў і на беларускай мове ў РВУ “Літаратура і Мастацтва”. Дарэчы, сам М. Чаргінец любімымі творамі называе дылогію “За секунду до выстрела” і раман “Сыновья”.

А вось раман “Смерть за смерть” трэба аднесці да той разнавіднасці дэтэктыва, якая аналагаў у беларускай літаратуры не мела. Гэта свайго роду хрэстаматыйны баявік, у многім падобны да тых, якія цяпер існуюць у кінаверсіях. Аднак яны, як кажуць, замежнага “пашыву”, а тут напісаны айчынным аўтарам.

Назву “Смерть за смерть” М. Чаргінец даў твору невыпадкова. Менавіта гэтым правілам кіруецца адзін з галоўных герояў твора Раман Звераў, даведаўшыся пра гібель свайго бацькі ад рук наркагандляроў, не чакаючы афіцыйнага расследавання забойства.

Несумненна, гэта супрацьзаконна. Інструктарам па рукапашным баі Зверавым-малодшым кіруе звычайная помста, якая не дазваляе чалавеку адэкватна ацэньваць свае ўчынкі. Аднак, не будзем забываць, гэта святая помста. Раман забівае тых, хто ператварыўся ў звяроў, хто з-за прагі грошай пасягае на жыцці соцень, тысяч людзей, рыхтуючы ім марудную смерць.

Страшны Раман Звераў у сваім праведным гневе. Настолькі страшны, што разумееш: яго ўжо нішто не можа спыніць і ён ні перад чым не спыніцца. Ён і на самой справе звер, але не той, які загнаны ў пастку, а той, які выйшаў на паляванне і перапоўнены нянавісцю да ўсіх, хто пазбавіў яго спакою. Пры гэтым дзейнічае настолькі рашуча, што да пары да часу на сваім шляху не сустракае ніякіх перашкод, а ўсёдазволенасць яшчэ больш надае яму агрэсіўнасці і бязлітаснасці.

Мікалай Чаргінец вельмі псіхалагічна дакладны, калі перадае душэўны стан свайго персанажа: “Он (Роман. — **А. М.**) уже представлял, как избивает до смерти торговцев наркотиками, как они корчатся по земле и молят о пощаде. Зверев представлял, как пожирают языки пламени отобранную “травку”.

В его воспалённом воображении возникала картина, где он горстями заталкивает героин и гашиш в рот убийце своего отца.



*Дзяржсакратар Савета Бяспекі генерал-палкоўнік Леанід Мальцаў прэзентуе юбіляру сваю кнігу.*



*Мікалай Чаргінец і Валерый Ганічаў.*

Роман ощутил непреодолимую жажду крови. В этот момент он почувствовал себя настоящим зверем, настоящим хищником, собирающимся выйти на охоту”.

Часам, праўда, у хваравітым успрыняцці рэчаіснасці як бы наступае прасвятленне: “Неужели я убил пять человек, а одного покалечил без всякого смысла? Нет... В это невозможно поверить. Нет... Я не хочу в это верить”. Аднак гэтыя думкі імгненна знікаюць: “Роман смахнул со лба крупные бисеринки пота и горько усмехнулся.

— Клянусь тебе, отец, это меня не остановит, — тихо и торжественно произнёс он”.

“Дабрадзеі” маральнасці і справядлівасці, прачытаўшы гэта, гатовы абурана закрычаць: “Як можна падобныя дзеянні апраў-дваць! Гэта ж самасуд, беззаконне! Ніхто не мае права пазбаўляць чалавека жыцця!” Але ж пісьменнік і не апраўдвае Зверава. Ён праўдзіва і бескампрамісна паказвае, да чаго можа дайсці чалавек, калі сутыкаецца з несправядлівасцю, бачыць, што грамадства не можа абараніць ні яго самога, ні блізкіх яму людзей.

Так, пра любога пісьменніка перш за ўсё мяркуюць па ягоных кнігах. Аднак нямала пра чалавека можа расказаць і яго акружэнне, сябры. У розны час Мікалаю Чаргінцу давялося кантактаваць са шмат якімі вядомымі людзьмі, а з некаторымі з іх і па сённяшні ён падтрымлівае сяброўскія сувязі. Цудоўныя стасункі ў яго былі і з народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым.

— З Васілём Уладзіміравічам, — прызнаецца Мікалай Іванавіч, — мы знаходзіліся ў добрых, прыяцельскіх адносінах. — Калі быць шчырым і праўдзівым, Быкаў па-сапраўднаму любіў толькі некалькі чалавек, і, натуральна, яны былі яму найбольш блізкімі. Часцей за ўсё ён успамінаў Генадзя Бураўкіна, Рыгора Барадуліна, Анатоля Сульянава. Калі называў іншых літаратараў са свайго бліжэйшага акружэння, то больш у эмацыянальным плане ці нават гумарыстычным, хоць асобных з іх і цаніў. Аднак тым не менш нас з Васілём Уладзіміравічам многае звязвала. Таму крыўдна становіцца, калі некаторыя “свядомыя пісакі” спрабуюць сёння сцвярджаць, што Быкаў, маўляў, рэцэнзаваў творы Чаргінца ці пісаў да іх прадмовы толькі таму, што па дабрыні сваёй нікому і ні ў чым не мог адмовіць.

Іх пазнаёміў Мікола Матукоўскі. Адбылося гэта недзе ў 1974 ці 1975 годзе. “З Быкавым, — працягвае М. Чаргінец, — як мне здаецца, мы хутка сышліся таму, што я па сваёй прафесіі быў, як кажуць у народзе, мент. Вось Васілю Уладзіміравічу і захацелася лепш даведацца, што я сабой уяўляю. Ён жа быў тонкім псіхолагам. Таму яму і не цярпелася глыбей зазірнуць у душу новага чалавека, які сустрэўся на ягоным жыццёвым шляху. А тут высветлілася, што мент гэты таксама ўмее разбірацца ў людзях, непрадузята ставячыся да іх, не імкнецца ў чалавеку абавязкова ўбачыць нешта крымінальнае, калі той нават аступіўся. Гэта, бадай, і прывяло да таго, што мы паступова ўсё больш і больш сыходзіліся”.

Як выдатную якасць Быкава ён адзначае ўменне падтрымаць чалавека ў няпростай для яго сітуацыі. Гэтую падтрымку М. Чаргінец асабліва адчуў, калі знаходзіўся ў Афганістане: “Ад Васіля Уладзіміравіча вестачкі прыходзілі рэгулярна. То маленькія, зусім кароткія лісты, памерам са звычайную паштоўку, то на некалькіх старонках. Пісаў Быкаў з характэрнай для яго адкрытасцю. Аднак, разумеючы, што пісьмо могуць перахапіць ці зусім не пусціць у Афган, часам рабіў прочыркі, ставіў элементарныя шматкроп’і”.



*З Ганнай Цімафееўнай Гагарынай.*

Перабіраючы ў памяці вобліккі тых, з кім яго зводзілі жыццёвыя шляхі-дарогі, Мікалай Іванавіч, па ягоным прызнанні, прыходзіць “да думкі, што ні з кім не сышоўся так блізка, як з маці першага касманаўта Юрыя Гагарына. Канечне, лёс падарыў мне нямала сустрэч з многімі цікавымі людзьмі... Аднак Ганна Цімафееўна ў маёй біяграфіі займае асаблівае месца. Не ведаю, як гэта адбылося, але мы з ёй сышліся вельмі блізка і хутка”.

Першая сустрэча адбылася ў 1973 годзе дзякуючы сябру М. Чаргінца генералу Янкоўскаму, які ў той час займаў высокую пасаду ў штабе Беларускай ваеннай акругі. Потым Ганна Цімафееўна па некалькі разоў на год прыязджала да сям’і М. Чаргінца ў госці, жыла ў яго на кватэры і на дачы тыднямі.

Ёсць што ўспомніць М. Чаргінцу. Ёсць каго прыгадаць. Сама ягоная біяграфія варта кнігі. Дарэчы, такая кніга і ёсць — “Личность. Время. Судьба”. Пяць гадоў таму яна выйшла ў серыі “Жыццё знакамітых людзей Беларусі”, якую выпускае выдавецтва “Мастацкая літаратура”, “Наш современник”.

Да ўжо сказанага нельга не дадаць, што М. Чаргінец двойчы выбіраўся членам Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь і старшынёй Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы.

За разнапланавыя дасягненні ў галіне культуры і навукі ў 1998 годзе занесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса, а ў 2005-м Кембрыджскім біяграфічным цэнтрам названы “Прафесіяналам-2005”.

# Жыццё ў фотаздымках

Фотакамера, як і чалавечая памяць, выбірае з мінулага самыя выразныя эпізоды. І ў імкненні лепш, больш падрабязна разгледзець, асэнсаваць і перааацаніць тое, што з табою калісьці адбылося, фотаапарат становіцца неадушаўлёным, але аб'ектыўным спадарожнікам чалавека. Хто хоць аднойчы наведаўся ў працоўны кабінет Мікалая Чаргінца, заўважыў вялікую колькасць фотаздымкаў: у рамачках на сценах, на стале, на кніжных паліцах. Але гэта — невялікая частка сабранага архіва. У Мікалая Іванавіча — сотні фотаздымкаў, яны раскладзеныя па асобных скрынях. І калі ён бярэ іх у рукі, па кожным атрымліваецца асобны аповед.

**Ірына ТУЛУПАВА**

## ШТО ЎБАЧЫЎ ПАПАРАЦЫ

Я слухаю свайго суразмоўцу, яго дакладныя, да дробных дэталяў адноўленыя расповеды пра падзеі, якія папярэднічалі з'яўленню таго або іншага здымка, і не магу не адзначыць: у яго фатаграфічная памяць. Карціны з жыцця — выразныя і эмацыянальныя, яны



*З Уладыкам Філарэтам.*

насычаныя фарбамі і нават пахамі, яны пазнавальныя! І хочацца параўнаць пачутае з тым, што ў той самы момант бачыў папарацы і яго фотаапарат. Звяраю. І з частак атрымліваецца цэлае.

## НА ФОТАСТУЖЦЫ — БІЯГРАФІЯ

Кароткіх каментарыяў да фотаздымкаў у ходзе гутаркі будзе шмат. Праслухоўваючы іх пасля, запісанымі на дыктафон, я здзіўляюся: яны, як выпадковыя здымкі, дубляў якіх робіш шмат, каб пасля адабраць адзін, стануць тым натуральным фонам, у якім жыве і прымае рашэнні чалавек.

Дзяцінства. Далёкае і не бясхмарнае. Усяго адзін фотаздымак захоўвае памяць пра бацькоў. Мама і тата разам. Яны будавалі сям'ю, дом, а знешнія абставіны раз'ядноўвалі іх. На дні, тыдні, гады. Сям'я Чаргінцоў — шматдзетная, адна з тысяч сем'яў на Беларусі.

З дзясятак фота паказваюць захапленне спортам. Карэя, Кітай, Мінск, Кішынёў — пашыраецца геаграфія, з'яўляюцца новыя адрасы. Ёсць фотаздымкі з Кіева і Вінніцы, выява стадыёна "Масква" мінулых гадоў, па дарожцы якога ідуць Мікалай Чаргінец і савецкі футбаліст, нападаючы зборнай СССР, пасля — трэнер Эдуард Малафееў.

Наступны блок фотаздымкаў —перыяд службы ў міліцыі. Мікалай Іванавіч служыў у органах унутраных спраў — ад радавога да начальніка ўпраўлення крымінальнага вышуку Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.

Асобным стосам — здымкі, зробленыя ў Афганістане. Прадстаўленне да ўзнагарод: Мікалай Іванавіч уганараваны 11 ордэнамі. Сярод іх — ордэн Пашаны Рэспублікі Беларусь, ордэн Айчыны III ступені Рэспублікі Беларусь, тры ордэны СССР — Баявога Чырвонага Сцяга і два — Чырвонай Зоркі, два ордэны з Афганістана — ордэн Чырвонага Сцяга і "За храбрасць".

Парламенцкая дзейнасць — гэта 12 гадоў у палітыцы. З 1997 па 2008 гады Мікалай Чаргінец — старшыня Пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і нацыянальнай бяспецы. Сустрэчы ў ААН, выступленне на сесіі Генеральнай асамблеі — працяглыя і кароткія, упэўненыя і асцярожныя, — паступовыя крокі на шляху міжнароднай дыпламатыі... Мікалай Іванавіч пабываў больш як у 70 краінах, у асноўным гэта былі рабочыя паездкі.

Грамадская дзейнасць і творчы шлях. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі — сустаршыня Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Старшыня Рэспубліканскага грамадскага савета па маральнасці, член Кансультатыўнага савета пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, старшыня Таварыства дружбы Беларусь — Кыргызстан. Член Саюза журналістаў, Саюза кінематаграфістаў Рэспублікі Беларусь. Нарэшце, фотаздымкі сям'і: жонкі, дзяцей, унукаў.

## ТРЫ ЎСПАМІНЫ З МІНУЛАГА

Мікалай Іванавіч узгадвае дзяцінства, звязанае з Украінай і Беларуссю. Якраз перад вайною сям'я выехала ў суседнюю рэспубліку да сваякоў бацькі — пагасцяваць. Там і застала іх трагічная вестка пра напад Германіі на Савецкі Саюз. Рашэнне вярнуцца назад, у Мінск, было зразумелае. Але дарога была доўгаю — і па адлегласці, і па часе: ехалі на кані.

— Памятаю, нас праводзіла ўсё сяло. Там вельмі шмат Чаргінцоў, з якіх каля сямі чалавек сталі Героямі Савецкага Саюза, — распавядае Мікалай Іванавіч. — Гэта стала вядома пасля, праз шмат гадоў. А тады, гледзячы на нас, плакалі. Лічылі, смертнікі ад'язджаюць. Як да Мінска дабрацца падчас акупацыі? Ішоў жа 1941 год. А маці была ўпэўненая: даедзем. Прыехалі ў Мінск 31 снежня: месяц з лішкам дабіраліся. Ехалі на возе, спыняліся ў вёсках. Помню, ужо на Гомельскай тэрыторыі былі. Таму што дзве ракі пераехалі. Як перапраўляцца? Ноччу цераз мост нельга — застрэляць. Можна было ісці толькі па лёдзе. Мама шукала ў вёсцы месца для начлегу — ніхто не пускае: баяцца. На вуліцы таксама нельга стаяць... Загналі каня на першы стрэчны двор. Мама нас стала ўхутваць: з сабою ўзялі два цёплыя кажухі, іх нам далі ў дарогу яшчэ ва Украіне. Выйшла на парог бабка, пашкадавала, пусціла на земляную падлогу ў дом. Саломы трошкі пасцяліла. Так і спалі! А раніцай паехалі: трэба было працягваць шлях... Прыехалі ў Мінск, на Танкавую — перад вайной мы там жылі, васьмёра дзяцей і маці. Там, дзе вуліца ідзе ўніз, стаяў дом, на яго першым паверсе была наша кватэра, якая падавалася вельмі вялікай: на адзін ці два пакоі. Памятаю, печ была вялікая... А вярнуўшыся з Украіны, убачылі, што ў нашым мікраераёне — гета. Маміны знаёмыя падказалі, што ёсць магчымасць спыніцца на вуліцы Цнянскай. Так мы трапілі ў іншы раён акупіраванага горада. Каня забілі, мяса падзялілі, так што некалькі тыдняў у нас было што паесці.

…Цнянка. Яна побач з Камароўкай. На Камароўцы часта немцы вешалі дарослых і дзяцей. Міжволі даводзілася быць сведкам тых жахаў. У рамане "Вам задание" пісьменнік Чаргінец выкарыстае не адзін эпізод...

— Немцы з выгляду, як нам падавалася, добрыя былі, — працягвае Мікалай Іванавіч. — Мы ж — зусім яшчэ дзеці. Бачым, немец ідзе — мы да яго: пан, дай "бом-бом". Гэта цукеркі. Ведалі аднаго "свайго" афіцэра, таму і дазвалялі сабе да яго падысці. А аднойчы ён раптам "парабелум" выхапіў і давай па нас страляць. Я тады худы ды маленькі быў, юркі: скочыў пад вароты і збег. Сцішылася стральба, пайшоў той немец, а я вярнуўся, гляджу: Вова, сябар мой, ляжыць з куляй у галаве. Часта пасля гэта ўспамінаў.

— Як ні дзіўна, вайну я памятаю выдатна. Наша сям'я была сувязной. Родны брат маці, Статкевіч, быў камандзірам буйнога партызанскага атрада. І, вядома, партызанаў цікавіла інфармацыя з Мінска. Народныя мсціўцы групаваліся ва ўсіх лясных масівах і ваколіцах: у Бараўлянах і Астрашыцкім гарадку, у Раўбічах.

Немцы, бясспрэчна, здагадваліся пра нашую ролю. Разы два на тыдзень у нас праводзілі вобыскі.

Неяк з сястрой Жэняй пайшлі на Танкавую. На той час участак быў абнесены дротам, і надпісы на рускай і нямецкай: "Стой! Стреляем без папярэджання!" Ды мы і з практыкі ведалі, што страляюць. Прыйшлі, бачым: чалавек 200 сагнаныя за тым дротам. Чуткі пайшлі, што будуць выводзіць яўрэяў на расстрэл. Адчыняюцца вароты, праз іх гоняць яшчэ



*На здымачнай пляцоўцы.*

натоўп. Аўчаркі нямецкія ідуць уздоўж калоны. Немцы і паліцаі адзін ад аднаго метраў каля дзесяці. І раптам чую голас нашай былой суседкі, мы з ёй у адным доме жылі: "Жэня! — кліча маю сястру. — Забяры Софу!" І штурхае дзяўчынку далей ад сябе. А дзяўчынцы гадочкі два з паловай. Мы забралі яе, добра, немцы не заўважылі.

Але пайшлі чуткі, што мы яе хаваем. І толькі мама магла скумекаць, дзе яе хаваць. У нас была руская печ. Каля яе — палок. Непадалёк — грубка. У ёй — дзве чыгунныя дверцы. Адна з іх — для жароўні. Мама выцягнула жароўню, разбіла сценку, і ў чатцы паміж топкай і жароўняй хавалі дзяўчынку. Дык я яе сам ледзьве не выдаў. Лета, цёпла з самае раніцы, памятаю, выйшаў я на ганак. І да мяне падыходзіць у скуранай куртцы мужчына: "Як цябе завуць?" — "Коля". — "Цукерку хочаш?" Я, вядома ж, хачу. Мяне частуюць: усё, дзядзька свой! А ён працягвае: "Як справы? Хлеб атрымліваеце?" Маці атрымлівала бохан хлеба, мы яго цэглай называлі. Хлеб напалову быў з драўляным пілаваннем. Аднак і яго ніткай разразалі на восем кавалкаў. Кожны з нас вачыма выбіраў кавалак патаўсцей… А незнаёмец працягвае: "Біцца на кулаках, пэўна, з хлопчыкамі часта даводзіцца?" Не без гэтага. "Ты перамагаеш?" А як жа! "Вось бачыш, — працягвае ён, — усе лічаць, што немцы страшныя… Яшчэ цукерку хочаш?" І зноў цукерку паказвае, але ўжо не дае: "А твая мама добра дзяўчынку хавае? Не знойдуць яе?" Клапатліва цікавіцца. І я яму веру. "А дзе гэтая дзяўчынка хаваецца, шапні мне"… Але на парог у гэты момант выйшла маці — я дагэтуль помню яе вочы.

Мама нягучным загадам спыніла сына.

— І я ўсё зразумеў, паказаў на суседскую дзяўчынку. Але было зразумела: гэта не яна…

Так Яго Вялікасць Выпадак уратаваў сям'ю ад трагедыі...



*Кадр з фільма "Вам — задание".*

# З пройдзеных дарог

## 105 ГАДОЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ РАМАНА САБАЛЕНКІ



"Я на чорны рынак не панёс ні свае пачуцці, ні сумленне..." Гэты верш Рамана Сабаленкі не ўвайшоў ні ў адно выданне. Верш, які крытыкі маглі б назваць "праграмным", не быў надрукаваны, відаць, таму, што ў квітнеючай савецкай краіне не магло існаваць "чорнага рынку". Але, на жаль, існавалі і "чорны рынак", і здрадніцтва. Хай хтосьці гаворыць, што адмова ад некаторых прынцыпаў была адзіным шляхам да выжывання ў страшэнныя гады тэрору і рэпрэсій, у чорны ваенны і змрочны пасляваенны час, але заўжды былі людзі, якія ніколі і нікога не выдалі, не падманулі, не выракліся сяброў, не данеслі на знаёмых. Яны таксама баяліся за сябе, а яшчэ больш за сваіх блізкіх, але ніхто не мог іх прымусіць да здрады. Адным з іх быў Раман Сабаленка.

**Вераніка ПАЛЯКОВА**

Раман Сабаленка нарадзіўся ў вёсцы Сабалі, якая цяпер адносіцца да адселенай тэрыторыі Брагінскага раёна. У вялікай сялянскай сям'і ён быў старэйшым сынам, меў дзвюх сясцёр і чатырох братоў. Што прымусіла яго пачаць пісаць — неабсяжныя палескія краявіды, чаканне нейкіх цудоўных змен у жыцці, уласная маладосць? Раману было 20 гадоў, калі яго верш надрукавала газета "Звязда". Час быў вельмі складаны, але сялянскі хлопец, адказны за вялікую сям'ю, пісаў… "Плацдармам" яго творчасці стала гомельская газета "Новая деревня". Гэта цяпер гучыць смешна, а ў 20 — 30-я гады таго стагоддзя "Новая деревня" з'яўлялася паўнаважкім сродкам масавай інфармацыі. Выбраная прафесія вымагала ведаў, і хлопец пайшоў вучыцца. У 1929 годзе ён скончыў Гомельскі педагагічны тэхнікум. На гэтым адукацыю часова прыпыніла служба ў Чырвонай Арміі. Пасля дэмабілізацыі Раман Карпавіч уладкаваўся стыльрэдактарам абласной газеты "Палеская праўда" (з 1938 года "Гомельская праўда") і паступіў на вячэрняе аддзяленне Гомельскага педагагічнага інстытута. Мы дакладна не ведаем, ці скончыў ён гэты інстытут, бо далей пачалі адбывацца падзеі трагічныя. Першы раз Раман Сабаленка быў арыштаваны ў снежні 1933-га, але справу хутка закрылі. Паміж арыштамі ў 1935 годзе апублікаваў у часопісе "Полымя" паэму "Брагінь" пра свае ўлюбёныя мясціны...

Праз чатыры гады, 26 верасня 1937 года, пісьменніка забралі па абвінавачванні ў польскай нацыяналістычнай прапагандзе ў выглядзе распявання польскіх песень. Тут трэба заўважыць, што ніколі ў жыцці Раман Сабаленка не сказаў ніводнага слова на іншай мове, акрамя беларускай. Пад следствам ён быў амаль год. Гаспадыня нанятай кватэры адразу ж загадала яго жонцы з дзвюма дочкамі (два гады і год) з'язджаць. Знаёмыя і сябры (а іх у маладога пісьменніка было шмат) пры сустрэчы з яго жонкай пераходзілі на іншы бок вуліцы. Такі быў час — усе баяліся за сябе і за сем'і... Але кампазітар Рыгор Пукст адкрыта падышоў да яе, абняў, нікога не палохаючыся, і сказаў: "Я вінен Раману грошы. Прабач, што раней не аддаў". Выцягнуў усё, што было ў кішэнях… Вера Іосіфаўна добра ведала, што кампазітар ім нічога не вінен.

Больш як год Раман Сабаленка быў пад следствам, але ў верасні 1938 года Берыя змяніў Яжова на пасту міністра НКУС. Так адбылося, што частку людзей, затрыманых пры Яжове, адпусцілі — відаць, рыхтавалі месцы для новай хвалі "ворагаў народа". Раман Сабаленка трапіў у лік вызваленых. Але толькі па 1939-ы. Зноў арышт, зноў незразумелае абвінавачванне ў спробе падрыву чыгуначнага моста недзе ля Брагіна. Урэшце рэшт яго выратавала банальная адсутнасць чыгункі ў Брагінскім раёне. Але паміж пачаткам і канцом следства — звальненне з працы жонкі "ворага народа", галодныя малыя, страх былых сяброў… Дарэчы, з 1939 года Сабаленка — сябар Саюза пісьменнікаў БССР.

У першы дзень вайны Раман Сабаленка быў мабілізаваны. Яго жонка з дзвюма малымі дочкамі хадзіла па вуліцах Гомеля, угледаючыся ў калоны салдат… Яе муж трапіў на Калінінскі фронт, стаў намеснікам камандзіра роты, увесь час удзельнічаў у баях. А ў ліпені 1942 года трапіў пад трыбунал і быў прыгавораны да дзесяці гадоў пазбаўлення волі. Нейкі жаўнер паказаў яму запіску з антысавецкім зместам. Раман запіску забраў і схаваў у кішэню гімнасцёркі. Адразу ж да яго падышлі і арыштавалі. Правакацыя, звычайная для таго часу. Але зноў лёс спрыяў пісьменніку: праз некалькі тыдняў справу закрылі за адсутнасцю складу злачынства, і Сабаленку адправілі на Другі Прыбалтыйскі фронт. Ён прайшоў усю вайну, але ніколі пра яе не расказваў і амаль не пісаў. Ніколі не выступаў перад школьнікамі як ветэран, не святкаваў ваенныя даты. Ён ненавідзеў вайну, і калі сам не мог на яе забыцца, то імкнуўся адгарадзіць блізкіх ад усялякіх успамінаў.

Вайна скончылася, Раман Сабаленка паехаў у Сабалі па жонку і дачок, якіх забраў туды пасля вызвалення Гомеля дзядуля, ратуючы ад голаду. Дзяўчаты з насцярогаю паставіліся да незнаёмага мужчыны, у якім ніяк не маглі прызнаць бацьку. Давер быў заваяваны толькі тады, калі бацька ўзяў удзел у пахаванні памерлых куранят. Каму з дарослых у першыя пасляваенныя дні была справа да загінуўшых птушак? Была процьма іншых бед. А Раман з дзецьмі хавалі куранят.

Далейшы лёс прывёў Рамана Сабаленку ў баранавіцкую абласную газету "Чырвоная звязда". Там ён працаваў загадчыкам аддзела культуры, намеснікам галоўнага рэдактара. Першы час разам з сям'ёй жыў непасрэдна ў рэдакцыі, меў шмат сяброў. Працавалі ў так званым сталінскім стылі, па начах. Дзеля павышэння палітычнай свядомасці яго накіравалі вучыцца ў Вышэйшую партыйную школу, але пасля першых дзён навучання ён сказаў, што ўсё гэта глупства, і больш там не з'явіўся. На пачатку 50-х выйшлі дзве першыя ўласныя кнігі — зборнікі вершаў "З родных крыніц" і "Мая эстафета".

У 1953 годзе Рамана Сабаленку паклікалі на працу ў Мінск у газету "Калгасная праўда", далі кватэру. З газеты праз некаторы час ён перайшоў у часопіс "Маладосць", а потым у газету "Літаратура і мастацтва", дзе з 1957 па 1966 год быў намеснікам галоўнага рэдактара. Адзін за адным выходзілі зборнікі аповесцей і апавяданняў Рамана Сабаленкі: "Жменя зярнят" (1957), "Сустрэчы" (1958), "Блакітнае ззянне" (1959), "Каралінцы" (1960), "З пройдзеных дарог" (1962), "Паляўнічыя боты" (1962), "Пад дажджом і сонцам" (1966). Аповесці "Юнацтва ў дарозе", "Выпрабаванне сталасці" і "Былое застаецца ў сэрцы" склалі біяграфічную трылогію "Іду ў жыццё".

Складаны лёс даў пра сябе знаць у кастрычніку 1966-га — здарыўся першы інсульт. Праца ў рэдакцыі скончылася, але кнігі працягвалі выходзіць: "Спатканне пасля разлукі" (1971), "Роздум у дарозе" (1973), кнігі нарысаў пра дзеячаў беларускай літаратуры і культуры "Колерамі вясёлкі" (1975). У 1967 — 1968 гг. з'явіліся два тамы выбраных твораў. Раман Сабаленка ўзнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Чырвонай Зоркі, медалямі.

Наступны інсульт здарыўся вясною 1975 г. Здавалася, што ўсё і гэтым разам абыдзецца, што ідзе на папраўку, але 9 мая яго прыйшлі павіншаваць з 30-годдзем Перамогі. Раман Карпавіч не вытрымаў гэтых успамінаў, яму стала горш, і 13 мая ён памёр. Пахаваны на могілках у Заслаўі. Гэта было яго жаданне — быць пахаваным на звычайных вясковых могілках, сярод дрэў.

Усе гэтыя больш-менш афіцыйныя словы — пра майго роднага дзеда, знакавага чалавека ў маім жыцці. Гэта ён вадзіў мяне ў цырульню пасля таго, як бабуля з мамаю самі паспрабавалі пастрыгчы мяне, а весці такую ў дзіцячы садок ды нават у тую ж цырульню ім было сорамна. Гэта ён гушкаў мяне на арэлях у парку Горкага. Гэта з ім мы душыліся ў гардэробе цырка і мужна чакалі, калі скончыцца прадстаўленне, бо ніколі не былі аматарамі цырка, але так было прынята. Гэта ён купляў мне на ганарары цацачных сабак, пісталет і веласіпед. Гэта ён прывучаў мяне да доўгіх маўклівых шпацыраў у любы час года. Гэта з ім я вывучыла першыя літары, віснучы ў яго на шыі, калі ён працаваў. І гэтыя літары былі беларускімі.

> *Знаёмыя і сябры (а іх у маладога пісьменніка было шмат) пры сустрэчы з яго жонкай пераходзілі на іншы бок вуліцы. Такі быў час — усе баяліся за сябе і за сем'і... Але кампазітар Рыгор Пукст адкрыта падышоў да яе, абняў, нікога не палохаючыся, і сказаў: "Я вінен Раману грошы. Прабач, што раней не аддаў". Выцягнуў усё, што было ў кішэнях… Вера Іосіфаўна добра ведала, што кампазітар ім нічога не вінен.*




## Следам за Баравічком

**Уладзімір МАЗГО**

Паэт Алесь Жыгуноў добра вядомы дарослым чытачам. Ён аўтар кніг паэзіі "Матчына вышыванка", "Мая Тройца", "Пагавары са мной пра восень…", "Ля цяпельца зары". Апошняя з іх, дарэчы, адзначана другой прэміяй рэспубліканскага літаратурнага конкурсу на лепшы твор года. Акрамя гэтага Жыгуноў з'яўляецца лаўрэатам абласной прэміі імя Уладзіміра Караткевіча і рэспубліканскага конкурсу "Залатое пяро".

Юныя чытачы дагэтуль мелі магчымасць пазнаёміцца з яго творамі на старонках часопіса "Вясёлка", калектыўных зборнікаў і хрэстаматый. І вось нядаўна РВУ "Літаратура і Мастацтва" парадавала беларускую дзятву доўгачаканым асобным зборнікам "Баравічок на скутары" гэтага таленавітага аўтара. Прэзентацыя кнігі адбылася падчас святкавання Дня беларускага пісьменства ў Глыбокім, дзе жыве пісьменнік.

Складаецца зборнік з вясёлых і запамінальных вершаў і дзвюх арыгінальных казак "Чорнагаловы" і "Баравічок на скутары".

Любоў і дабрыня — абавязковыя спадарожніцы дзіцячай літаратуры — прысутнічаюць у творах Алеся Жыгунова. Як, напрыклад, у вершы "Калыханка зайку".

*Белы-белы камячок,*
*Павярніся на бачок,*
*У сняжок зарыйся,*
*Лапкамі накрыйся.*

*Буду сон твой берагчы*
*Ад сабачкі злога.*
*Не палохайце ўначы*
*Зайчыка малога.*

Такая даверлівая цеплыня і эмацыянальнасць сведчыць пра тое, што аўтар з'яўляецца добрым знаўцам дзіцячай псіхалогіі. Напэўна, гэтаму ў свой час яго навучылі дачка і ўнучка. Таму паэт хоча, каб дзеці былі нераўнадушнымі і спагадлівымі да навакольнага свету.

*Курчыць лапкі верабейка,*
*Мусіць, холадна яму.*
*Вераб'іная сямейка*
*Засталася на зіму.*

*Пакармлю яго я трошкі —*
*Хлебныя пасыплю крошкі.*

А герой з яго казак Баравічок змагаецца з гора-грыбнікамі, якія бяздушна і неразважліва губяць грыбніцу. Дзеля гэтага ён выкарыстоўвае нават… скутар. Але пераказваць сюжэт казак ці варта? Іх трэба чытаць кожнаму самастойна, каб пераканацца, што перад намі — яркая і захапляльная дзіцячая кніга, створаная таленавітым аўтарам.

# …На спатканне з вечнасцю

Антон Янкоўскі закончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт культуры і мастацтваў па спецыяльнасці “Рэжысура народных абрадаў і свят”, працуе выкладчыкам у Гродзенскім каледжы мастацтваў. Першая кніга “Анёл з васільковымі вачыма” выйшла ў 2010 годзе.

**Элеанора ПАВА**

“Белыя рамонкі” — другі зборнік вершаў Антона Янкоўскага — мае пазнаку “Прысвячаецца светлай памяці маёй матулі Ірыны Тадэвушаўны Янкоўскай”. Малады паэт знаходзіць пяшчотныя і пранікнёныя словы для ўшанавання памяці сваёй матулі, у яго свядомасці назаўсёды знітаваныя два вобразы — матуля і Анёл… Яшчэ мацней гэта адчуваецца пасля таго, як мама адышла ў вечнасць… Першы раздзел кнігі так і называецца: “Матуля Анёлам стала”. Успаміны раняць памяць, лірычны герой адчувае разгубленасць перад нечаканай вялікай стратай:

*Пустым стаў дом,*
*нямая цішыня…*
*І толькі рэхам*
*старыя фотаздымкі*
*спяваюць*
*калыханку…*

Ён пакутліва асэнсоўвае тое, што адбылося, шукае паразумення з Небам і светам:

*Ды кажуць вятры,*
*Што на нябёсах ёй утульна —*
*І заквітнелі ля магілы*
*Рамонкі!*

Рамонкі вынесеныя і на вокладку кнігі: адзін — яскравы, выразны, на мяжы рэальнага і ўяўнага: пялёсткі-крылы — фантом святла — душа…

Станам душы лірычнага героя абумоўлена і назва аднаго з раздзелаў кнігі “Скрыжаванне”. Скрыжаванне — месца запавольвання крокаў: “… патрэбен прыпынак, / каб сесці ў цішы, / адказы знайсці…” (“Стаміўся”); скрыжаванне абвастрае роздум: “Куды спазаранку імкнуся? / Чаго дасягнуць я хачу?” (“Куды я імкнуся?”). Патрэбна мужнасць, каб адкрыта прызнацца свету:

*Я разгубіўся…*
*Хто ў жыццё ператварае*
*Жаданні сумных пілігрымаў?*
*Ізноў пад тоўстым слоем грыму*
*Сваё нутро штодзень хаваю*
*Ад сябе…*

*Я разгубіўся…*
*Руку мне*
*Працягні…*

Але прысутнасць у душы Бога і веры, прысутнасць не знешняя, не фармальная, а тая, што з’яўляецца сутнасцю чалавека, яго ўнутраным духоўным напаўненнем, дапамагае лірычнаму герою быць адкрытым і мужным. Больш за тое — дае надзею, што гэтае часовае скрыжаванне і шляху, і духу абавязкова будзе пераадолена:

*Жыве надзея:*
*выберу сумленна*
*свой шлях на ростанях*
*святла і цемры.*

Адной з тых цаглінак, што складаюць аснову жыцця, без якіх ніколі не адбудзецца чалавек і грамадзянін, для Антона Янкоўскага з’яўляецца Радзіма. У паэта, нягледзячы на яго малады ўзрост, вельмі глыбокае, я сказала б, генетычнае пачуццё Айчыны.

Лейтматыў Радзімы выразна прысутнічаў у першай кнізе аўтара “Анёл з васільковымі вачыма”. У ёй выявілася яшчэ адна мадэль адносін — узаемадачынення: матуля і Радзіма — матуля-Радзіма. (Першая: матуля і Анёл — матуля-Анёл.) Матуля — як першапачатак Радзімы… Радзіма пачынаецца з матулі, з яе песні і заканчваецца — як вынік — яе запаветам… Таму адчуванне, што матуля з заканчэннем свайго зямнога жыцця не знікае: яна мае працяг у Радзіме (а не толькі ў вечнасці) — не пакідае чытача на працягу ўсёй кнігі.

Верш “Калі ты ад Радзімы на сотні кіламетраў…” можна лічыць праграмным — вызначальным у раздзеле кнігі “…Вязе аўтобус на Радзіму”: ён выразна высвечвае маральныя і грамадзянскія прыярытэты маладога аўтара. А. Янкоўскі нават і слова “Радзіма” не можа — і не хоча! — напісаць з малой літары! А верш “Я за ідэю!” — гэта ўжо асабісты маніфест (а можа — маральны і грамадзянскі кодэкс) аўтара.

*Я за ідэю!*
*Я за жыццё з надзеяй!*

Голас лірычнага героя гучыць дзёрзка, па-максімалісцку. У канцы верша думка ўзмацняецца, удакладняецца: “Я за ідэю — / Начы быць адданым!” Нельга не сказаць, што Антон стварыў сайт вёскі Нача, які дзейнічае ўжо больш як тры гады.

Пошукі кахання, расчараванні і страты, сустрэча і яднанне — тое кола тэм, якія аўтар акрэслівае ў раздзеле “Маё паветра”. Аднайменны верш з гэтага раздзела найбольш яскрава перадае мажорна-трыумфальнае адзінства закаханых:

*І разам дыхаем адным*
*паветрам,*
*Аднымі думкамі, адною верай,*
*Бы птушак, лёгкасць уздымае*
*ў неба*
*Смела!*

І далей:

*І верціцца для нас адных*
*планета!*
*Ты — маё паветра!*




А. Янкоўскі ўмее вельмі тонка і далікатна сказаць пра каханне: як, напрыклад, у вершы “Раптоўна” — пра яго нараджэнне, “Я ўсё сваё жыццё цябе чакаў…”, “Калі на зямлі застанемся удвух…” — пра чаканне гэтага вялікага і светлага пачуцця… Не толькі каханне, але і блізкія людзі, сябры, “любімая Гародня” ствараюць “паветра” для лірычнага героя.

Кніга “Белыя рамонкі” напісана верлібрам і сілаба-тонікай, але нават у рыфмаваных вершах адчуваецца свабоднае, разняволенае дыханне. Галоўнае, што вызначае маладога паэта, — гэта шчырасць, пранікнёнасць, глыбіня і… трапяткія адносіны да верша, які ўяўляецца яму крупінкай вечнасці:

*Цішэй…*
*Цябе запрашаюць вершы*
*на спатканне*
*з вечнасцю…*

# Дзе твой дзікі луг?

**Тамара МАЗУР**

Для чаго існуе літаратура? З паэзіяй усё зразумела — міжволі згадваецца пушкінскі радок: “И чувства добрые я лирой пробуждал”. А вось наконт прозы можна ламаць коп’і. Але ці патрэбна? Вось такое пытанне не дае мне спакою пасля таго, як прачытала аповесць “Дзікі луг” Андрэя Федарэнкі, надрукаваную ў красавіцкім нумары часопіса “Маладосць”.

Аўтар падняў той пласт, пра які трэба казаць гучна ці нават крычаць. Бо толькі чалавек, выгадаваны ў цяплічных умовах, можа палічыць, што ўсё ў гэтай аповесці надуманае, прыватнае, нетыповае. Яшчэ якое ненадуманае, не прыватнае, яшчэ якое, на жаль, тыповае.

На першы погляд здаецца, што ніхто з герояў — братоў Пятра-Кветкі і Кулініча — не вінаваты ў тым лёсе, які іх напаткаў.

Пятро тоне ў гарэлцы і атрымлівае за гэта прыніжэнні ад жонкі. Але ж чытач разумее, чаму. Таму, што Пятро, які працуе на чыгунцы, насамрэч ужо адарваны ад зямлі.

У Кулініча ж, здаецца, усё выдатна: жонка Махновачка — працаўніца, сынок Васілёк — удаленькі. І праца спорыцца, і багацце множыцца дзякуючы руплівасці герояў — не з неба валіцца. Ды ўсё роўна здарылася страшная бяда.

Але ж колькі разоў аўтар засяроджваў увагу на тым, што не засцерагаецца Махновачка ад дурнога вока, што непрыхавана цешыцца свайму шчасцю. А трэба ж не быць вышэй за іншых, неабходна прытрымлівацца заведзеных на гэтай зямлі правілаў абярэгу ад ліха-бяды. Ну навошта гэтая каліна навідавоку, у той час як усе людзі садзяць яе на задворках? Хіба не ведалі, што бяду нясе? Згадаў жа гаспадар пра каліну, калі гора напаткала — ссек пад корань, ды позна.

> *Андрэй Федарэнка, напэўна, першы з беларускіх пісьменнікаў асмеліўся сказаць, што вёска бывае далёкая ад ідэалу.*

Недарэмна аўтар галоўнай прасторай свайго твора вызначыў Дзікі луг. У дзікім месцы законы піша прырода. Хто супраць яе, той супраць сябе — “ніжай і ніжай”. Хіба толькі каго нетутэйшага гэта можа не датычыць, як паляка-брыгадзіра ці Валі-хахлухі. Прыезджыя ўладкоўваюць свой быт па-свойму, незалежна ад мясцовых звычаяў. А тутэйшым жыццёва неабходна прытрымлівацца тых правілаў, якімі кіраваліся на гэтай зямлі іх продкі.

Фёдар Дастаеўскі сцвярджаў, што ў кожнага народа ўласнае паняцце пра дабро і зло. Калі паняцці гэтыя становяцца агульнымі для многіх народаў, тады само адрозненне паміж злом і дабром пачынае сціраццa і знікаць. Філасофія Дастаеўскага перагукаецца з рэалізмам Федарэнкі. Паняцці дабра і зла ў вёсцы каля Дзікага Лугу размытыя — адсюль і трагедыі.

Нехта з горада крытыкуе вяскоўцаў нават за памінальным сталом. Валя гоніць забітую горам Махновачку: “Ты нам цяпер не радня… Тваё гора на руках насіць”. Сваё разуменне гэтых паняццяў ва ўсіх астатніх герояў аповесці — у гэтым найбольшая вясковая драма. “Усё ніжай і ніжай” — чытаем і пагаджаемся.

Думай, чытач, дзе твой луг.

Андрэй Федарэнка, напэўна, першы з беларускіх пісьменнікаў асмеліўся сказаць, што вёска бывае далёкая ад ідэалу. Каб засведчыць гэта, ён не пайшоў шляхам крайнасцей: не стаў супрацьпастаўляць дабро злу, ідэальнае — пачварнаму. Кожны з яго герояў жыве сваім жыццём, кіруецца сваім шляхам.

> *Недарэмна аўтар галоўнай прасторай свайго твора вызначыў Дзікі луг. У дзікім месцы законы піша прырода. Хто супраць яе, той супраць сябе — “ніжай і ніжай”.*

Пятро стаў ахвярай хваробы — алкагалізму. Але ж ён не вырадак. Яго юначая прыгажосць, што давала пэўныя дывідэнды, прайшла, а быць такім, як усе, ён не прывык. Былы прыгажун усё больш адчувае сябе і дома, і ў людзях не ў сваёй талерцы. Колькі такіх хлопцаў-“Кветак” спіліся, адным вяскоўцам ды яшчэ Богу вядома.

Ляснік Кулініч не ў процівагу, а ў параўнанні з Пятром цягне на станоўчага героя. Чаму б і не! Ці ён у сучаснай літаратуры павінен быць анёлам, пасланым з нябёсаў? І жонка яго, Махновачка, празваная так па назве вёскі, з якой родам, хіба не выклікае сімпатыю? Безумоўна, у кожнага персанажа ёсць недахопы, як ёсць яны і ў рэальных людзей.

Тым не менш адна мая знаёмая ідэалістка, прачытаўшы “Дзікі луг”, катэгарычна заявіла: “Не веру!” Аргументавала гэта тым, што ва ўсіх героях аповесці думкі прасякнутыя мяшчанскімі, занадта побытавымі інтарэсамі. Але ж перачытаем Федарэнку: “А Кулініч… усё зарабляў і бярог. Не адставала і Махновачка: і ў калгасе, і ў горадзе на базары, і агарод вяла…” Асабіста я ў гэтым аповедзе адчула пяшчотнае стаўленне аўтара да сваіх герояў, без злавесці, без насмешак.

Ведаю пісьменнікаў, якія лічаць сябе ў чымсьці абдзеленымі з-за таго, што не атрымліваюць задавальнення ад фізічнай працы. І маюць смеласць прызнацца ў гэтым. Я вяскоўка і ведаю: нават цяжкая праца можа быць адухоўленай, калі яна скіраваная на пэўныя мэты, калі яна прыносіць плён. Андрэй Федарэнка нідзе не намякае, што сям’ю Кулінічаў напаткала гора з-за ўзбагачэння. Вінавата ва ўсім ігнараванне векавых традыцый, няхай сабе і забабонных.

Пятро не баіцца злоўжываць гарэлкай. Махновачка не баіцца думаць, што ўвесь свет павінен круціцца вакол яе дзіцяці. Кулініч не баіцца каліны каля хаты… Урэшце страта засцярогі і пільнасці абарочваецца бядой.

Так, мне падаецца, зразумее “Дзікі луг” чытач, не абцяжараны высокімі матэрыямі ідэалізму.

# Паэзія



Марыя КОБЕЦ

***

*Асенні сум. Дажджынак плач…*
*У одуме заціхлі дрэвы…*
*А я прашу цябе: "Прабач —*
*трывожу часам без патрэбы".*

*Прабач, што я ў тваё акно*
*Гляджу перадсвітальнай зоркай.*
*За тое, што тваёй даўно*
*я стала праміж будняў золкіх.*
*У думках, мроях, нібы здань,*
*тваёй хаджу я ўслед дарогай*
*з мальбой адной: "Дазволь мне, дай*
*у смутку быць перасцярогай!"*
*Дазволь пярсцёнкам на руцэ*
*мне быць, каб чуць твае далоні,*
*дажджом на валасах, шчацэ —*
*употай лашчыць зноўку скроні.*

*…Ну вось! Апраўдваюся. Ў чым?*
*За што ж прашу я прабачэння?*
*За тое, што імя ўначы*
*тваё шапчу, хаця сумленне*
*прасуе, мучыць, брыдкі тлум*
*спакусіць нават адрачыся.*

*…Але ж трывожыць звыклы сум,*
*апраўдвацца — не развучыцца.*

*Даволі! Хопіць. І прабач,*
*калі твой свет я патрывожу.*
*Мой лёс — спектакль, а я — глядач,*
*змяніць нішто яго не зможа.*

***

*Растрывожыў душу маю,*
*Распаліў мой запал нанова.*
*Адкажы мне: "Нашто, чаму*
*Зноў чакаю паглядаў, словаў?"*

*Я чакаю твайго цяпла,*
*Аксаміту гарачых вуснаў,*
*Што працялі наскрозь, да тла,*
*І што ў зман завялі спакусна.*

*І адкіну трывогі прэч —*
*Матыльком палячу адчайна*
*На агонь, на агонь сустрэч,*
*Каб згарэць у віры кахання!*

***

*Табе свой свет я аддаю…*
*І Свет, які мяне калісьці страціць.*
*І як адталую ваду*
*звычайна прыме і не здрадзіць.*

*Я не шукаю дзесь прычын —*
*я аддаю жыццё ў ахвяру*
*табе!.. Але ж цябе і тым*
*не закрану — без сэнсу мару.*

*І ўсё дарэмна для мяне:*
*ахвяры, пошукі, надзеі,*
*што ўсё адыдзе, усё міне,*
*што больш ласкавым на падзеі*
*свет апынецца… Але ж НЕ —*
*ты ўсё ацэніш і заплаціш*
*у тым жыцці, калі мяне,*
*мажліва, беззваротна страціш.*

***

*Я болей табе не веру.*
*І ты лепей мне не вер.*
*Згубілася ніць даверу,*
*І ўжо не знайсці цяпер.*

*І болей ужо не варта*
*Трапляць у памылак боль.*
*Пастаўлена ўсё на карту.*
*Чужыя, на жаль, з табой.*

*Шкада, ты не чуеш словаў*
*Маіх — ты не хочаш чуць.*
*Паслухай, хаця б палову —*
*Мажліва, маглі б вярнуць,*
*І ўсё распачаць нанова*
*Альбо хоць паспрабаваць…*
*Але ж ты не чуеш словаў —*
*Якія маглі б кранаць.*

*Свайго не стаю намеру.*
*Ты свой патлумач намер.*
*Скажы!.. І я ўсё ж паверу!*
*І ты мне, прашу, павер!*

***

*Ты блізкі-блізкі.*
*І такі далёкі.*
*З табою шчасце,*
*Мабыць, на паўкрока.*
*І побач сонца,*
*І вось-вось аблокі.*
*Ты блізкі-блізкі.*
*І такі далёкі.*
*З табою — знічкі,*
*А не проста — зоркі.*
*З табой не страшны*
*Нават суд высокі!*
*Не страшна ў бездань,*
*І яна з паўкрока,*
*Так блізка-блізка,*
*Але ўсё ж — далёка.*



**Фота Ірыны Тулупавай**



Мікола СТАРЧАНКА

## Сэрца беларуса

*Заўсёды табе спагадае,*
*Як трэба — паможа ў бядзе*
*І шчыра цябе прывітае,*
*У хату цябе павядзе.*
*Скарынкай падзеліцца хлеба*
*І квас папалам разалье,*
*Кашулю аддасць, калі трэба, —*
*Не толькі пажыткі свае.*
*За сябра ён стане гарою,*
*Ніколі цябе не прадасць,*
*За шчасце людское парою*
*Уласнае шчасце аддасць.*
*Такі з беларускай душою*
*І сэрцам сваім беларус*
*І ў радасці сядзе з табою*
*За светлы святочны абрус.*

## Першыя кветкі

*Спатыкнуўся вецер на узлеску…*
*На палянцы — сонца й цішыня.*
*Сцішыліся дзіўныя пралескі*
*У абдымках веснавога дня.*
*Хай яшчэ не зелянеюць кроны*
*Задуменных вольхаў і бяроз,*
*Не ажыў шчэ лес птушыным звонам,*
*Ды адно — тут хораша да слёз.*
*Я пяшчотна кратаю пралескі,*
*Чую іх прыемны халадок,*
*А пралескі — нібы тыя фрэскі,*
*Што з дажджом упалі з-пад аблок.*

## Найлепшая радасць

*Быць з людзьмі! Якое шчасце,*
*З імі разам хлеб дзяліць,*
*Разам адбіваць напасці,*
*Разам душы весяліць.*
*Памагаць заўсёды ў горы*
*І да сэрца боль прымаць,*
*Ці на сушы, ці на моры*
*Добры ранак сустракаць.*
*Нізашто не разлучацца*
*З чалавечай дабрынёй,*
*З поспехам чужым страчацца,*
*Як з надзеяй са сваёй.*
*І няхай ад сэрца радасць*
*Шчырая заўжды ідзе,*
*Як дзівоснейшая святасць —*
*У любві пражыты дзень.*

## Успамінаю маладосць былую

*Успамінаю маладосць былую,*
*Успамінаю золата сустрэч,*
*Успамінаю, заадно сумую,*
*Хай той сум — недарагая рэч.*
*Забыты ўжо далёкія дарогі,*
*Забыты здрада, колішні падман,*
*Забыта ўсё: адчай, перасцярогі,*
*Цяпер яны — стаптаны ўжо дзірван.*
*Адно не хоча з часам заміріцца,*
*Адно не хоча быць у забыцці —*
*Дык то мая любімая зямліца,*
*З якой я быў шчаслівым у жыцці.*

## Дэбют



Марына БУКА

Марына Бука нарадзілася ў Віцебскай вобласці ў вёсцы Луцк-Мосарскі, што знаходзіцца побач з вядомай вёскай Мосар. Паэтцы 23 гады, скончыла каледж у Барысаве па спецыяльнасці "Медыцынская сястра" і адразу паступіла на завочнае аддзяленне факультэта сацыяльна-педагагічных тэхналогій БДПУ імя М. Танка. Вершы піша з 12 гадоў. Цяпер жыве ў Глыбокім. У "ЛіМе" друкуецца ўпершыню.

## Роднай старонцы

*Сумую па роднай старонцы,*
*Як птушка па родным гняздзе,*
*Па нашае луцкай гамонцы,*
*Якой у чужых не стае.*
*Гарачымі рэкамі слёзы*
*Цякуць і адно да яе.*
*Да матчынай роднай бярозы,*
*Якая спявае вясне.*
*Зраслася душа мая з краем,*
*Мацнее той сплаў праз гады,*
*Калі я спакою шукаю,*
*Лячу белым птахам туды.*

## Пяць кропелек расы

*Дрыжэлі галасы,*
*А рукі як самлелі,*
*Пяць кропелек расы*
*Мы спрабаваць хацелі.*
*Нас грэў чароўны дзень,*
*За ветрам нас насіла,*
*І сонца свой прамень*
*У сэрца апусціла.*
*Сагрэць сваім цяплом,*
*Усіх маглі на свеце,*
*Аднак свавольнік гром*
*Нас неяк запрыкмеціў.*
*Дрыжэлі галасы,*
*А словы здзірванелі:*
*Пяць кропелек расы*
*Мы выпіць не паспелі.*

## Купала!

*Сонца з-за лесу ўстала!*
*Купала!*
*Я цябе так шукала!*
*Купала!*
*Маці мая спявала!*
*Купала!*
*Сэрца ў агні згарала!*
*Купала!*
*Купала!*
*Што ж адбываецца, што з намі стала?*
*Купала!*

## Развітальная

*Пара. Бывай на развітанне.*
*І зноў маўчанне, цішыня,*
*Адно панурае чаканне,*
*Сабе хлушу я: ўсё хлусня.*
*Не прыйдзеш болей — так бывае,*
*Чаму? — я верыць не хачу.*
*Цябе па кропельцы губляю,*
*Цярплю, і плачу, і маўчу.*
*Вярніся! Сэрца прашаптала,*
*Ні гуку — цішыня ў адказ,*
*Як дым празрысты — зданню стала*
*Дзяцінства ў развітальны час.*

# 2012: тэндэнцыі і нечаканасці

Год кнігі ўжо выйшаў на фінішную прамую. Ці не ранавата падводзіць вынікі? Зусім не. Бо выдавецкі год распачынаецца і, адпаведна, завяршаецца крыху раней, чым каляндарны — складаюцца планы, аналізуюцца паспяховыя праекты, вызначаюцца прычыны няўдач… Законы гандлю таксама накладаюць свой адбітак: ужо праз месяц пачнуць выходзіць кнігі з пазнакай "2013 год" — хітры выдавецкі прыём, які выкарыстоўваецца, каб гэтыя выданні былі як мага даўжэй актуальныя. А з чым нашы выдавецтвы прыйшлі на фініш? Якія кнігі і праекты яны могуць прадставіць уяўнаму Дзеду Марозу-кніжніку, каб даказаць, што добра сябе паводзілі і заслугоўваюць падарунак у выглядзе новых ідэй, цікавых аўтараў, таленавітых мастакоў, перспектыўных праектаў? Падчас "круглага стала" "У Год кнігі: навінкі ад беларускіх кнігавыдаўцоў", што прайшоў у Доме Прэсы, вядучыя выдаўцы краіны распавялі пра самыя яркія і значныя праекты 2012 года.

**Чэслава ПАЛУЯН,**
**фота аўтара**

Стварэнне кніг па выяўленчым мас-тацтве і жывапісе, а таксама выпуск альбомаў, прысвечаных гарадам і знакавым мясцінам Беларусі, — адзін з асноўных кірункаў працы самага старога выдавецтва краіны. Вось і сёлета **"Беларусь"** засталося верным сабе і сумесна з Нацыянальным мастацкім музеем нашай краіны распачало серыю **"Славутыя мастакі Беларусі",** а дырэктар музея Уладзімір Пракапцоў выступіў яе куратарам. Першая кніга праекта, прысвечаная творчасці Івана Хруцкага, выйшла ў лютым і адразу ж засведчыла перспектыўнасць задумкі: тыраж разышоўся літаральна за месяц. Пасля былі кнігі, што прадстаўлялі творчасць Валенція Ваньковіча, Вітольда Бялыніцкага-Бірулі, Язэпа Драздовіча, і яны паўтарылі камерцыйны поспех першага выдання серыі. Гэта, у прынцыпе, не дзіўна: добрая якасць ілюстрацый, зручны фармат, параўнальна нізкі кошт (за што асобны дзякуй Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь). Думаецца, і наступныя кнігі серыі будуць цвёрда трымацца ў рэйтынгах самых папулярных выданняў.

Выдавецтва **"Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі"** сёлета можна назваць, бадай, самым багатым на яркія ідэі. Працяг серый "Энцыклапедыя рарытэтаў", "Сучаснае беларускае мастацтва. XXI стагоддзе", дзіцячага праекта "Маленькі прафесар"… Такі поспех яшчэ больш каштоўны, калі ўлічыць, што ў "БелЭн" не аўтары прыносяць свае рукапісы і прапануюць ідэі, а, наадварот, выдавецтва распрацоўвае канцэпцыю кнігі — ад задумкі і да канчатковай рэалізацыі. Самі выдаўцы адной з найбольш значных падзей года называюць выхад альбома **"Полацк. 1150"**. Яго аб'ём — больш як 500 старонак. Тут у выглядзе тэкстаў і фотаздымкаў занатаваны мінуўшчына і сучаснасць горада. Крыж Еўфрасінні Полацкай, Барысавы камяні, старыя фрэскі, іконы нагадваюць пра гісторыю і акрэсліваюць месца нашага пакалення ў канве больш як тысячагадовай гісторыі горада і дзяржавы. Праект сапраўды варты.



*"У Год кнігі: навінкі ад беларускіх кнігавыдаўцоў": абмеркаванне вынікаў працы за "круглым сталом".*

Застаецца верным сваім традыцыям і выдавецтва **"Мастацкая літаратура".** Так, сярод найбольш значных падзей года можна назваць выхад першага тома Збору твораў Уладзіміра Караткевіча ў 25 тамах, які распаўсюджваецца і па падпісцы (да 26 лістапада, дня нараджэння пісьменніка, павінен выйсці другі том), а таксама выданне новых кніг у серыі "Жыццё знакамітых людзей Беларусі", іх героямі сталі Янка Купала, Максім Танк, Аляксандр Мядзведзь (рыхтуецца кніга, прысвечаная асобе Якуба Коласа). Але сапраўдным сюрпрызам для кнігалюбаў стаўся фаліянт вагой амаль 7 кілаграмаў **"Беларуская чыгунка: ад мінулага да сучаснасці"**, што распавядае пра 150-гадовую гісторыю беларускай чыгункі.

У ліку значных праектаў РВУ **"Літаратура і Мастацтва"** варта назваць стварэнне дзіцячых кніг, якія становяцца не проста чытанкай для дзяцей, але і сапраўдным падарункам. "**Маміна казка. Мамина сказка" —** выданне якраз такога кшталту. Тут сабраны самыя лепшыя беларускія і рускія народныя казкі, дапоўненыя цудоўнымі малюнкамі. Кніга сталася першым крокам аднайменнай дабрачыннай акцыі, арганізатарамі якой выступілі Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Беларускі саюз жанчын пры падтрымцы Дзіцячага Фонду ААН (ЮНІСЕФ). Цягам акцыі кнігі казак будуць падораныя выхаванцам школ-інтэрнатаў, пройдуць прэзентацыі і яркія прадстаўленні з удзелам акцёраў і дзяцей.

Клопат пра маладое пакаленне — адзін з асноўных і ў выдавецтва **"Народная асвета"**. А **"Рассказы Деда Природоведа"** Галіны і Сяргея Трафімавых — бадай, самая арыгінальная серыя. Асаблівым гонарам (і цалкам абгрунтавана!) выдавецтва лічыць выпуск **"Буквара"** А. Клышкі: кніга вытрымала ўжо 40 перавыданняў і да гэтага часу застаецца актуальнай.

## Прэзентацыя

# Іншага не дадзена

Вядомы пісьменнік, палітык, грамадскі дзеяч, воін-інтэрнацыяналіст… Гэта толькі кароткі спіс характарыстык старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца.




Даведацца больш пра яго асобу дапаможа кніга "Николай Чергинец. Иного не дано", што выйшла ў серыі "Наш современник" выдавецтва "Мастацкая літаратура". У выданне ўвайшлі расповеды пра жыццё, успаміны, інтэрв'ю.

На старонках гэтай кнігі чытач знойдзе як творы самога Мікалая Іванавіча, да прыкладу, згадкі пра сустрэчу з маці Юрыя Гагарына, так і творы яго калег па пяры. У простай і дабрадушнай манеры пра "Кольку з вуліцы Цнянскай" расказвае паэт, публіцыст, галоўны рэдактар часопіса "Немига литературная" Анатоль Аўруцін, пра творы і асобу старшыні СПБ распавядае вядомы пісьменнік і літаратуразнаўца Алесь Марціновіч, згадкі пра сябра ў гэтым выданні змясціў і палітык, публіцыст і военачальнік Барыс Громаў.

Думаецца, выданне знойдзе свайго ўважлівага чытача. Бо ў ім не проста сабраны ўспаміны пра нашага сучасніка і гутаркі з ім, але і зашыфраваны рэцэпт поспеху ў самых розных сферах жыцця.

**Іван ХВОЙНЫ**

## У падтрымку чытання



**Пісьменнік, літаратуразнаўца Іван САВЕРЧАНКА:**

# «Альтэрнатыва дэградацыі і дэмаралізацыі»

Прага да мастацкай літаратуры ўзнікла, як толькі скончыў пачатковую школу. Перачытаў усё, што толькі было ў школьнай бібліятэцы і дома: на ваенную тэматыку, прыгодніцкія кнігі. Але найперш — класіку. З вялікім задавальненнем вучыў на памяць творы Пушкіна, Лермантава, Блока, Ясеніна. Дэкламаваў цэлыя паэмы. Дзякуючы гэтаму меў пэўныя поспехі: падмацаваць раскрыццё вобраза заўсёды мог цытатай. Добра ведаю не толькі мастацкія творы, але і творы рускіх філосафаў — Пляханава, напрыклад.

Апошнім часам мой галоўны занятак — прафесійнае чытанне беларускай мастацкай літаратуры. Асноўны клопат — філалагічная апрацоўка помнікаў нашай спадчыны — Францыска Скарыны, Кірылы Тураўскага, Сымона Буднага і інш. Цікавяць 20-я гады мінулага стагоддзя, літаратура нашаніўскага перыяду. Перачытваю тое, што падаецца істотным. Міхася Зарэцкага — яго раман "Сцежкі-дарожкі", аповесці. Адчуў эстэтычнае, духоўнае і эмацыянальнае задавальненне — гэта геній. Зусім па-іншаму ўспрымаецца творчасць Купалы, Коласа, Багдановіча, Цёткі, Ядвігіна Ш. З радасцю дзялюся са студэнтамі сваімі эмоцыямі, каб для іх наша літаратура не засталася абмежаванай толькі рамкамі прадмета.

Прапанаваў бы ўсім не пакінуць па-за ўвагай незакончаны раман Ядвігіна Ш. "Золата". Пісьменнік магутнага таленту, вялікага маштабу. Хаця, увогуле, ніякі раман нельга лічыць закончаным, бо жыццё, для якога ён толькі люстэрка, — бясконцае. Недаацэнены нашай педагагічнай думкай Вацлаў Ластоўскі — чалавек універсальнага таленту. Яго творчасць — сінтэз навукі, мастацтва, міфалогіі.

З сучасных адзначу творы Георгія Марчука. Васіль Шырко — майстар слова, у творчасці якога і мастацкасць, і духоўнасць, і народнасць. Немагчыма адарвацца. Колькі гумару, карнавальнай культуры!

Параіў бы звяртацца да спадчыны такіх пісьменнікаў, як Крапіва, Мележ. Іх творчасць аказала ўплыў на фарміраванне грамадскіх ідэалаў, станаўленне і фармаванне грамадскай культуры, не кажучы ўжо пра нацыянальную кансалідацыю.

У Танка вельмі падабаюцца тыя вершы, дзе паэт дзеліцца ўражаннямі ад падарожжаў. Яго замалёўкі Азіі, Іспаніі, іншых краін перадаюць іх глыбінную сутнасць.

Наша літаратура валодае каласальным патэнцыялам — інтэлектуальным, эстэтычным, духоўным. Упэўнены, што яшчэ наперадзе яе сапраўднае адрыццё і нашымі грамадзянамі, і ўсім светам. Даўнія інтэлектуальныя традыцыі, тысячагадовая пісьмовая спадчына паспяхова могуць і павінны стаць альтэрнатывай дэградацыі і дэмаралізацыі.

Teenbook

# Сказка? Реальность? Фантастика?

Я давно собиралась написать про Дину Сабитову, а тут такой повод! Её имя — в только что опубликованном списке писателей, претендующих на премию Астрид Линдгрен. Премия учреждена правительством Швеции после смерти знаменитой писательницы в январе 2002 года. Она может присуждаться не только детскому писателю или художнику, но и организации за деятельность по пропаганде чтения. В этом году в списке значатся 207 человек из 67 стран.
Дина Сабитова — номинант от России. Она — замечательный писатель, самоотверженная мама, строгий эксперт конкурса подростковой литературы "Книгуру" и известный блоггер. Вот что она пишет о себе в ЖЖ (Живом журнале):
"Меня зовут Дина Сабитова, я филолог и детский писатель.
У меня трое детей и пять изданных книг.
Один из моих детей — приёмный ребенок.
Я родилась и жила в Казани.
Теперь я живу в Подмосковье.
Мои дети учатся дома.
У меня две собаки.
Я люблю рыбу, морепродукты и томатный сок".
У Дины очень интересный журнал, но сейчас не об этом. Сейчас о книгах. О прекрасной подростковой повести "Три твоих имени" я уже писала. Что ещё есть у Дины?

**Евгения ПАСТЕРНАК**

Книжку проиллюстрировала художница Дарья Герасимова. В предисловии к ней автор пишет: "Я радуюсь, что вокруг меня много семей с приёмными детьми. То, что это не жизненный подвиг и тем более не страшная семейная тайна, а просто ещё один способ обзавестись сыновьями и дочками, — уже очевидно для многих. Хочется, чтобы это стало обычным, очень часто встречающимся делом — принять в свою семью ребёнка".

"Сказки про Марту" были написаны по заказу издательства "Мир Детства Медиа" в рамках проекта "К новой семье". Это сказки, которые могут помочь принимающим родителям и их детям. Кроме того, книга содержит послесловие психолога с советами для приёмных родителей. Как поговорить с ребёнком о его прошлом? Как объяснить, почему он не живет со своими биологическими родителями?

В книге две сказки, которые написаны для детей разного возраста. В 3 — 6 лет важно, чтобы ребёнок знал, что его не вернут обратно в детдом, если он не будет достаточно хорошим. Для детей постарше важно понять, что необязательно быть внешне похожим на родителей. Но психолог предупреждает:




***Дина Сабитова. Сказки про Марту. — Москва: Мир Детства Медиа, 2012.***

не читайте ребёнку эти истории, если вы не готовы говорить с ним на тему усыновления, не готовы спокойно отвечать на его вопросы.

Марта — котёнок. Однажды она спросила у мамы, как появилась на свет. "Однажды зимой ты родилась на свет. Кошка, которая тебя родила, совсем не умела быть мамой. Она посмотрела на тебя и поняла, что ты хорошая и красивая. Только она совсем тебе не мама… А потом, в марте, тебя нашли мы. Твои мама и папа. Первый месяц весны — это март. Поэтому и назвали тебя Марта".

— Хорошо, что мы все нашлись, — решает Марта.— Сначала нашлись вы с папой, а потом нашлась для вас я.

Марта — живой и непосредственный котёнок. Она непоседа и шалунья. И мама не неё иногда ворчит и сердится. Но от сказок про Марту веет таким полноценным семейным счастьем, и, кажется, что тепло становится, когда отрываешь книгу. Сразу хочется верить, что все потерянные котята обязательно найдут своих настоящих родителей.




***Дина Сабитова. Мышь Гликерия. Цветные и полосатые дни. — Москва: Розовый жираф, 2011.***

По-моему, это очень "девочковая" книжка. Открываешь — и погружаешься в фантастический мир фильдеперса, оборочек, салфеточек, бусинок, чашечек… И такое всё милое, домашнее, уютное!

Живет на свете мышь Гликерия. То она мечтает быть мексиканским тушканом, то ходит в гости босиком, то катается до упаду на велосипеде, то солит огурцы, то моет холодильник. Простые же истории! Но такие домашние! А картинки — это отдельное удовольствие, их можно рассматривать, и рассматривать, и рассматривать. Там столько мелочей, столько "вкусностей", столько смешного, столько родного! Будете читать ребёнку — сами вдоволь налыбаетесь.

"Мышь Гликерия стояла перед зеркалом и хмуро оглядывала себя. Себе Гликерия не нравилась. Гликерии казалось, что её жизнь не удалась".

"А то, что часы опаздывают, — так это просто они именно сегодня никуда не торопятся".

"Мышь — существо прекрасное. Имя ей нельзя подбирать абы как. Мыши — они похожи на нежные цветы. И имя Гликерия себе найдёт такое — роскошное и изящное. Роза… Астра… Сентофия остролистная".

"…она не любит число семнадцать — какоето оно острое, шершавое, у Гликерии от него даже мурашки бегут от левого уха до хвоста".

Мышь Гликерия в пятницу утром проснулась и подумала: "Какая-то я нетворческая мышь!"

По мне, у этой книжки есть только один недостаток… Она очень быстро заканчивается!

Наверное, это самая известная книга Дины Сабитовой. Книга — призёр премии "Заветная мечта" в 2007 году. Отрывок из этой повести вошёл в учебник русского языка для 8 класса.

***Дина Сабитова. Цирк в шкатулке. — Москва: Самокат, 2008.***




Вот что говорит сама автор: "Я хотела написать безопасную книгу. Где — на самом деле — все плохие только до того момента, пока не нашли своё дело в жизни, взрослые — не подлые, и рядом с ними ребёнок чувствует себя в безопасности, ложные цели сменяются настоящими, любящие воссоединяются, больные дети не умирают, а из любимых лошадей не делают конскую колбасу. Потому что сказка ведь. Не, пусть всё кончится хорошо, а?"

"Цирк в шкатулке" — история о цирке "Карусели". Там — клоун Пе с противным характером, умная цирковая лошадь Аделаида, любопытная собачка Китценька и её хозяйка — мудрая мадемуазель Каземира. Там — самоотверженный ослик Филипп, фокусник Иогансон, гимнасты Флик и Фляк и даже человек-оркестр Мелодиус.

В этой книге, как в волшебной шкатулке, есть всё. И история о мальчике Мареке, который жил в детском доме и всё у него в жизни было. И забота, и еда, и уроки математики. Всё было. Только в один прекрасный день Марек убегает из дома, спрятавшись в тележке у ослика Филиппа. И история о скандальном клоуне Пе, который был очень хорошим директором клепального завода и стал очень плохим министром культуры. И история маленькой принцессы Карамельки, которой не давалась математика. А заодно история её мамы, очень умной и очень ответственной королевы. И история любви ослика Филиппа и красавицы Льдинки. И о том, как Китценька преодолела огромный соблазн и спасла друзей. И история о том, как экстравагантная Эва сначала вытащила Марека из ручья, а потом стала новым клоуном Шкатулкой. И даже история любви господина директора цирка с… А вот не скажу с кем!

Эту книгу стоит почитать. После неё начинаешь любить людей и верить в добро.




***Дина Сабитова. Где нет зимы. — Москва: Самокат, 2011.***

Это моя самая любимая книга Дины Сабитовой. От неё просто невозможно оторваться. "Где нет зимы" получила знак "Нравится детям Ленинградской области-2011", а его просто так не дают. Это значит, что огромное количество читателей детских библиотек книгу прочитало и оценило.

Очень сложно определить жанр. Тут, как в детстве, сказка неотделима от жизни. Грустная, щемящая история со счастливым концом. Осиротевшие дети, нашедшие новую семью. Опустевший дом, нашедший хозяев.

В книгах Сабитовой нет плохих людей, есть люди, совершающие неправильные поступки. Им сочувствуешь, их жалеешь, пытаешься их понять. Но, что важно, не злишься, не осуждаешь.

В жизни двоих детей одно за другим случаются непоправимые несчастья. Сначала умирает бабушка, а потом пропадает мама. Тринадцатилетний Павел становится главой небольшой семьи, полностью взваливает на себя ответственность за сестрёнку Гуль. Ему многие помогают. И директор приюта, куда они попадают, и кукла Лялька, и даже Домовой. И благодаря его удивительному характеру и силе, благодаря его умению любить в старом доме вновь появляется семья.

Ведь что такое дом? Это не просто стены. Что такое семья? Это не просто люди, которые живут вместе. Дом и семья — это прежде всего любовь и желание иметь и сохранить дом и семью. И если желание есть, то и Домовой в помощь.

Я уверена, что книги Сабитовой станут классикой русской детской литературы, сама с нетерпением жду её новых книг. И вам они понравятся!

## Віктар КУНЦЭВІЧ

# Я чакаю цябе

## *Апавяданне*

Увосень цямнее хутка. Шэрае сутонне ўвачавідкі наліваецца чарнатой, з неба — ані кроплі святла. Вулічны ліхтар, да якога паволі набліжаўся Сяргей Новік, засунуў густую цямрэчу ўбакі. Сяргей нават спыніўся і правёў позіркам знізу ўверх па кромцы святла. Дамоў ісці не хацелася. Учора вечарам Новік пасварыўся з жонкай у чарговы раз. Яна папракала, што ён не можа зарабіць грошай столькі, каб жыць па-людску.

У кішэні завуркатаў мабільнік. Новік паспешліва прыклаў яго да вуха.

— Сяргей, прывітанне! Гэта Анэля. Ты зараз дзе?

— Паставіў машыну і валакуся дамоў, — незадаволена прамовіў Новік.

— Цудоўна, — узрадавалася Анэля, — заходзь да мяне... Тут сабраліся нашы супрацоўніцы, ну, памятаеш, я казала табе? Наш бабскі клуб... Табе ж па дарозе...

Сяргей не адказваў, абдумваючы прапанову.

— Сёння з намі Ніна Піліпаўна, у яе цудоўны голас. А колькі яна песень ведае! — па-змоўніцку даверліва заваблівала Анэля. — Я ж яшчэ хачу і аддзячыць табе за тое, што прывёз з вёскі маю летнюю нарыхтоўку. Грыбы, якія я варыла ў казане па начах, закупіў рэстаран "Каўказ"!

Новік здзіўлена спытаў:

— Што, забралі ўсе слоікі?

— Усе-ўсе, — радасна звінеў голас Анэлі ў тэлефоне. — Пацягнула амаль на сто кіло, — і перапытала: — Ну што, зойдзеш?

— Зайду.

Сяргей, кладучы мабільнік у кішэню, уявіў у думках вогнішча, чорны казан над языкамі полымя, Анэлю з вялікай драўлянай лыжкай, начное неба, усыпанае зоркамі... Потым малюнак яго ўяўленняў змяніўся: асветленая шыкоўная зала, салідныя людзі ў гарнітурах, аркестр, поўныя ежы сталы, а пасярод сапраўдны цуд, далікатэс — грыбы з Клічаўшчыны. Сяргей уголас засмяяўся: "Ну і малайчына Анэля Фёдараўна! Кабеце амаль шэсць дзясяткаў, а такая энергічная".

Сяргей Новік неўпрыкмет падышоў да дома, дзе жыла Анэля Фёдараўна. Кодавы замок не працаваў. У пад'ездзе ён згледзеў нумар кватэры і націснуў на клычажок званка. Дзверы расчыніліся — яркае святло на імгненне асляпіла.

Гаспадыня схапіла Сяргея за руку і адпусціла яе толькі тады, калі яны зайшлі ў залу. За доўгім сталом, ці, хутчэй за ўсё, гэта былі два сталы, састаўленыя ўпрытык, сядзела кампанія жанчын.

— Знаёмцеся, Сяргей Новік — прыватны прадпрымальнік па перавозцы пасажыраў і грузаў, мой даўні сябра, — прадставіла госця Анэля Фёдараўна.

Кабеты, а было іх з дзясятак, зацікаўлена паглядзелі на мужчыну. Новік сеў за стол. Анэля Фёдараўна наліла яму чарку, прынесла з кухні чысты прыбор. Сяргей агледзеўся: жанчыны былі сярэдняга ўзросту і старэйшыя. Разамлелыя ад выпітага, яны пачувалі сябе вольна і ўжо не звярталі ўвагі на адзінага ў іх кампаніі мужчыну — узнавілі свае размовы.

Праз колькі хвілін Анэля Фёдараўна аб'явіла: "А цяпер, дарагія мае, канцэрт па заяўках: вы замаўляеце любую песню, якую пажадаеце, а Ніна Піліпаўна яе выконвае. Але пакуль будзеце думаць, паслухайце яе голас.

— Ой, рэчанька-рэчанька, чаму ж ты няпоўная... — глыбокі прыемны тэмбр залунаў у пакоі.

Новік уважліва паглядзеў на жанчыну. Ёй было каля сарака. Круглы твар, вялікія вочы, а чорныя, як смоль, валасы высіліся на галаве ўнушальным вузлом. Яна перастала спяваць і ўсміхнулася. Левы куточак верхняй губы пры ўсмешцы ўзняўся вышэй, чым правы. І ў гэтым была пэўная арыгінальнасць, шарм. Новіку падалося, што ён дзесьці бачыў падобную ўсмешку, а ў галаве ўжо мільганула шальмаватая думка: пацалаваць бы гэтыя мілыя, спакусліва вусны.



Новік, нахіліўшыся да Анэлі Фёдараўны, спытаўся: "Як завуць жанчыну і адкуль яна?"

— А, спадабалася, — заўсміхалася гаспадыня кватэры і патлумачыла: — Ніна — мая пляменніца, жыве ў Бабруйску. Была замужам, а цяпер вольная птушка.

— У мяне такое адчуванне, што я яе недзе бачыў.

— Яна вучылася ў нашым медвучылішчы.

А Ніна Піліпаўна ўжо спявала чарговую песню, якую ў свой час выконвала Марыля Радовіч. А калі закончыла спеў — усміхнулася, затым пачуліся дружныя апладысменты.

Няўцямнае хваляванне ахапіла Новіка. Ён ужо быў упэўнены, што бачыў гэтую ўсмешку. І тут ён раптоўна ўспомніў, што менавіта так усміхалася дзяўчына, з якой ён сустракаўся, калі вярнуўся са службы ў войску. Так, яна тады вучылася ў медыцынскім вучылішчы, і звалі яе Ніна. Гэтым часам Ніна Піліпаўна спявала песню, якую замовіла гаспадыня кватэры, але ў словы той песні Сяргей Новік ужо не ўслухоўваўся...

Вярнуўшыся са службы ў аўтароце, Сяргей Новік падаўся ў таксаматорны парк. Там ён прайшоў курсы перападрыхтоўкі і неўзабаве на старэнькай "Волзе" выехаў на лінію. На гэтай машыне да яго працаваў таксама малады вадзіцель, які пайшоў у свой першы водпуск. Начальнік таксапарка папярэдзіў Новіка, каб той адносіўся да машыны ашчадна, бо праз месяц яе трэба будзе вярнуць гаспадару.

Аднойчы надвячоркам Сяргей стаяў у чарзе таксі каля гасцініцы "Дняпро". Дзверцы яго машыны адчыніла дзяўчына і здзіўлена спыталася: "Ой, а дзе ж Толік Лонскі? Гэта ж яго таксі ці, можа, я памылілася?

— Так, машына яго, але цяпер ён у водпуску, так што я за яго, панечка, сядайце, калі ласка, — жартоўным тонам прапанаваў Сяргей. Дзяўчына ўсміхнулася. Усмешка наўскасяк агаліла верхні рад зубоў, нібыта мільгнула маланка: "У мяне няма такіх грошай, каб раскашэльвацца на таксі. Толік Лонскі — мой зямляк, я проста хацела з ім пагаманіць.

— Дык пагаманіце са мной, вунь жа ў чарзе перад намі яшчэ тры машыны. Дарэчы, раскажаце мне, які ён, ваш зямляк, бо я яго нават не бачыў. Выйдзе з водпуску і яшчэ намыліць мне шыю за тэхнічны стан таксі.

— І ёсць за што мыліць, — сур'ёзным тонам сказала дзяўчына, — машына брудная.

— Дык жа ўдзень быў дождж, — пачаў апраўдвацца хлопец.

А вечарам яны ўжо сядзелі ў зале кінатэатра "Чырвоная зорка" і глядзелі індыйскі фільм, у якім злачынца забівае сям'ю. Жывым застаецца маленькі хлопчык, які схаваўся пад ложак. Ён добра разгледзеў твар забойцы яго бацькоў і сясцёр, каб у будучым адпомсціць.

Калі выйшлі з кінатэатра, Сяргей адзначыў: "Сюжэты ўсіх індыйскіх фільмаў чамусьці пабудаваны на помсце, і гэта расчароўвае".

— А мне спадабаліся артысты. Я таксама люблю спяваць і танцаваць, — сказала Ніна.

— Дык мы можам яшчэ зайсці на танцпляцоўку ў парк Горкага, — прапанаваў Сяргей.

— А што, гэта было б цудоўна.

З таго вечара яны пачалі сустракацца часта. Ніна жыла ў сваякоў у прыватным доме з асобным уваходам у свой пакой. Пасля сумесных прагулак па горадзе яна вярталася дамоў падкрэслена адна. А крыху пазней Новік, быццам злодзей, пракрадваўся да яе акна і ціхенька чакаў, калі хударлявая, стройная дзяўчына прачыніць фортку.

— Ты ўзяла мяне ў палон, — горача шаптаў ён ёй на вуха Сяргей.

Вяртаць машыну Лонскаму не давялося — той пайшоў напарнікам да іншага таксіста. Аднойчы таксі Лонскага і Новіка апынуліся побач у чарзе на мыйку, Лонскі — высокі і худы — зірнуў на Сяргея зверху ўніз і сказаў з непрыхаванай злосцю: "А ты шустры малы: не толькі маю машыну, але і дзяўчыну прыбраў да рук".

— Забірай, калі тваё, — глуха адказаў Сяргей. Яго разбірала рэўнасць.

— Ды не было між намі нічога, — у той жа вечар даводзіла Сяргею Ніна. — Гэта ён мяне дабіваўся. Але як мужчына ён мне не падабаецца. У выхадныя заўсягды п'яны. А ты зараўнаваў, дурненькі...

— Відаць, і напраўду дурненькі...

Тым часам Сяргею Новіку ішоў дваццаць другі год. Ён не задаваўся пытаннямі, а ці сапраўды кахае Ніну і як далей будуць развівацца іх адносіны. Але ж разумеў, што іхняе інтымнае жыццё ўрэшце прывядзе да нейкага пэўнага рашэння. Жаніцца ён не хацеў, бо лічыў, што для стварэння сям'і патрэбна мець якуюсьці эканамічную базу. Ён ужо стаў у чаргу на кааператыўную кватэру, аднак грошы на першапачатковы ўнёсак патрэбна было яшчэ зарабіць. Праўда, і Ніна не турбавала яго пытаннямі і размовамі пра будучыню. Ім было хораша разам, і наперад зазіраць яны не спяшаліся. Шчасце іх азмрочыла цяжарнасць Ніны. Гэтая навіна аглушыла Новіка. Ніна вагалася з абортам, яна чакала, што хлопец урэшце прапануе ёй звязаць іх адносіны шлюбам. Аднойчы на сустрэчу Ніна прыйшла з маладой жанчынай, выкладчыцай вучылішча. Кабета даводзіла Сяргею, што рабіць аборт позна, а таму і вельмі рызыкоўна. І заявіла: "Калі вы кахаеце адно аднаго, дык трэба ствараць сям'ю і чакаць дзіця — гэта ж такое шчасце".

— Бач ты, разумніца, — падумаў тады злосна Новік, — я яшчэ і агледзецца толкам не паспеў у гэтым жыцці, а яны пхаюць мяне ў сямейнае ярмо.

У той вечар Сяргей з Нінай пасварыліся. Новік папракаў дзяўчыну тым, што яна ўмешвае ў іх адносіны чужых людзей, нават заявіў, што дзіця не яго. Узгадаў Лонскага.

— Ты — эгаіст, — роспачна прамовіла Ніна, — болей я цябе бачыць не жадаю...

З таго вечара яны і не бачыліся. Праўда, Новік рабіў спробу сустрэцца з Нінай: надвячоркам стукаў у яе акно праз два тыдні апасля расстання. Потым пастукаўся ў дзверы да гаспадароў дома. Хударлявая жанчына зацікаўлена агледзела яго і спытала: "Сяргей? Ніна паехала да бацькоў у Бабруйскі раён", — і падала яму паперку. Новік тут жа прачытаў напісанае. Там быў толькі адрас. Пазней ён ўнізе лістка ён згледзеў маленькую прыпіску: "Я чакаю цябе". Аднак крылы кахання не ўзнялі хлопца ў вышыню, і ён не паляцеў на іх да Ніны ў яе вёску…

Гасціна ў Анэлі Фёдараўны заканчвалася. Жанчыны пачалі выходзіць з-за стала. Ніна Піліпаўна таксама пакінула застолле і цяпер стаяла каля акна, размаўляла з невысокай поўнай кабетай. Новік адзначыў, што сталая жаноцкасць надала Ніне вабнасці і самавітасці. Сяргей падняўся з крэсла і ўбачыў, што Ніна ідзе да яго. "Значыць, яна таксама пазнала мяне", — мільгнула ў галаве думка, і яму зрабілася горача.

— Ну, ты пазнаў мяне? — спыталася жанчына і прыязна ўсміхнулася.

Новік моўчкі хітнуў галавой. Ён разумеў, што яму патрэбна штосьці сказаць ці спытацца, аднак, нібыта згубіўшы запас думак і слоў, зачараджана глядзеў у гарэзлівыя Нініны вочы. Пасля невялікай паўзы Ніна загаварыла зноў:

— Анэля Фёдараўна расказала, што замаўляла для паездкі ў вёску машыну, назвала тваё імя і прозвішча, тады я і падумала, што гэта, напэўна, ты, Сяргей, і папрасіла паклікаць цябе на вечарыну.

— Можа, выйдзем у двор? — прапанаваў Новік.

Восеньская прахалода і цемра надалі Сяргею ўпэўненасці і спакою: "Гаспадыня сказала, што ты цяпер вольная птушка. Што гэта значыць? Ты была замужам і развялася?"

— Не, разводу не было. Муж быў на заробках у Падмаскоўі, атруціўся дрэнным гарэлкай. Ён і яшчэ двое бабруйскіх мужчын. Цяпер вось засталася адна...

— У вас хіба не было дзяцей?

— Так, з мужам не было, а вось дачка, — Ніна зрабіла паўзу, — ёсць. Твая дачка...

— Дык у мяне ёсць дачка?! — усхвалявана выгукнуў Новік.

— А ты ж папракаў, што я зацяжарала не ад цябе, а ад Лонскага, — у голасе Ніны пачуліся крыўдлівыя ноткі.

— Мала што я тады казаў! Малады быў — дурны... Але ж ты кажаш: жывеш адна... А дзе ж дачка?

— З ёй усё добра. Вучыцца ў Віцебскім медыцынскім інстытуце. Бачыў бы ты, Сярожа, як яна падобная да цябе: і бровы, і губы, і колер вачэй — твае.

— Якая ж ты малайчына, Ніна, што зберагла дачку, — Новік узяў жанчыну за руку.

— Ведаў бы, чаго гэта мне каштавала. Бацькі ледзьве не загрызлі. А як нарадзілася Алёнка — ужо нарадавацца на яе не маглі.

Новік усё яшчэ трымаў пальцы Ніінай рукі ў сваёй далоні. Іх цяпло, энергетыка ўзнялі ў душы Сяргея хвалю ўзрушэння, шчымлівага болю і, разам з тым, ціхай радасці. Яму захацелася абняць і прытуліць да сябе Ніну, сказаць ёй штосьці пяшчотна-таемнае...

Блакітным колерам засвяціўся экран Ніінага мабільніка.

— Без дзесяці адзінаццаць, — занепакоеным голасам прамовіла жанчына, — зараз па мяне прыедзе машына... Мой знаёмы ці, можна сказаць, нават кавалер. Я ж чаму апынулася ў Магілёве?.. Гэта ўсё Алёнка прыдумала... На сайце знаёмстваў размясціла мой фотаздымак. І перапісвалася з мужчынамі — выбірала для мяне мужа. Гэты чалавек прыязджаў ужо да мяне ў Бабруйск. Дужа ж ніякавата я пачувалася. А ён запрасіў да сябе, казаў, я яму падабаюся. Вось я і пазваніла Анэлі Фёдараўне — яна цётка мая, каб параіцца. А тая ўчапілася за гэту ідэю. Прыязджай, кажа, хоць з табой пабачымся.

Новік уважліва слухаў Ніну. Пачуццё ціхай радасці знікла, аднекуль з'явіліся разгубленасць і шкадаванне. Нават жалілі іскрынкі рэўнасці. Тым часам на стаянку каля дома заехаў легкавік. З яго выйшаў мужчына. Ніна памахала яму рукой, гучна сказала:

— Дзве-тры хвіліны і я іду.

— Добра, я чакаю цябе, — азваўся мужчына.

Гэтыя словы нібыта ўкалолі Сяргея, ён рушыў за Нінай, у пад'ездзе ўзяў яе за локаць і глуха прамовіў:

— Ніна, я хачу пабачыць дачку.

— Што ж, прыязджай да нас, калі яна будзе на канікулах. Алёнка таксама жадае пазнаёміцца з табой.

— Дзякуй і даруй мне, Ніна, — хутка і горача прамовіў Сяргей.

Да самай раніцы ён не мог заснуць, а калі ачомаўся, то ў кватэры ўжо не было ні жонкі, ні сына. Зірнуў на гадзіннік — дзесяць гадзін з лішнім. Калі заварваў каву, патрабавальна зазвінеў тэлефон. Званіў даўні заказчык: "Сяргей, як машына? Спраўная? Дык, можа, зганяем у Бабруйск?"

— Можна, — адказаў Новік і адчуў, як усхваляванна затрымцела сэрца.

У Бабруйску Новік набраў нумар Ніны. Яна адказала хутка і бадзёра, а калі пачула яго, Сяргееў, голас, здзіўлена прамовіла: "Я думала, ты будзеш званіць ужо ў новым годзе..."

— Ніна, тут так атрымалася... Я выпадкова патрапіў у Бабруйск. Быць тут і не сустрэцца з табой?.. Ведаеш, мне так многа трэба табе сказаць. Шмат пра што трэба параіцца. Ніна, калі ласка...

— Я зараз дома. Прыязджай, я чакаю цябе.

# Тры ў адным — і лепшая музыка

Ёсць выканаўцы з яркім канцэртным рэпертуарам: хіба гэтага не дастаткова для таго, каб у звычайны будзённы вечар сабрацца ўсім разам і наладзіць свята музыкі — для сябе, для публікі? А тут яшчэ аж тры падзеі супалі, стаўшыся грунтоўнай нагодай для правядзення ўрачыстай і шчырай вечарыны ў сценах Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Па-першае, імпрэзу прысвяцілі Міжнароднаму дню музыкі. Па-другое, Беларускі саюз музычных дзеячаў, па ініцыятыве якога ладзіўся канцэрт, прымеркаваў яго да свайго 25-годдзя. Па-трэцяе, стваральнікі гэтай святочнай праграмы ўшанавалі незабыўную асобу заслужанага артыста БССР, спевака Дзмітрыя Зубрыча, з дня нараджэння якога мінула 90 гадоў. Дарэчы, адданая спадарожніца яго яскравага, ды, на жаль, нядоўгага жыцця — легендарны і няўтомны лектар-музыказнаўца Беларускай дзяржаўнай філармоніі Іна Зубрыч, якая вяла вечарыну, — унесла ў атмасферу Малой залы імя Р. Шырмы дух жывых успамінаў і сямейнай цеплыні.



*Заслужаны артыст БССР Дзмітрый Зубрыч.*

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, фота аўтара**

Дзмітрый Зубрыч: за гэтым імем — сорак шэсць гадоў складанага, напружанага і яркага, імклівага зямнога жыцця. У Беларусь, якая стала для яго другой радзімай, спявак прыехаў у 1954 годзе, адгукнуўшыся на запрашэнне Іосіфа Жыновіча. Што было да гэтага? Украіна. Дзяцінства ў вёсцы непадалёк ад Харкава. Незабыўныя ўражанні ад выдатнага бацькавага голасу: рабочы-каваль Іван Зубрыч не толькі спяваў у сямейным коле, але і наведваў царкоўны хор. Першыя самастойныя жыццёвыя крокі: Дзмітрый пайшоў працаваць на завод. Вайна: фронт, раненне... Дваццацігадовы хлопец страціў кісць правай рукі. Якую працу мог знайсці малады інвалід у пасляваенным Харкаве? Аднойчы, калі ён вяртаўся дахаты ў прыгарадным цягніку і, мабыць, ад безвыходнай роспачы пачаў гучна спяваць украінскія народныя песні, адбылося тое, што называюць крутым паваротам лёсу. У вагоне стыхійна ўтварылася кола зачараваных слухачоў, і адзін з іх урэшце звярнуўся да Дзмітрыя з парадай: прафесійна заняцца спевамі, бо ў яго відавочныя музычныя дадзеныя і ад прыроды пастаўлены выдатны голас. Незнаёмы спадарожнік нават пакінуў хлопцу запіску — кшталту рэкамендацыі для звароту ў кансерваторыю.

Аднак у музычную ВНУ не прымаюць без сярэдняй спецыяльнай адукацыі, а ўладальнік прыгожага і моцнага барытона не ведаў нават нот! Так што давялося былому салдату здзейсніць подзвіг дзеля мастацтва: займаючыся па 10-12 гадзін, паспяваючы наведваць канцэрты і тэатральныя імпрэзы, ён быццам бы даганяў час і музычнае вучылішча скончыў за два гады, а не за чатыры, як належыць. У Харкаўскай кансерваторыі Дзмітрый



*Удзельнікі зводнага хору хлопчыкаў і юнакоў Беларускага саюза музычных дзеячаў.*

пашанцавала на педагога па вакале: ім стаў прафесар Павел Голубеў (у ліку вучняў гэтага майстра, напрыклад, — знакаміты бас Барыс Гмыра).

Прыехаўшы ў Мінск, малады спявак заўважна ўвашоў у музычнае жыццё Беларусі, працягваючы папаўняць свой разнажанравы канцэртна-камерны рэпертуар (новыя творы развучваў без дапамогі канцэртмайстра, акампануючы сабе на фартэпіяна левай рукой). Выступаў з вядучымі аркестрамі краіны, рабіў запісы ў студыі Дома радыё. Яго творчымі партнёрамі былі знакамітыя дзеячы айчыннай культуры: дырыжоры Іосіф Жыновіч, Віктар Дуброўскі, Барыс Афанасьеў, Тацціяна Каламійцава, Барыс Райскі; піяністы-канцэртмайстры Георгій Пятроў, Тамара Міянсарава, Ева Эфрон; калегі-спевакі Тамара Ніжнікава, Соф'я Друкер, Міхаіл



*Вядучая вечарыны музыказнаўца Іна Зубрыч.*

Зюванаў, Валерый Глушакоў, Тамара Шымко, Уладзімір Вепрык, цымбаліст Аркадзь Астрамецкі... А таксама беларускія кампазітары, якія з прыемнасцю давяралі Дзмітрыю Зубрычу выкананне сваіх твораў: Уладзімір Алоўнікаў, Ігар Лучанок, Дзмітрый Смольскі, Леў Абеліёвіч, Генрых Вагнер, Эдзі Тырманд.

У складзе канцэртна-лекцыйных брыгад філармоніі Дзмітрый Зубрыч аб'ехаў усю Беларусь. На "ўра" праходзілі яго выступленні ў студэнцкіх аўдыторыях, у вайсковых клубах, у гарадскіх парках; гэты голас гучаў на вялікім абсягу колішняга СССР — у буйных канцэртных залах Масквы, Ленінграда, гарадоў Сібіры, Сярэдняй Азіі; яму апладзіравала публіка ў Балгарыі, Польшчы.

Свой драматычны акцёрскі талент і лірычны дар спявак бліскуча ўвасабляў у складаным камерным рэпертуары: вакальных цыклах Ф. Шуберта, Р. Шумана, М. Равеля, М. Мусаргскага, Д. Шастаковіча, Г. Свірыдава, Д. Кабалеўскага, рамансах А. Барадзіна, П. Чайкоўскага, С. Рахманінава, лепшых г. зв. сюжэтных песнях. Безумоўна, такі выразны барытон мог упрыгожыць вакальную палітру Вялікага тэатра оперы і балета. Аднак рэжысура спектакля, як вядома, ставіць перад спеваком пэўныя акцёрскія задачы, асабліва складаныя, калі ён увасабляе аднаго з галоўных персанажаў. Адмысловая справа — псіхалагічна ўваходзіць у вобраз, праз вакальную інтанацыю раскрываць унутраны стан героя. А захоўваць пры гэтым сцэнічны малюнак ролі — ці магчыма такое для артыста з нерухомай правай рукой? Зубрыч паспрабаваў. Яго дэбют на сцэне Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета БССР адбыўся ў спектаклі "Травіята". Стварэнне вобраза Жоржа Жэрмона, пажылога арыстакрата з кійком у руцэ, у тонкіх пальчатках і цыліндры, вымагала ад выканаўцы маніпуляцый (адпаведных пэўнаму этыкету) з гэтымі аксесуарамі. Расказваюць, Дзмітрый Зубрыч пераканаўча трымаўся на сцэне, дэбют прайшоў паспяхова, але яго творчы подзвіг каштаваў неверагоднага хвалявання, вялікіх эмацыянальных затрат, сапраўднай самаахвярнасці.

Рамантычная восеньская вечарына ў філармоніі паяднала не толькі тых, хто памятае Д. Зубрыча — захопленага мастацтвам, прыгожага і таварыскага чалавека, спагаднага прафсаюзнага лідара, дасціпнага і адданага сябра, шчаслівага бацьку двух сыноў. Да падрыхтоўкі праграмы прычыніліся лепшыя нашы выканаўцы, музыканты розных пакаленняў, а яе рэжысёрам выступіў арт-дырэктар прадзюсарскага некамерцыйнага цэнтра "Класіка" Беларускага саюза музычных дзеячаў Валерый Уколаў. Імпрэза ладзілася на дабрачыннай аснове, таму ўсе ўдзельнікі вартыя асаблівай удзячнасці.

Адкрыўся канцэрт узнёслым і шчырым гучаннем кананічнай малітвы "Ave Maria" Дж. Качыні. З чыстымі "анёльскімі" спевамі зводнага хору хлопчыкаў і юнакоў БСМД пад кіраўніцтвам Паўла Шэпелева гарманічна спалучыліся оперныя галасы салістак — народнай артысткі Беларусі Наталлі Рудневай і яе вучаніцы Марыі Змітровіч. Партыю фартэпіяна выканаў Валерый Уколаў. Сучасным узорам хрысціянскай музыкі — "О, Воспетая Мати" вядомага мінскага аўтара Ірыны Дзянісавай (матушка Іюліянія) распачаў сваё выступленне мужчынскі вакальны ансамбль "Арнамент". У вытанчаным акапэльным выкананні гэтага віртуознага квінтэта (А. Пятроў, А. Дзюмін, Д. Клачко, П. Макарэвіч, А. Міхнюк) прагучала таксама рэтра-джазавая кампазіцыя А. Варламава "Сыходзіць вечар".

Працягвалі праграму інструментальныя нумары: Э. Элгар, Я. Глебаў, В. Войцік (аўтарская "Фантазія на тэму вальса "Пакуты кахання" Ф. Крэйслера). Выканаўцы? Эфектная маладая скрыпачка Аніта Малюгіна (клас прафесара А. Янпольскага) з канцэртмайстрам Нінай Кавецкай; улюбёнцы публікі трыа баяністаў "Мінск" — нязменны лідар Валянціна Пісарчык і артыстычныя хлопцы Дзяніс Міхайлоўскі ды Глеб Грэчанкаў; не менш папулярнае трыа "Кансананс", у якім іграюць дзве чарадзейкі цымбал Таццяна Шумакова і Наталля Аруцюнава ды трэці, зусім не лішні, — бліскучы піяніст Валерый Баравікоў. А народны артыст Беларусі Ігар Алоўнікаў раскрыў свой шматгранны талент, прэзентаваўшы публіцы ўласныя транскрыпцыі для фартэпіяна рамансаў С. Рахманінава, якія асабліва любіў спяваць Д. Зубрыч. Дзівоснае ўражанне: творца-піяніст быццам адкрыў для нас яшчэ дзве, не вядомыя дагэтуль, пранізліва пачуццёвыя рахманінаўскія фартэпіянныя прэлюдыі!

Старонкі музычна-тэатральнага жанру пагарталі салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Алена Бундзелева і Андрэй Марозаў (і піяністка-"аркестр" Таццяна Молакава), якія ўразілі залу самаадданым і дынамічным увасабленнем заключнай сцэны з оперы П. Чайкоўскага "Яўгеній Анегін". А таксама артыстка Купалаўскага тэатра Юлія Шпілеўская — выканаўца арыі Еўропы са спектакля "Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл", музыку да якога напісаў кампазітар Андрэй Зубрыч. Давяральнымі ноткамі прагучалі запісы песні ў выкананні Дзмітрыя Зубрыча-малодшага, якую браты-музыканты прысвяцілі сваёй маці Іне Ігараўне, і, вядома ж — голасу незабыўнага спевака...

А які пазітыўны і ўзнёслы атрымаўся апафеоз вечарыны! Канцэртны аркестр Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Перліна выканаў самую папулярную частку "Маленькай начной серэнады" В. А. Моцарта. Здавалася б, вось ён, кранальны і светлы фінал. Аднак вядомы далёка за межамі нашай краіны калектыў юных музыкантаў разам са сваім непераймальным крэатыўным і артыстычным маэстра мусіў затрымацца на сцэне. Яскравы парафраз на тэмы з аперэт І. Кальмана і пранізлівая музыка з рок-оперы Э. Л. Уэбера "Ісус Хрыстос — суперзорка"... Публіка ледзь не адбіла сабе далоні, затое атрымала аж два шыкоўныя падарункі на "біс"!



*Салісты Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі Алена Бундзелева і Андрэй Марозаў.*

# Нежалобны рэквіем па Танку

Сярод чарады юбілейных праектаў да 100-годдзя Максіма Танка яркую, “некан’юнктурную” імпрэзу здзейсніў Беларускі паэтычны тэатр аднаго акцёра “Зьніч” пад кіраўніцтвам Галіны Дзягілевай.



*Артыст Валерый Шушкевіч чытае “Лісткі календара” М. Танка.*

**Алесь СУХАДОЛАЎ**

Тэатральна-канцэртны праект атрымаў назву “Час і Постаці”. Сродкамі класічнага мастацтва: дэкламацыі, спеваў і музыкі — у ім увасобілася паэзія беларускага песняра. Атмасфера Белдзяржфілармоніі як нельга лепш падыходзіла пад фармат мерапрыемства, а з боку публікі быў праяўлены немалы інтарэс.

За савецкім часам, калі на першы план вылучалася сацыяльная функцыя мастацтва, на паэта ўскладалася грамадзянская місія. Пры гэтым крыху адцяняліся іншыя рысы яго творчай індывідуальнасці. Прыклад М. Танка, як і многіх класікаў айчыннай паэзіі, у гэтым сэнсе асабліва паказальны. Здаецца, атрыманае нашымі сучаснікамі ўяўленне пра творчасць песняра далёка не поўнае. Адкрыць Танка-лірыка з інтымным светам яго пачуццяў, Танка-філосафа, эксперыментатара, які спрабаваў сябе ў самых розных жанрах, паказаць яго творчасць у шырокім сусветным кантэксце, не забываючыся і пра важнейшую ролю песняра-патрыёта — такой бачыцца задача любога юбілейнага мерапрыемства. Стваральнікі праекта “Час і Постаці” не абмінулі грамадзянскага пафасу танкаўскай творчасці, але, як і патрабуе таго сучаснасць, акцэнты былі зрушаны ў іншы бок.

У імпрэзе тэатра “Зьніч” былі адлюстраваны карані творчасці паэта, якія сягаюць у старажытную народную культуру, у найбагацейшы славянскі фальклор, у сялянскае асяроддзе. Дамінавала філасофская і інтымная лірыка. У сценах філармоніі асоба паэта раскрывалася не столькі па-новаму, колькі па-іншаму. Гэта своеасаблівы “трыб’ют” нашаму класіку ад артыстычнай і музычнай багемы. Вычарпальнай і рознабаковай характарыстыкі спадчыны М. Танка трэба чакаць ад літаратуразнаўцаў і крытыкаў, тэатралы ж найперш імкнуліся перадаць сам дух танкаўскай творчасці, яе стыхію. І ў іх гэта няблага атрымалася.

Імпрэза складалася з двух аддзяленняў, мала падобных адно да аднаго. Першае, якое называлася “Ключ жураўліны”, уяўляла сабой тэатральны кактэйль з шэрагу нумароў, у якіх удзельнічалі артысты тэатра “Зьніч” Лявон Сідарэвіч, Уладзімір Шэлестаў, Галіна Дзягілева, народны ансамбль народнай песні “Гаманіна” пад кіраўніцтвам Наталлі Сазановіч, паэтычны тэатр “Рытмы сэрца” студэнцкага клуба Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі (кіраўнік Кацярына Салата). Уразіла мастацкае чытанне вершаў артыстамі “Зьніча” пад музычны акампанемент — своеасаблівы працяг “баянаўскай” ці кабзарскай традыцыі. Прафесійная дэкламацыя сёння — мастацтва рэдкае, па тэлебачанні і ў інтэрнэце яго, на жаль, не пабачыш, і “Зьніч” у гэтай справе — безумоўны лідар. Арганічна паяднаная з прыродай, паэзія Танка ў такім выкананні атрымала сапраўды магічнае, рытуальнае гучанне. Гарманічна дапаўнялі атмасферу спевы і мелодыі ансамбля “Гаманіна”. Артысты студэнцкага тэатра “Рытмы сэрца” з калектыўным сцэнічным чытаннем лірыкі прадэманстравалі, як традыцыі засвойваюцца маладым пакаленнем, даказалі, што паэзія М. Танка жывая і можа знайсці водгук у душах сучаснікаў. Кульмінацыйным момантам сталася выкананне артыстам вакальнай студыі “Эліксір” пры БДУІР Аляксандрам Кудзельскім эстраднай песні “Завушніцы” з рэпертуару легендарных “Песняроў”.



*Заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь Уладзімір Шэлестаў і паэтычны тэатр БДУІР “Рытмы сэрца”.*

Адметнае ўвасабленне на сцэне атрымалі вершы “Ключ жураўліны”, “...Я нёс табе песню”, “...Растуць на радзіме маёй небасяжныя дрэвы”, “Паэзія”, “Гравюры Скарыны”, “...Здарожыўся, ля студні”, паэмы “Журавінавы цвет”, “Каліноўскі”, “Казка пра музыку” і іншыя творы класіка. Разрозненыя кавалкі спадчыны песняра, увасобленыя рознымі выканаўцамі, былі складзены рэжысёрам Г. Дзягілевай у адзіную мазаіку. Біяграфія творцы раскрывалася ў імпрэзе ў свеце эпахальных для нашай краіны падзей. Такі падыход да жыццяпісу М. Танка слушна абгрунтаваны словамі яго ж верша:

*Таму, каб пачуць*
*Гэту песню, ты мусіш*
*Са мною прайсці*
*Па шляхах Беларусі.*

Знайшла сваё адлюстраванне ў імпрэзе і тэма Вялікай Айчыннай вайны, якая была адной з вызначальных у беларускай літаратуры ў цэлым і займала важнае месца ў творчасці лірыка.

Другое аддзяленне канцэрта сталася сапраўдным рэквіемам, данінай памяці народнаму паэту. Драматычная араторыя “Лісткі календара” кампазітара Алега Залётнева створана на аснове аднайменнай празаічнай кнігі М. Танка — дзённіка, што паэт вёў у 1935 — 1939 гг., калі ва ўмовах жыцця ў Заходняй Беларусі гартаваўся яго малады бунтарскі дух: арышты і зняволенне, падпольная барацьба, праца журналістам, сустрэчы з асобамі, якія паўплывалі на фарміраванне светапогляду... У выкананні араторыі былі задзейнічаны Сімфанічны аркестр і акадэмічны хор Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі Рэспублікі Беларусь (дырыжор Юрый Караваеў). Чытальнікам выступіў артыст Валерый Шушкевіч, які выдатна, без асаблівага знешняга антуражу, за кошт унутранай энергетыкі ўвасобіў вобраз народнага паэта. Словы чытальніка перамяжоўваліся партыямі салістаў, а хор і аркестр стварылі маштабнае сімфанічнае гучанне. Араторыя была прасякнута гераічным пафасам танкаўскай творчасці. Шчыры непакой за лёс роднай зямлі, духоўная еднасць з народам — гэтыя рысы творчай натуры паэта былі ўзноўлены ў музычным творы з асаблівым напружаннем. Узняты дух глядзельнай залы выліўся гулам шчырых авацый.

Праект “Час і Постаці” тэатра аднаго акцёра “Зьніч” прадэманстраваў, як паэзія можа быць папулярызавана сродкамі сцэнічнага і музычнага мастацтва, якія не толькі ўзмацняюць яе гучанне, але і робяць значна больш даступнай для шырокай аўдыторыі. Упэўнены, многім гледачам пасля наведвання імпрэзы захацелася перачытаць зборнік танкаўскай лірыкі. Як, зрэшты, і мне.

Імпрэзы

## Дыялог з грамадствам

У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва адбылася адкрытая лекцыя маскоўскага вулічнага мастака Кірыла ХТО пры ўдзеле стрыт-арт-групы “Сігнал”.

**Ганна ПАЛЯКОВА**

Супрацоўнікі музея імкнуцца пазнаёміць аўдыторыю з мастацтвам, якое не адносіцца да традыцыйнага, — шукае новыя формы для творчасці, адлюстравання светаадчування. Адносна маладой з’явай у культуры з’яўляецца стрыт-арт, ці вулічнае мастацтва. Даследчыкі не перастаюць спрачацца, ці можна лічыць графіці мастацтвам.

У Маскве існуе шмат графіці-каманд. Кірыл ХТО свядома дыстанцыруецца ад гэтых супольнасцей і выступае з крытыкай у бок графітчыкаў, якія робяць бессэнсоўныя надпісы. Свае творы ён малюе на месцы старых, пакідаючы крытычныя паведамленні — хоча, каб асобныя прадстаўнікі графіці-супольнасцей перасталі пэцкаць сцены. Малады мастак часта не завяршае сваіх работ, ён заўсёды пакідае за іншымі людзьмі права нешта дадаць, дамаляваць.

Творчасць Кірыла — гэта спроба дыялогу з грамадствам. Ён арыентуецца на “маленькага чалавека”, мільёны якіх ходзяць па вуліцах Масквы. “Тэмп жыцця сёння ў мегаполісах такі, што людзі зусім не бачаць прыгажосці і гармоніі наваколля, — дзеліцца думкамі малады творца. — Яны заўважаюць толькі бясконцую рэкламу, якая запаўняе ўвесь горад: сцены, білборды, нават асфальт”.

З дапамогай творчасці малады мастак даследуе рэчаіснасць, уступае ў дыялог і з самім сабой, і з горадам. Яго працы нагадваюць людзям пра тое, што сапраўды важна, заклікаюць прыпыніцца і задумацца.

# З Віцебскам у сэрцы

**Яўген ШУНЕЙКА**

Віцебскія і мінскія мастацтвазнаўцы і мастакі аб’ядналіся пад паэтычнай назвай “Віцебск у сэрцы маім і тваім” і прадставілі свае творы ў выставачнай зале Віцебскага абласнога краязнаўчага музея.

Ёсць у Віцебска свая харызма, прыцягальная энергетыка, вобразная выразнасць. Дастаткова адзін раз наведаць славуты горад, што ўзвышаецца над Дзвіной, каб потым марыць вярнуцца сюды зноў і зноў. Для гэтага заўсёды знойдзецца нагода: міжнародныя фестывалі, выстаўкі, канферэнцыі ды самыя розныя прыватныя справы. І кожны раз Віцебск выглядае ўсё больш захапляльным, прыадкрывае свае архітэктурныя, культурныя, мастацкія скарбы, спрыяе знаёмствам з цікавымі і таленавітымі асобамі, узбагачае нечаканымі ўражаннямі.

Неўзабаве ўзнікла ідэя перадаць захапленне слаўным горадам у выглядзе мастацкай выстаўкі.

Сярод удзельнікаў — Уладзімір Пракапцоў, Валерый Жук, Людміла Налівайка, Уладзімір Рынкевіч, а таксама аўтары з Віцебска — Генадзь Ісакаў, Вячаслаў Шамшур і іншыя творцы. Іх многае звязвае: гады творчай вучобы, удзел у шматлікіх супольных выстаўках, а самае галоўнае — асветніцкая дзейнасць. Сумяшчаючы навуку і мастацтва, пэўнае кола аўтараў плённа працуе ў родным Віцебску, мінскія іх калегі неаднойчы яго наведвалі, працавалі ў архівах, вывучалі музейныя калекцыі. Нарэшце патаемныя мары ўвасобіліся ў рэальнасці: яны атрымалі магчымасць стаць удзельнікамі выстаўкі пад дахам аднаго з найпрыгажэйшых віцебскіх будынкаў, у самым асяродку культурнага жыцця горада. А побач з іх творамі ў розных відах выяўленчага мастацтва выстаўлены і шэраг публікацый як вынік навуковых пошукаў.

Жывапісныя, графічныя, скульптурныя творы прысвячаліся віцебскай мінуўшчыне, не мінаючы падзей 1812 года, цудоўным і маляўнічым краявідам з матывамі Дзвіны і яе прытокаў Віцьбы і Лучосы, непадуладнаму часу раёну горада Пескавацікі, які малявалі яшчэ мастакі пачатку мінулага стагоддзя. Аўтэнтычныя віцебскія дворыкі на выстаўцы суседнічалі з цэнтральнымі вуліцамі горада з адноўленымі культавымі помнікамі архітэктуры. Знайшлося месца і рамантычным “віцебскім пацалункам і мроям”, “вечаровым танцам і чырвонаму аўтапартрэту” і інш. Агульную карціну творчых пошукаў дапаўнялі маляванкі на тканіне і шкле, аб’ёмная пластыка са шкла. Вялікую цікавасць наведвальнікаў выклікалі выстаўленыя ў экспазіцыі прадстаўнічым блокам манаграфіі і альбомы “Мастацтва ў сацыяльнай прасторы” Ф. Ястраба, “Мастацтва акварэлі” У. Рынкевіча, “Дэкаратыўна-прыкладное мастацтва Беларусі XVII — XX стст.” В. Жука, “Беларуская школа скульптуры” І. Арцімовіча і інш. Арганізатары і ўдзельнікі спадзяюцца, што экспазіцыі, прысвечаныя Віцебску, стануць добрай творчай традыцыяй, якая аб’ядноўвае як беларускіх, так і замежных мастакоў, мастацтвазнаўцаў, іншых творцаў самых розных спецыялізацый.



*Аляксандр Малей «Коні».*

# Трэці шлях



Міжнародны Фестываль рукадзелля CreativFestival адбыўся ў Таронта (Канада). Ладзіцца ён два разы на год, а сёлета ўвосень адзначыў сваё дваццаціпяцігоддзе. Зрэшты, ён такі не адзін. Варта ўзгадаць пра "Формулу рукоделия" ў Маскве ды Кіеве, эстонскі Карункавы фэст альбо "Handarbeit&Hobby" ў Кёльне, пра выстаўкі і фестывалі ў Парыжы, Мадрыдзе, Лос-Анджэлесе... З нагоды юбілейнага святкавання ладзілася ў Таронта выстаўка майстроў-дызайнераў вышыванкі "Needlework Designer Line", у якой бралі ўдзел сябры Гільдыі канадскіх дызайнераў вышыванкі (Needlework Designers of Canada). Сярод іх — буцік "Spirit of Belarus".
Яго гаспадыня і стваральніца — Ірына Варабей, празаік, перакладчыца, майстрыха-дызайнер, фатограф, аўтарка адметных мадэляў на падставе беларускіх традыцыйных матываў ды вобразаў... якія муляюць сучасным беларускім рукадзельніцам сваёю відавочнаю недасяжнасцю. Бо кніжак, часопісаў, сайтаў не адно з маляўнічымі фота, але з дакладнымі схемамі, выкрайкамі, узорамі і прыкладамі для *кожнага*, хто хоча, няма (натуральна, гаворка не пра энцыклапедыі, доследы ды адмысловыя ўтварэнні прафесійнікаў кшталту "Скарбніцы"). Зрэдчас можна трапіць на добрага майстра, які не толькі вучыць аздабляць ды кроіць нацыянальныя строі, але тлумачыць сутнасць аздоб-арнаментаў, іхняе значэнне, ужыванне, каштоўнасць... І, найгалоўнае, патрэбу ў іх. Перадусім патрэбай Ірына Варабей шчодра дзеліцца з намі.

**Жанна ЛАШКЕВІЧ**

**Ірына ВАРАБЕЙ**



"...Калі хочаш нечага папрасіць у Бога — маеш розныя шляхі да Яго. Па-першае, можаш схадзіць у царкву ды памаліцца. Па-другое, можаш запаліць грамнічную свечку; і пакуль агонь гарыць — маеш час для звароту да Яго... Але ёсць яшчэ адзін шлях. Наш пракаветны, з даўняе даўніны. Складзі свой ліст да Яго. Не, не літарамі і не алоўкам. Вазьмі голку з ніткай — і вышый. А замест словаў — узоры. Усё пра ўсё ў тых узорах ёсць..."

Гэтак некалі прыгаворвала мая бабуля, калі навучала мяне складаць з вышываных крыжыкаў ды ромбікаў узоры, а з узораў — свае лісты да Бога і гэткім магічным чынам наладжваць сваю повязь з духоўным сусветам.

А можа, і не мая бабка... А можа, і не мне... Можа, маёй бабцы ейная бабка, калі тая яшчэ была маленькай... А можа, іншая бабка ды ў іншае стагоддзе... Можа, гэткім чынам мільёны нашых бабуль з веку ў век перадавалі наступным пакаленням сваю няхітрую мудрасць.

Беларусы — адзіная нацыя ў Еўропе, якая захавала старажытнае сімвалічнае пісьмо, пераклаўшы яго ў вышывальныя арнаменты. Сімвалы, захаваныя ў беларускіх вышыванках, былі агульнымі для еўрапейскага супольніцтва, але беларусы помняць, што яны азначаюць. З пакалення ў пакаленне, з верай у тое, што вышыўка ёсць магічная дзея, а вышываныя ўзоры — нашыя лісты ў Сусвет, яны перадавалі значэнне старажытных сімвалаў...

Беларусы па праве ганарацца сваімі вышывальнымі здабыткамі перад усім светам. Вышыўка адыграла такую важкую ролю як у матэрыяльным, так і ў духоўным развіцці нацыі, што сталася нават брэндам нашае культуры.

Я гэтак жа, як і ўсе, некалі пачынала вышываць па чужых схемах. Аж пакуль мяне як беларуску не зачапіў той факт, што сярод незлічоных схем у крамах, між віктарыянскіх, індзейскіх, афрыканскіх, кітайскіх, японскіх, нават рускіх і шмат якіх іншых матываў няма толькі беларускіх. А што ж павышываць беларусцы? Дзе яны — лёгкапазнавальныя беларускія матывы, распрацаваныя для вышыўкі майстэрскай рукой сучаснай дызайнеркі? Такія, каб любая Дональдзіха-Макдональдзіха ў краме магла, ледзь кінуўшы вокам, сказаць: "А, ведаю... гэта — беларускае", — і зрэшты набыць яго, спакусіўшыся на цікавую наватарскую тэхніку.

Мае работы — гэта толькі спроба правесці першую выведку ў моры сучаснага вышывальнага мастацтва, улучыць у яго беларускую адметнасць, каб свет яе заўважыў, ацаніў, прыняў у сваю супольнасць. Я ведаю, што за мной прыдуць іншыя, больш таленавітыя, творчыя, маладыя і дзёрзкія — і давядуць свету, што вышывальніцкая Беларусь жывe! Ёй ёсць што паказаць: цудоўныя па прыгажосці, фантастычныя па складанасці, мудрагелістыя ды загадкавыя і ў той жа час асвечаныя ўсім духоўным жыццём нашых продкаў — нашы беларускія арнаменты. Тут бязмежнае поле для даследаванняў навукоўцам, а нам, майстрыхам (і майстрам) — для натхнення ды рэалізацыі сваіх творчых памкненняў. Давайце падымем наш брэнд так высока, каб яго сапраўды было відаць адусюль.

Я пачала ўжо.

# Дастойны нашчадак

Біяграфія рэвалюцыянераў-народнікаў Бонч-Асмалоўскіх добра вядомая на Пухавіччыне. Ды і ўвогуле па ўсёй Беларусі. Падрабязна пра "гняздо рэвалюцыйнай заразы" ў Блоні расказаў у кнізе "У часіну выпрабаванняў" гродзенскі гісторык Барыс Клейн. Матэрыялы пра Анатоля Восіпавіча і Варвару Іванаўну Вахоўскіх — у Пухавіцкім раённым краязнаўчым музеі. Вядомыя і біяграфіі дзяцей гаспадароў маёнтка. Як і бацькі, яны бралі актыўны ўдзел у рэвалюцыйнай рабоце. Біяграфія сыноў і дачкі Вахоўскіх — тэма для сапраўднага рамана ці грунтоўнага мастацкага ці дакументальнага даследавання.

**Кастусь ЛЕШНІЦА**

Адна з яркіх асоб гэтай "блонскай кагорты" — малодшы сын рэвалюцыянераў Глеб Бонч-Асмалоўскі. Нарадзіўся ён у лістападзе 1890 года ў Блоні. Вучыўся ў Блонскім народным, а пасля ў Мінскім камерцыйным вучылішчы. Можна шмат расказваць пра яго няпросты лёс. Заўважу толькі адно: за археалагічныя вышукі, раскопкі на тэрыторыі Крыма і кнігі "Грот Кіік-Коба" і "Кісць выкапнёвага чалавека з грота Кіік-Коба" нашаму земляку прысвоена вучоная ступень доктара гістарычных навук.

Хацелася б распавесці пра адзін з атожылкаў слаўнага роду Бонч-Асмалоўскіх, унука Анатоля Восіпавіча і Варвары Іванаўны, сына Глеба Анатольевіча, пра доктара фізіка-матэматычных навук Андрэя Глебавіча Бонч-Асмалоўскага. У лёсе яго выразна выяўляецца паказальная рыса інтэлігентнага чалавека — быць вартым гонару і годнасці сваіх прашчураў.

Магчыма, камусьці падасца, што стаць вучоным з такой сям'і, традыцыі якой заклалі, сфарміравалі яшчэ ў XIX стагоддзі блонскія гаспадары, досыць лёгка і проста. Як жа было на самай справе? На жаль, адказ ад самога Андрэя Глебавіча, які колькі гадоў таму пайшоў з жыцця, атрымаць я ўжо не змог. Маім памагатым ва ўзнаўленні ісціны з'яўляецца жонка вучонага, кандыдат фізіка-матэматычных навук Наталля Бонч-Асмалоўская, з якой мы некаторы час ліставаліся. Лісты прыходзілі з сусветна вядомага гарадка расійскіх фізікаў — падмаскоўнай Дубны.

У 1952 годзе Андрэй Бонч-Асмалоўскі закончыў Ленінградскі ўніверсітэт. Бацькі на той час ужо не было: памёр у лістападзе 1943 года. На пачатку 1930-х гадоў Глеб Анатольевіч, як і яго брат Радзівон, быў арыштаваны. Праўда, у турме яго пратрымалі нядоўга. Пасля вызвалення ў 1934 — 1936 гадах быў высланы і працаваў геолагам у Пячорскім рудаўпраўленні. Затым вярнуўся ў Ленінград.

— Па спецыяльнасці Андрэй — фізік-тэарэтык. Вучыўся ён бліскуча, — расказвае Наталля Аляксандраўна. — Рэкамендавалі яго для паступлення ў аспірантуру. Але, на вялікі жаль, замест таго, каб дасягаць вышынь у навуцы, вымушаны быў ісці на завод электрапрыбораў. Прычына — "грахі прашчураў". Хаця бацьку, Глеба Анатольевіча, і рэабілітавалі яшчэ ў 1940-я... Усё гэта сталася вялікім ударам для маладога чалавека...

Але ўнук і сын рэвалюцыянераў аказаўся настойлівым і мужным. Ён не адмовіўся ад сваіх мар. І, "каб не звар'яцець канчаткова" (так Андрэй пасля расказваў блізкім пра свой тагачасны псіхалагічны стан), пасля працы хадзіў у бібліятэку, перакладаў з англійскай мовы "Квантавую механіку" Дзірака. І разам з тым як чалавек здольны займаўся на заводзе вынаходніцтвам. Дзякуючы яму ў вытворчасць запусцілі фотаэкспанометр. Таленавітага інжынера прызначылі начальнікам аддзела. Але малады чалавек не пакідаў думаць пра больш сур'ёзныя заняткі навукай. Пасля таго як Мікіта Хрушчоў выступіў на XX з'ездзе КПСС з дакладам, у якім выкрываў культ асобы Сталіна, пачалася шырокая рэабілітацыя бязвінна асуджаных. І тады Андрэй Глебавіч атрымаў даведку пра рэабілітацыю бацькі. Гэта падштурхнула ўнука рэвалюцыянераў да больш рашучых дзеянняў. Андрэй зволіўся з завода і паступіў у аспірантуру Ленінградскага электратэхнічнага інстытута. Датэрмінова, за два гады, абараніў кандыдацкую дысертацыю. Сам вылучыў ідэю, разлічыў яе, сканструяваў і пабудаваў прыбор, на якім атрымаў звышвысокія магнітныя палі. Пасля абароны дысертацыі маладога вучонага пакінулі ў інстытуце на пасадзе дацэнта.

— У 1962 годзе, — расказвае Наталля Аляксандраўна, — мы пераехалі ў Дубну...

Невялікае адступленне. Дубна — класічны савецкі навукаград. Фарміравацца пачаў пасля Вялікай Айчыннай вайны. У 1947 годзе па ініцыятыве групы вучоных на чале з акадэмікам І. В. Курчатавым за 120 км ад Масквы пачалося будаўніцтва на беразе Волгі ядзернага паскаральніка — сінхрацыклатрона. Быў адкрыты Інстытут ядзерных праблем. Затым заснавана Электрафізічная лабараторыя Акадэміі навук СССР. Менавіта ў ёй пачаліся работы па стварэнні новага паскаральніка — сінхрафазатрона — з рэкорднымі для таго часу параметрамі. У 1954 годзе паблізу Жэневы ствараецца Еўрапейская арганізацыя ядзерных даследаванняў. Мэта — кансалідацыя намаганняў заходнееўрапейскіх краін у вывучэнні фундаментальных уласцівасцей мікрасвету. Прыблізна ў гэты ж час савецкі ўрад прымае рашэнне аб'яднаць Інстытут ядзерных праблем і згаданую ЭФЛАН. 26 сакавіка 1956 года ў Маскве падпісваецца пагадненне пра стварэнне Аб'яднанага інстытута ядзерных даследаванняў. Тады ж у Дубну прыязджаюць спецыялісты з 12 краін. Разгортваецца грунтоўная работа з улікам інтарэсаў навуковых цэнтраў дзяржаў-членаў АІЯД. Цяпер у Інстытуце — 18 краін-удзельніц. Сярод іх і Беларусь. Дарэчы, некаторы час таму міжнародны камітэт прэстыжнага навуковага цэнтра ўзначальваў прадстаўнік Беларусі.

Якраз з 1962 года і працаваў у Аб'яднаным інстытуце ядзерных даследаванняў Андрэй Глебавіч, займаўся тэхнікай паскарэння. "Не трэба думаць, што гэта праблема толькі інжынернага кшталту, — дзяліласа сваімі развагамі Наталля Бонч-Асмалоўская. — Без папярэдняй тэорыі ніводны паскаральнік не запрацаваў бы.

У Дубне Андрэй Бонч-Асмалоўскі абараніў доктарскую дысертацыю. Калі расказваюць пра вучонага, то звычайна пералічваюць яго вучняў. Старэйшыя падкрэсліць колькасныя абсягі надрукаваных прац, манаграфій. У выпадку з фізікамі-ядзершчыкамі ўсё прасцей і разам з тым складаней. Вучоныя, дасягнуўшы ўнікальных інтэлектуальных вышынь, працавалі індывідуальна, замкнуўшыся ў коле ўласных навуковых праблем. Часам — такога маштабу, што вырашэнне іх патрабавала многіх і многіх месяцаў. Таму і не было вучняў, а што да публікацый, то навуковая дзялянка патрабавала ўкладаць сілы ў іншае. Трэба было, атрымаўшы складанае заданне, як найхутчэй яго выканаць. Ды і агучванне здабыткаў не заўсёды заахвочвалася. Усё ж ядзерная фізіка...

Калі выйшаў на пенсію, Андрэй Глебавіч некаторыя вынікі сваіх навуковых доследаў аформіў у манаграфію "Фізіка новых метадаў паскарэння зараджаных часцінак". Кніга была надрукавана за межамі Расіі. Але галоўнае, чым апекаваўся Бонч-Асмалоўскі ў апошнія гады жыцця (памёр 19 студзеня 2001 года), — філасофская праца. На вялікі жаль, кніга "Спроба параўнання рэлігійных і навуковых уяўленняў пра бессмяротнасць душы" так і засталася ў рукапісе.

Жонка Андрэя Глебавіча Наталля Аляксандраўна — кандыдат фізіка-матэматычных навук. Займалася эксперыментамі ў галіне ядзернай фізікі. Андрэй Глебавіч і Наталля Аляксандраўна выхавалі двух дзетак. Дачка Марына Бонч-Асмалоўская — пісьменніца, аўтар некалькіх празаічных кніг.

З Валянцінай Коўтун я пазнаёмілася яшчэ на пачатку 80-х гадоў, калі працавала над кандыдацкай дысертацыяй. Патрабаваліся навуковыя публікацыі, а справа гэта была для нас, пачаткоўцаў, вельмі і вельмі складанай. А калі ўлічваць, што жыла ў Пінску, удалечыні ад сталічнага навуковага "бамонду", то "прабіць" публікацыю было ўвогуле выключна цяжка. Мой навуковы кіраўнік Дзмітрый Якаўлевіч Бугаёў параіў звярнуцца ў "Полымя", дзе аддзелам крытыкі тады загадвала Валянціна Міхайлаўна. Ён жа мяне і папярэдзіў: "Толькі ж майце на ўвазе, крытык яна патрабавальны, слабых артыкулаў не прымае". Ды я і сама ведала ўжо, што патрабаванні да аўтараў досыць сур'ёзныя.



# Пакліканая

**Валянціна ЛОКУН,**
**фота Уладзіміра Крука**

Хвалюючыся, адправіла свой першы артыкул у Мінск. Якой жа была мая радасць, калі праз пэўны час атрымала ліст ад самой Коўтун. Яна напісала, што рукапіс мой прачытала і будзе рыхтаваць яго да друку. Вось так: сцісла, будзённа, крыху афіцыйна.

Пасля пайшлі іншыя публікацыі. Дзясяткі публікацый. Памятаю, як цяжка прабіваўся на старонкі "Полымя" артыкул пра У. Караткевіча. Не ведаю, на якіх узроўнях і хто яго тармазіў, але больш як два гады ён праляжаў у рэдакцыі. На мае спробы забраць Валянціна Міхайлаўна нязменна адказвала: "Супакойцеся, усё будзе добра, прыйдзе ваш час, толькі не прыспешвайце мяне". І яна ведала, што казала. Публікацыя нарэшце з'явілася ў 1993 годзе ў чэрвеньскім нумары. Яна была адзначана як лепшая публікацыя года часопіса "Полымя".

Супрацоўніцтва з часопісам мацнела. Цяпер ужо сама Валянціна Міхайлаўна прасіла дасылаць ёй матэрыялы. Яе ўвага, падтрымка мяне акрылялі. Важна было і тое, што яна не давала ніякіх "установак". Адно толькі прасіла аргументаваць свае думкі, каб было доказна. А яшчэ не навязвала, не прасоўвала на рэцэнзію "сваіх" пісьменнікаў.

Успамінаецца пачатак 90-х гадоў. Інстытут літаратуры імя Янкі Купалы НАН Беларусі, у якім я тады працавала, распачаў працу над шматтомнай "Гісторыяй беларускай літаратуры ХХ ст." Мяне ўключылі ў склад аўтарскага калектыву. Які ж гэта цікавы і адказны для ўсіх час, навукоўцаў, быў час! Перачытвалася і пераасэнсоўвалася ўся савецкая літаратура, змянялася стаўленне да літаратуры сусветнай. Выпрацоўваліся новыя крытэрыі, методыкі даследавання, тэрміналогія. Быў час бясконцых спрэчак, дыскусій. Мною ўжо было напісана два раздзелы — "Іван Шамякін" і "Алесь Асіпенка", набліжалася да заканчэння праца над трэцім — "Уладзімір Дамашэвіч". І вось тут аднойчы раніцай зазваніў тэлефон. Здымаю трубку і чую голас Віктара Каваленкі (тады дырэктара Інстытута):

— Добры дзень, Валянціна Іванаўна!

— Добры дзень, Віктар Антонавіч!

Пасля непрацяглай "свецкай" размовы Віктар Антонавіч нарэшце заяўляе мне наступнае:

— Валянціна Іванаўна, у мяне да вас будзе прапанова: напішыце для "Гісторыі..." раздзел пра Коўтун.

— Віктар Антонавіч, — зніякавеўшы, адказваю, — я вельмі прыхільна стаўлюся да творчасці Валянціны Коўтун, але пісаць пра яе не буду. Не магу, бо я працую толькі з прозай, і вы гэта ведаеце. А Коўтун — найперш паэтэса. (На той момант Валянціна Міхайлаўна толькі распачала працу над першым сваім буйным празаічным творам — раманам "Крыж міласэрнасці".) Я ніколі не даследавала паэтычныя тэксты, не ведаю, як гэта рабіць. Прабачце, але я толькі вас падвяду, я не спраўлюся.

Звычайна згаворлівы, Віктар Антонавіч на гэты раз стаяў цвёрда:

— Нічога, усё ў вас атрымаецца, пішыце пад маю адказнасць! Некалі я гэтак жа, як і вы, працаваў толькі з прозай, а мяне папрасілі напісаць пра Панчанку. Я таксама ўпарціўся, але пасля напісаў. І зусім нядрэнны артыкул атрымаўся. Панчанку спадабаўся.

> *"Важна было і тое, што Валянціна Коўтун не давала ніякіх "установак". Адно толькі прасіла аргументаваць свае думкі, каб было доказна. А яшчэ не навязвала, не прасоўвала на рэцэнзію "сваіх" пісьменнікаў.*

Я не разумела настойлівасці Каваленкі. І толькі праз гады, калі мы неяк сядзелі ў мяне на кватэры за кубкам гарбаты, Валянціна Міхайлаўна нечакана для мяне раскрыла гэтую таямніцу. Высветлілася, што папярэдне Віктар Антонавіч раіўся з Валянцінай Міхайлаўнай, каго з даследчыкаў яна хацела б бачыць аўтарам раздзела пра яе творчасць? На што тая без вагання адказала: Уладзіміра Конана або Валянціну Локун.

Раздзел я, канечне, напісала. Нават нядрэнна атрымалася. Але гэта быў мой першы і апошні нарыс пра творчасць паэта-лірыка. Толькі, на жаль, гэты нарыс не ўвайшоў у "Гісторыю…".

Не патрапілі туды і некаторыя іншыя артыкулы нашага аўтарскага калектыву. Фармальна гэта тлумачылі тым, што не хапіла месца, усе кнігі атрымаліся вельмі аб'ёмнымі, па тысячы старонак амаль кожная. Планавалася выпусціць дадатак да другой кнігі 4-га тома, але не дазволілі фінансы.

Калі выйшаў часопісны варыянт рамана "Крыж міласэрнасці", я нейкі час не наважвалася пісаць на яго рэцэнзію, хоць раман і захапіў мяне сваёй глыбінёй. Гэта ж якім мастаком, майстрам трэба быць, каб бачыць так аб'ёмна, у дэталях, у руху, у гуках і фарбах жыццё прамінулае, адчуваць час, у якім ты не была! Я баялася пісаць, каб не прынізіць Творцу. Але Валянціна Міхайлаўна, напэўна, адчула мой стан, яна мне патэлефанавала і зусім проста сказала: "Валянціна Іванаўна, вы будзеце першай. Пачынайце. Бласлаўляю".

Пасля маёй рэцэнзіі пра раман В. Коўтун пісалі шмат. Мне было, канечне, прыемна. Я ж была першая.

"Пакліканыя" ўразілі яшчэ больш. Наогул, мяне заўсёды дзівіла, як адказна ставілася пісьменніца Коўтун да сваіх тэкстаў. Кожны яе герой — гэта, як правіла, і яна таксама. Яна ўсіх іх, можна сказаць, нараджала, прапускала праз сваю душу і сэрца. Згадваецца хоць бы яе апошняя кніжачка "Малітва да Калымы", якую яна выдала пад імем Лесі Беларускі. Вось дзе сапраўдная сіла мастацкага ўяўлення! Віктар Казько некалі прызнаваўся, што пасля напісання апошняй старонкі аповесці "Суд у Слабадзе" яго ратавала "Хуткая дапамога", бо ён паміраў разам са сваім героем Колькам Лецечкам. Амаль тое ж самае было і ў В. Коўтун пасля напісання "Пакліканых". Напэўна, таму і задоўжылася творчая паўза пісьменніцы пасля гэтага другога і, можна сказаць, галоўнага яе твора.

Яшчэ больш зблізіла нас з Валянцінай Міхайлаўнай яе грамадская дзейнасць, асабліва праца ў Фондзе Еўфрасінні Полацкай, які яна і ўзначальвала. Памятаю, як яна мне патэлефанавала і сказала, што стварала Фонд, пералічыла яго задачы і без усялякіх "падрыхтовак" аб'явіла, што ў горадзе Пінску і раёне яе намеснікам буду я. Прапанавала шукаць вартых жанчын: "Гуртуйцеся, будзем ставіць задачы і працаваць". Вось так — ні многа, ні мала! Я не паспела нават апомніцца, як стала "намеснікам".

Нашы жанчыны не раз ездзілі ў Мінск на розныя мерапрыемствы, сустрэчы. Але часцей Валянціна Міхайлаўна сама (ці з сяброўкамі) прыязджала да нас. На такіх сустрэчах заўжды было шматлюдна. Збіраліся настаўнікі з раёна і горада, бібліятэчныя работнікі, мясцовая інтэлігенцыя. Ішла зацікаўленая размова пра стан сучаснага грамадства, пра ролю жанчыны ў паляпшэнні духоўнасці, маральнасці часу. Шмат увагі надавалася прававым аспектам. А яшчэ чыталіся вершы.

Апошнія гады Валянціна Міхайлаўна часта прыязджала ў Пінск, у бацькоўскі дом. Цягнула яе сюды, нягледзячы на тое, што дом пуставаў. Спачатку пайшла з жыцця маці пісьменніцы, а неўзабаве, менш як праз месяц, не стала і бацькі. Страта была страшэнная. Духоўны вакуум доўга не запаўняўся. Пэўна, таму і цягнула яе на Піншчыну. Да каранёў. Да вытоку. Да свайго духоўнага Дома.

Да ўсяго быў тут у яе і дом рэальны. Наконт яго ў Валянціны Міхайлаўны было шмат задумак. Спачатку ёй хацелася пакінуць будынак пад музей, пасля пад "дом творчасці" і г. д. Скончылася ж тым, што В. Коўтун вырашыла яго падрамантаваць і пакінуць сабе.

У снежні 2010 года Валянціна Міхайлаўна ў чарговы раз наведала Жабчыцы. Ехала ўсяго на некалькі дзён, а давялося затрымацца амаль на месяц. Гэты месяц стаўся для яе ў пэўным сэнсе выпрабавальным, вырашальным. Адарваная ад звыклага асяроддзя, звыклых абставін жыцця, яна ўпершыню засумнявалася: ці правільна робіць, ці зможа вось так надоўга заставацца ў вясковай глушы, у атачэнні суседкі бабы Веры і яе каляжанак? Так, гэта цудоўныя бабулькі, зычлівыя, адкрытыя, сардэчныя, але ж ці тыя гэта суразмоўцы, у якіх яна мае патрэбу? Вярталася тады Валянціна Міхайлаўна ў Мінск з цяжкімі думкамі. Я раіла ёй не спяшацца з высновамі, спачатку адысці ад "ссылкі", а пасля ўжо прыняць нейкае рашэнне. Планавалася, што прыедзе яна ў Жабчыцы ўжо ўвесну, і тады ўсё вырашыцца. Так яно і выйшла.

Прыехала Валянціна Міхайлаўна на Піншчыну на тыдзень-два і ўжо з цвёрдым рашэннем: хату трэба прадаваць. Яна спяшалася, ёй карцела хутчэй вярнуцца ў Мінск, рыхтаваць кнігу. А яшчэ, і гэта, пэўна, галоўнае, яе чакала праца над новым раманам. Яна ўжо жыла яго вобразамі, яе творчае ўяўленне ўжо было па-за гэтым часам.

> *"Гэта ж якім мастаком, майстрам трэба быць, каб бачыць так аб'ёмна, у дэталях, у руху, у гуках і фарбах жыццё прамінулае, адчуваць час, у якім ты не была! Я баялася пісаць, каб не прынізіць Творцу.*

Валянціна Міхайлаўна ўзялася за рамонт хаты. Шчыравала апантана, нават суседка, гледзячы на ўсё гэта, аднойчы не вытрымала: "Валька, адпачні. Ты ж сябе зусім замардавала". Але Валянціна Міхайлаўна была неўгамоннай…

Пераразвоньваліся мы з ёю кожны дзень, бывала, па некалькі разоў. Апошнім часам нешта ў яе голасе мяне пачало насцярожваць, нейкае прыдыханне з'явілася ў яе.

— Валянціна Міхайлаўна, у вас усё ў парадку? — пытаюся ў яе. — Нармальна сябе пачуваеце? Можа, доктару трэба паказацца?

— Ды нешта крыху нездаровіцца, — прызналася яна. — Цяжкавата стала дыхаць. Але доктара пакуль не трэба. Вось з'езджу дамоў, спраўлюся з тэрміновымі справамі і ў чэрвені-ліпені вярнуся сюды, тады і бярыце мяне ў абарот, лячыце, згодна нават паляжаць у стацыянары.

Тады ж высветлілася, што з усіх "лекаў" яна мае толькі "ад ціску" і валяр'янку. Пакрытыкаваўшы яе за такі "шырокі" асартымент, я ўсё ж не вельмі перажывала. Мы толькі дамовіліся, што ў чарговы яе прыезд у вёску абавязкова правядзём абследаванне, калі трэба, арганізуем стацыянар.

Познім вечарам 30 красавіка ў мяне зазвінеў тэлефон. На экране выбіўся нумар Валянціны Міхайлаўны. Першае, што прыйшло ў галаву: яна ад'язджае ў Мінск, машына нейкая падвярнулася, вось і хоча мяне папярэдзіць. Здымаю трубку і нічога не магу зразумець, чую толькі, што там нехта хрыпіць.

— Валянціна Міхайлаўна, гэта вы? — крычу я. — Што здарылася? Вам дрэнна?

— Валянціна Іванаўна, выклікайце "хуткую", — ледзь-ледзь, праз хрыпенне, прамовіла яна. Я тут жа адключаюся, набіраю 103, тлумачу сітуацыю і прашу выехаць неадкладна. На ўсялякі выпадак званю суседцы Веры Сцяпанаўне. Прабачаюся за позні званок і прашу падысці да Валянціны Міхайлаўны. На ўсялякі выпадак — каб "хуткую" сустрэла. Вера Сцяпанаўна адразу ж апранулася і пайшла. Падымаю на ногі яшчэ і Марыю Іванаўну, нашу сяброўку. А сама тым часам усё набіраю нумар тэлефона Валянціны Міхайлаўны. Але там толькі кароткія і кароткія гудкі. Нарэшце разумею, што дрэнна пакладзена трубка. Тэлефаную зноў суседцы, але яна не вяртаецца дамоў. Думаю, усё, забіраюць Валянціну Міхайлаўну ў бальніцу. І вось нарэшце чую голас Веры Сцяпанаўны. Крычу ёй у трубку:

— Вера Сцяпанаўна, міленькая, ну што, павезлі Валянціну Міхайлаўну, ці няма?

— Няма, дзетачка мая, няма. Павезлі яе. Назаўсёды павезлі, — сцішана прамовіла суседка.

— Куды павезлі? — пытаюся я, разумеючы, што пытанне маё гучыць ужо недарэчна…

"Хуткая дапамога" прыняла мой выклік у 23.04 хвіліны, у 23.06 брыгада ўрачоў выехала ў Жабчыцы. Амаль адначасова Вера Сцяпанаўна і ўрачы "хуткай" апынуліся на парозе бацькоўскага дома Валянціны Міхайлаўны. Прыблізна гэта было ў 23 гадзіны 20 хвілін. Разам зайшлі ў хату. Але было ўжо позна. Валянціна Міхайлаўна пакінула гэты свет. Назаўсёды…

Кажуць, што незамянімых людзей няма. Гэта няпраўда. Ёсць…

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ «Залатая Ліцера»**

Слова краязнаўцы



**Ірына ТАГІЛЬ, настаўніца пачатковых класаў Каменскага дзіцячага саду — сярэдняй школы Капыльскага раёна, кіраўнік школьнага краязнаўчага музея і гуртка “Спадчына”, распавядае пра знаходкі юных даследчыкаў:**

— Два гады ў нашай школе працуе гурток “Спадчына”. Займаемся зборам матэрыялаў для музея, знаёмімся з мясцовымі традыцыямі і абрадамі. Члены гуртка, а гэта ў асноўным вучні 3-га і 4-га класаў, дасканала вывучаючы дзяцінства пісьменніка Янкі Скрыгана па яго творах, праводзілі паралелі з жыццём сваіх бацькоў і дзядоў. Фотаздымкаў, якія датычылі дзяцінства нашага славутага земляка, не захавалася. Адзін з вучняў, Павел Тагіль, адлюстраваў, як, на яго погляд, маленькі Янка з кнігаю ў руках пасвіў кароў, хадзіў да пана па дапамогу. А творчая работа Яны Аляшэвіч на гэтую тэму была адзначана дыпломам ІІІ ступені на раённай канферэнцыі малодшых школьнікаў “Я — даследчык”.

Вялікае значэнне надаём мясцоваму этнаграфічнаму і краязнаўчаму матэрыялу і з задавальненнем выкарыстоўваем яго на ўроках і пазакласных мерапрыемствах. Плануем скласці этнаграфічны слоўнік нашай мясцовасці. У гаворцы тутэйшых вяскоўцаў сустракаюцца словы, якія цяпер амаль не ўжываюцца. Напрыклад, “конаўка” — кубачак для вады, “бацян” — бусел, “дроб”— кавалак.

У нашым музеі шмат гліняных вырабаў: збаны, гладышы, гляк. Перачытаўшы нямала літаратуры, даведаліся, чым яны адрозніваюцца адзін ад аднаго. Сярод экспанатаў, якімі карысталіся нашы продкі, самы цікавы — калатоўка. Здаецца, звычайны кіёк з кароткімі палачкамі на канцы. Выраблены з вершалінкі елкі. Як кажуць старыя людзі, пры дапамозе гэтага “блендара” ўзбівалі параны гарбуз. Дарэчы, на аснове гэтай кашы калісьці пяклі хлеб.

Гурткоўцы шчыра працуюць і над ваеннай тэматыкай. Штогод пасля правядзення першага ўрока наведваем помнік загінуўшым аднавяскоўцам, які знаходзіцца ў аграгарадку Камень. Падчас аднаго з такіх наведванняў Алеся Дашукевіч, цяпер вучаніца 5-га класа, паказваючы на надпіс, усклікнула: “Вось гэта мой прадзед!” Пазнаёміўшыся з кнігай “Памяць. Капыльскі раён”, мы разам з бацькамі вучняў і іх родзічамі знайшлі ў ёй некалькі недакладнасцей. Усе звесткі пра мужных землякоў, у тым ліку і выпраўленыя, змясцілі ў свой альбом “Вайна, памяць, успамін”.

# Лепшы — Гомельскі палац

Лепшым аб’ектам культурнага турызму краіны падчас Х нацыянальнага турысцкага конкурсу “Спазнай Беларусь” названы Гомельскі палацава-паркавы ансамбль. Дыпламант конкурсу ў намінацыі “Лепшы аб’ект культурнага турызму” — Дрыбінскі раённы гісторыка-этнаграфічны музей. Адзначаны таксама Духоўна-патрыятычны комплекс у Бярозе, нацыянальны гісторыка-культурны музей-запаведнік “Нясвіж” і замкавы комплекс “Мір”. Лаўрэатамі ў намінацыях “За развіццё ўязнога і ўнутранага турызму” стаў комплекс “Каробчыцы”, “За ўнёсак у развіццё беларускага турызму” — Полацкі райвыканкам, а дыпламантам конкурсу — Брэсцкі райвыканкам. Граматамі ўзнагароджаны Мазырскі і Лідскі райвыканкамы. У народнай намінацыі “Я спазнаю Беларусь” перамог Дзмітрый Шаўчук. Лепшае мерапрыемства падзейнага турызму — фэст этнакультурных традыцый “Кліч Палесся”. Не абыдзена ўвагай журы і гістарычная рэканструкцыя пераправы Напалеона праз Бярэзіну.

**Бажэна СТРОК**

Музейны ўнікат

# Падарожжа па каралавай гасцёўні

На працягу некалькіх месяцаў выставачны праект “Мінск губернскі. Дваранскі побыт. Стагоддзе ХІХ — пачатак стагоддзя ХХ” калекцыянера і мастацтвазнаўцы Віталя Жукава прадстаўлены ў імяннной галерэі Міхаіла Савіцкага, што месціцца ў Музеі гісторыі горада Мінска. Прынамсі, апошні ўладальнік дома — гарадскі галава Леапольд Дэльпацэ.



*Скульптурная кампазіцыя “Адаліска”.*

**Дар’я ШОЦІК,**
**фота аўтара і з асабістага архіва калекцыянера**

Той, хто завітае ў каралавую залу, якая і прадстаўлена ў межах праекта, можа прайсціся сцежкамі гісторыі і здзейсніць віртуальнае падарожжа ў ХІХ — пачатак ХХ стагоддзя. У экспазіцыі вылучаецца ўнікальны артэфакт — дыван-карціна Завідаўскай мануфактуры ХІХ стагоддзя, якая першай пачала вытворчасць такіх рэчаў у Расійскай імперыі.

— Гэты дыван быў у вельмі дрэнным стане, таму зразумець сюжэт карціны спачатку было амаль што немагчыма, — распавядае калекцыянер Віталь Жукаў. — Тры гады і два месяцы ішла праца па рэстаўрацыі твора. Давялося аднаўляць уток — ніткі, якія размяшчаюцца на тканіне ўпоперак даўжыні адрэза, праходзячы ад адной кромкі да другой, а таксама ўмацоўваць і сам матэрыял. Зусім выпадкова супрацоўнік Музея гісторыі Мінска Кірыл Мельнік пазнаў сюжэт дывана: гэта карціна італьянскага мастака Гвіда Рэні “Квадрыга Аўроры” (1614). Арыгінал вывы знаходзіцца ў Рыме, дзе ўпрыгожвае паталочную фрэску Палаца Палавічыні Распільёзі.

Сюжэт карціны заварожвае: у нябесных аблоках лунае Аўрора (багіня досвітку), побач — анёл з факелам. Пад ім — запрэжаная коньмі квадрыга, якой кіруе Апалон. Унізе адлюстраваны чатыры Оры — багіні часу і парадку.

У гасцёўні экспануецца і мэйсенскі фарфор. Адзін з экспанатаў — кафейнік — выраблены ў стылі “індыянскі пурпур”.



*Дыван-карціна Завідаўскай мануфактуры ХІХ стагоддзя.*

— Фарфор мануфактуры “Мэйсен” каштаваў шмат грошай, і мець такую раскошу сярод знатных людзей было вельмі прэстыжна, — зазначыў калекцыянер.

Англійскі соуснік, персідская чаша, шведская дошка для сыру, лапатка для торта і іншыя цікавыя дробязі, якімі карысталіся арыстакраты, стваралі прыгажосць і ўтульнасць у дамах знатных людзей.

Увагу многіх наведвальнікаў прыцягвае рарытэтны прадмет — жырандоля, выраблена рускімі майстрамі з бронзы і аздобленая вогненным залачэннем і венецыянскімі крыштальнымі падвескамі.

Прываблівае ўвагу гледачоў, асабліва мужчын, піўны куфаль.

— У 1864 годзе мінская мяшчанка Рохля Фрумкінава заснавала піваварны завод, — падкрэсліў Віталь Жукаў. — Таму, магчыма, якаснае піва маглі падаваць у доме Леапольда Дэльпацэ. Калі памерла ўладальніца піваварні, завод перайшоў да мінскіх купцоў Арона і Неваха Борухавых-Фрумкінавых.

Вядома, што да французскага стылю заўсёды была вялікая цікавасць. Адзін з тагачасных стылявых кірункаў — так званы “парыжскі вытанчаны салон”. Дарэчы, Віталь Жукаў дэтальна падабраў гістарычныя рэчы, каб стварыць інтэр’ер ХІХ — пачатку ХХ стагоддзя. Дэкаратыўныя шпіятравыя збаны з яшмавымі каменнымі пастаментамі, выробленыя напрыканцы ХІХ стагоддзя ў парыжскіх майстэрнях, упрыгожваюць каралавую залу. Гэта велізарны збан у “звярыным” стылі, два адносяцца да “неарэнесанснага” стылю, два парных, крыху меншых памераў, маюць геральдычныя атрыбуты. На кутнай тумбе месціцца скульптурная кампазіцыя “Адаліска”. Дарэчы, пікантная нота, якая прысутнічае ў гэтай сюжэтнай выяве, прыцягвала позірк гасцей дома ва ўсе часы.

Нельга было не заўважыць таксама чатыры пан-аксамітныя крэслы ў чахлах з бантамі, якія зроблены еўрапейскімі майстрамі ў ХІХ стагоддзі. Хтосьці, мабыць, адразу ўзгадае любімыя старонкі з рамана Ільфа і Пятрова.

Наша падарожжа па каралавай гасцёўні заканчваецца. На думку калекцыянера Віталя Жукава, адзінае, чаго прынцыпова не хапае ў гэтай зале, — парадных партрэтаў спадароў Дэльпацэ.

Успаміны пра настаўніка

# Няўрымслівы, адчайны, чулы



Сёлета Уладзіміру Анціпенку споўнілася б 90 гадоў. Нарадзіўся ён на Гомельшчыне, у сям’і патомнага настаўніка. Яго бацька Рыгор Міхайлавіч у гады Першай сусветнай вайны служыў пры штабе 2-га паветраплавальнага палка, прайшоў франты грамадзянскай вайны, нават некаторы час быў веставым у Будзённага. Амаль усё жыццё настаўнічаў, у 1945 годзе яго накіравалі на Вілейшчыну. Маці, Феадосія Мітрафанаўна, нарадзіла дзевяць дзяцей, большасць з іх выбралі настаўніцкі шлях.

Уладзімір Рыгоравіч — старэйшы з дзяцей. Кемлівы і напорысты, ён з шасці гадоў пачаў сябраваць з кнігай. З класа ў клас пераходзіў з пахвальным лістом. Пасля школы быў Гомельскі педтэхнікум, потым, па размеркаванні, — настаўніцкая праца ў Карэла Фінскай савецкай сацыялістычнай рэспубліцы. Добраахвотнікам прыйшоў у ваенкамат, яго і яшчэ пяцярых юнакоў накіравалі ў разведку. Франтавыя дарогі былі поўныя хваляванняў і небяспекі: спецразведшкола, затым Карэльскі, Ленінградскі, Волхаўскі, Трэці Прыбалтыйскі і Трэці Беларускі франты.

Уладзімір Рыгоравіч успамінаў: “Шмат пабачылі мае вочы і генералаў, і маршалаў, і прадстаўнікоў стаўкі... Многія да мяне былі так лагодны, што амаль лічылі сваім сынам. Сказаць шчыра, як мага берaглі, асабліва старыя генералы: Дарафееў, Петрапаўлаўскі, Федзюнінскі”.

Пасля вайны вучыў дзяцей. Спачатку выкладаў у школе № 2 г. Вілейкі, потым у Касцяневіцкай і доўгія гады ў Даўгінаўскай школе. Выкладаў беларускую, рускую мовы і літаратуру, нямецкую мову, быў дырэктарам і арганізатарам. Атрымаў 18 урадавых узнагарод, каля трох дзясяткаў Ганаровых грамат і дыпломаў.

Пісаць вершы пачаў у юнацтве. У музеі “Вілейшчына літаратурная” сабраны багаты матэрыял з газеты “Шлях перамогі”, маецца рукапісны зборнік вершаў Уладзіміра Рыгоравіча, дзе кожны твор сагрэты яго шчырым пачуццём да сяброў, родных, блізкіх і, безумоўна, да школы.

Больш як шэсцьдзясят пяць гадоў жыцця аддаў Уладзімір Анціпенка выхаванню і навучанню маладой змены. У музеі “Вілейшчына літаратурная” захавалася кніга ўспамінаў пра сустрэчу з Уладзімірам Рыгоравічам, якая адбылася ў маі 1994 года, фотаздымкі. Многія з вучняў, што былі на сустрэчы, ужо самі адпраўляюць дзяцей у школу. Гартаючы матэрыялы музея, школьнікі з гордасцю разглядаюць і чытаюць успаміны сваіх татаў і матуль.

**Роза ШЭРАЯ**

Да 200-годдзя вайны 1812 года

# Палеская эпапея рускага князя

Падчас вайны 1812 года армада ваюючых армій пракацілася па Беларусі спачатку на ўсход, а потым на захад. Забеспячэнне правіянтам свайго войска французскае і расійскае камандаванне цалкам усклалі на мясцовае насельніцтва. Імперыі ваявалі, а народ пакутаваў і паміраў, смутна ўяўляючы, за што. Для Расіі вайна была справядлівай і вызваленчай, але па сутнасці гэта была сутычка ўсходняй і заходняй цывілізацый. У віхуры падзей апынуўся князь Васіль Вяземскі. Хто ж ён такі і што рабіў на Палессі ўлетку і ўвосень 1812-га?

**Сяргей ГРАНІК**

Род Вяземскіх паходзіць ад Рурыкавічаў. Бацька Васіля быў небагатым шляхціцам. Каб сын дамогся ў жыцці чагосьці большага, бацька аддаў яго на службу ў войска. Адзінаццацігадовага хлопчыка залічылі ў Лейбгвардыю Праабражэнскага палка сяржантам, а ў 15 гадоў у Васіля пачалася сапраўдная армейская служба. Ад астатніх афіцэраў палка ён адрозніваўся цягавітасцю, кемлівасцю і ўменнем наладжваць стасункі з падначаленымі. Служба ў сталіцы ішла добра. З Праабражэнскага палка часта выбіралі ад'ютантаў для рускіх генералаў, у тым ліку і самому Аляксандру Сувораву. Да будучага генералісімуса маладыя афіцэры не прагнулі патрапіць у ад'ютанты, таму што ведалі яго кепскі характар. Але, нягледзячы на гэта, Васіль Вяземскі даў згоду на прызначэнне. У 17 гадоў ён становіцца ад'ютантам Суворава і ўдзельнічае разам з ім у паходах. Баявое хрышчэнне атрымаў пры падаўленні нацыянальна-вызваленчага паўстання пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі ў Літве і Польшчы. Падчас гэтай кампаніі ён разам са штабам Суворава перасёк Рэч Паспалітую і нават удзельнічаў у штурме Кобрына.

Хуткае прасоўванне па службе прывяло да таго, што ўжо ў 1803 г. Васіля Вяземскага прызначаюць камандаваць 13-м егерскім палком і прысвойваюць званне генерала. Ён удзельнічае ў вайне, якую Расія вядзе на Міжземным моры, камандуе дэсантам, што высаджваўся на выспе Корфу. Неўзабаве пры падтрымцы караблёў Чарнаморскага флоту яго дывізія высаджваецца ў Італіі і ідзе на Неапаль і Рым. Паход праз Італію быў лёгкім шпацырам, бо баявых дзеянняў практычна не адбывалася. Але пасля лёс генерала склаўся трагічна. У Айчыннай вайне 1812 года Вяземскі камандуе брыгадай, а затым дывізіяй. Князь марыў убачыць заваяваны Парыж, але гэтаму не наканавана было спраўдзіцца. 5 снежня 1812 года ён памёр ад ран, атрыманых у баі падчас узяцця Барысава.

У Інстытуце гісторыі Акадэміі навук Расіі захоўваюцца запісы Вяземскага пра перажытае. У іх ён апісвае малавывучаныя гісторыкамі баявыя дзеянні 3-й арміі генерала Тармасава на Палессі, якія ў тую кампанію развіваліся хутка і непрадказальна. Расія чакала вайны. У сакавіку ў сувязі з канцэнтрацыяй у Варшаўскім герцагстве буйных злучэнняў французскіх і аўстрыйскіх войск частку Малдаўскай арміі, у тым ліку і егерскі полк князя Вяземскага, перакінулі на Валынь і сфарміравалі з іх 3-ю, Заходнюю, армію пад камандаваннем генерала Тармасава. Вяземскі знаходзіўся ў яе складзе.

У сваіх "сшытках" генерал піша, што па загадзе галоўнакамандуючага ў ліпені яго прызначылі камандаваць пяхотай у авангардзе генерал-маёра Чапліца. Яму тады падпарадкоўваліся Калыванскі і 13-ы егерскі палкі. 14 ліпеня іх корпус заняў мястэчка Дзівін. Але там не затрымаліся і ў той жа дзень выступілі на Кобрын. На досвітку наступнага дня былі ўжо ля горада. У той час у Кобрыне знаходзіліся пяць тысяч французскіх салдат пад камандаваннем генерала Клінгеля. Французы праявілі бяспечнасць і не выставілі дазоры. Скарыстаўшы гэтую акалічнасць, генерал Чапліц аддае загад з марша атакаваць варожую кавалерыю. Ад неспадзяванасці французы кінуліся на ўцёкі. Тым часам егерскі полк атакаваў пяхоту саксонцаў. Больш як дзве гадзіны салдаты Вяземскага вялі бой на ўсходняй ускраіне Кобрына.

"Бяда была ў тым, што значная частка майго палка адстала, — пісаў Вяземскі. — Саксонцы супраць нас мелі значную перавагу, але на нашым баку была раптоўнасць. Каля дзевяці гадзін паказаліся асноўныя сілы корпуса генерала Чапліца, які рухаўся па Дзівінскай дарозе. Адначасова з Брэста да Кобрына падыходзіў атрад генерала Ламберта. Атрымаўшы падмацаванне, мой 13-ы полк быў заменены Рыжскім палком. Да поўдня мы ўжо захапілі ў непрыяцеля 8 гармат, генерала, каля 20 афіцэраў і да 1000 радавых. У той жа час, каб акружыць горад, я абыходзіў саксонцаў справа, генерал Ламберт — злева. Апоўдні, улічваючы безвыходнасць становішча, французы склалі зброю.

Якая жудасная карціна: у Кобрыне ўсё гарыць. У полымі жанчыны, дзяўчаты, дзеці ў адных кашулях бягуць і шукаюць ратавання. Бітва ідзе ў пажары і дыме. З-за хуткага руху войск цяжка разабрацца, хто дзе. Усюды ў Кобрыне непрыяцелем былі пакінуты абозы. Пыл і дым зацямнілі сонца, паўсюль жах. 16 ліпеня наша войска знаходзіцца ў Кобрыне. Салдаты хаваюць забітых і прыводзяць сябе ў парадак пасля ўчорашняга бою".

Баявыя дзеянні працягваліся. Яшчэ некалькі ўрыўкаў з запісаў рускага генерала хацелася б прывесці:

"Французам удалося да вечара заняць Сігневічы. У гэтых баях, якія доўжыліся тры дні, нашы часці панеслі страты… Адыходзім пад пралівым дажджом. Усю ноч ідзём да Таракані. Дождж зусім сапсаваў дарогу, ад чаго рухаемся марудна. Нарэшце ў 7 раніцы 22 ліпеня мы спыніліся на адпачынак у манастыры Базыльянскага ордэна ў вёсцы Таракані… Адпачыўшы, мая брыгада апоўдні зноў рушыла па размоклых ад дажджу дарогах у кірунку мястэчка Антопаль. Абозы адсталі, а 500 нанятых мясцовых жыхароў не паспявалі рамантаваць дарогу перад ідучымі вайскамі. Жудасная карціна. Вакол усе абывацелі бягуць і ратуюцца з маёмасцю ў лесе.

…Толькі ў кастрычніку месяцы пасля перагрупоўкі сіл пачалося наступленне 3-й арміі Чычагова з задачай перарэзаць дарогу адыходзячым з Масквы войскам Напалеона. Гэтым разам зноў 3-й рускай арміі давялося рухацца па спустошанай і спаленай тэрыторыі. У бядотнага насельніцтва ўжо не было правіянту і фуражу. Рускія палкі часам па 6 дзён не елі хлеба. Ратавала ад голаду бульба, якую яшчэ можна было сабраць на сялянскіх і панскіх палях. Змучаныя працяглымі пераходамі людзі і коні не маглі даць бою. Неабходны быў адпачынак і папаўненне запасаў правіянту".

Апошнім важным стратэгічным пунктам на шляху адыходзячай напалеонаўскай арміі перад ракой Бярэзінай заставаўся горад-крэпасць Барысаў, да якога з трох бакоў ішлі французскія войскі і саюзныя ім польскія легіёны пад камандаваннем генерала Дамброўскага. Ірваўся да Барысава і рускі авангард — армія адмірала Чычагова. Пачаліся баі за Барысаў, які некалькі разоў пераходзіў з рук у рукі.

Пад Барысавам, камандуючы авангардам корпуса генерала Чычагова, Васіль Вяземскі быў цяжка паранены. Тады і абарваліся яго запісы ў "сшытках". Каля месяца правёў у лазарэце, але выратаваць яго жыццё так і не змаглі.

Родны кут




# Планета ў мініяцюры

Дэндрасад Глыбоцкага вопытнага лясгаса — другі па велічыні і відавой разнастайнасці дэндрарый Беларусі (пасля Цэнтральнага батанічнага саду Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі) і адзіны ў сваёй кліматычнай падзоне. Тут на плошчы 8,2 гектара сабрана больш як 500 відаў дрэў і хмызнякоў з пяці кантынентаў, за што гэты дзіўны сад называюць "планетай у мініяцюры".

**Раіса МАРЧУК,**
**фота Кастуся Дробава**

Вопытны лясгас — гэта перш за ўсё навуковае прадпрыемства, якое ў 1963 — 1967 гадах стварыў лесаінжынер Віктар Ламака. Падчас вайны шмат лясоў было знішчана, таму ў мірны час паўстала пытанне пра іх узнаўленне. Віктар Антонавіч вырашыў праверыць, як на глыбоцкай зямлі прыжывуцца расліны з іншых кантынентаў, каб выкарыстаць іх і для азелянення гарадоў.

— Натхніў жа яго на гэтую ідэю графскі парк XVIII стагоддзя "Залессе", дзе сабрана больш як паўсотні парод розных дрэў, у тым ліку і расліны з Паўночнай Амерыкі, Японіі, Паўночнай Афрыкі, Паўднёвай Амерыкі, якія вельмі добра адчуваюць сябе ў нас, — распавяла інструктар-метадыст турысцкага інфармацыйнага цэнтра Глыбоцкага раёна Ала Вярцінская. — З залескіх дрэў і распачаўся дэндрарый. Гэта, мабыць, была спроба не падправіць прыроду, а прыстасаваць яе да тутэйшага ландшафту. Для сваіх эксперыментаў В. Ламака выбраў забалочаны, ні на што не прыдатны ўчастак. Там быў узгорак, на якімраслі два векавыя дубы. Усё гэта захавалі, а ваду сабралі ў тры сажалкі.

Пры закладцы саду спалучаны рэгулярны і ландшафтны стылі. Першы адлюстраваны ў разбіўцы асноўных алей і дарожак, другі — у размяшчэнні груп раслін, вадаёмаў і іншых элементаў ландшафту. Тэрыторыя размежавана асноўнымі алеямі на 12 секцый. На алеях, шырыня якіх складае 5 — 6 метраў, можна ўбачыць пасадкі конскага каштана, туі заходняй, чаромхі Маака, рабіны звычайнай, елкі калючай, клёна вастраліснага. У бардзюрах красуюцца адмысловыя хмызнякі: бружмель татарскі, барбарыс Тунберга, вярба пурпурная і інш. У сярэдзіне секцый пракладзены дарожкі, аздобленыя вятроўнікам Бумальда. Усяго тут высаджана больш як 1100 дрэў і хмызнякоў, створана 4,6 кіламетра жывых загарадзяў з 26 тысяч хмызняковых раслін. Для павойных раслін усталявана 12 апор.

— Дарэчы, Віктар Ламака пражыў больш як дзевяноста гадоў, — зазначыла Ала Вярцінская. — Мабыць, цесныя зносіны з прыродай спрыялі яго даўгалеццю.



*Дэндрасад прыгожы ў любую пару года.*

# «Глушанскі хутарок» і ганчарныя сакрэты

Маляўнічы пасёлак Глуша, што на Бабруйшчыне, стаў традыцыйным месцам правядзення фестывалю народнай творчасці і рамёстваў "Глушанскі хутарок". Гэты каларытны восеньскі кірмаш ужо ў трэці раз ладзіцца на базе мясцовага Цэнтра рамёстваў.

**Вольга СЕМЧАНКА, фота аўтара**

Штогод сюды з'язджаюцца шматлікія госці і ўдзельнікі фэсту не толькі з Бабруйскага, але і суседніх раёнаў Магілёўшчыны. Сярод іх — дзясяткі творчых калектываў і салістаў устаноў культуры, рамеснікі і ўмельцы. Склалася цудоўная традыцыя праводзіць у рамках фестываля абласны семінар-практыкум па ганчарстве і кераміцы, які сёлета ладзіцца ўжо ў другі раз і распачаўся напярэдадні свята. Сваімі сакрэтамі і напрацоўкамі з іншымі ўдзельнікамі семінара шчодра дзяліўся народны майстар Беларусі Юрый Боўда, а дапамагалі яму брат Валерый, майстры Аляксандр Арлоў і Сяргей Пашчанка.



*Чарнадымлены ганчарны посуд.*

У рамках семінара былі прадэманстраваны два традыцыйныя спосабы апрацоўкі керамікі — аднаўленне і абвар. Дзеля гэтага выкарыстоўваліся самаробныя печы, якія знаходзяцца на вуліцы і служаць для абпалу, аднаўлення і абвару вырабаў. У першы дзень бабруйскія ганчары прадэманстравалі працэс аднаўлення ганчарных вырабаў, дзеля чаго ў добра пратопленую печ загрузілі ўжо практычна гатовы, высушаны керамічны посуд, засыпалі яго пілавіннем, закрылі зверху накрыўкай, а ўсе шчылінкі замазалі глінай, каб перакрыць доступ кіслароду — гэта неабходная ўмова для хімічнай рэакцыі аднаўлення, якая працякае пры высокай тэмпературы (каля 900 градусаў). А назаўтра дасталі з печы гатовы посуд, які набыў прыгожае графітава-чорнае адценне з металічным бляскам.



*Кераміка загружана ў печ для аднаўлення.*

Для абвару керамікі выкарыстоўвалі іншую печ — распаліўшы вырабы, іх на некалькі імгненняў апускалі ў расол (звычайна выкарыстоўваецца агурковы або капусны з дамешкам мукі). У выніку рэчы набывалі непаўторную плямістую расфарбоўку. Керамічная біжутэрыя выглядала вельмі экзатычна, а гліняныя птушачкі-свістулькі сталі падобнымі да курапатак. Між тым абвар і аднаўленне не толькі ўпрыгожваюць кераміку, але і робяць яе больш трывалай, функцыянальнай, бо яна не прапускае ваду.

Кожны з удзельнікаў семінара-практыкума браў актыўны ўдзел ва ўсіх стадыях апрацоўкі ўласных вырабаў. Самым актыўным былі ўручаны дыпломы. Асаблівы энтузіязм выяўляў удзельнік дзіцячага калектыву "Глечыкі" чатырнаццацігадовы Глеб Савін, трое сыноў майстра Аляксандра Арлова і яго жонка Анжаліка, а таксама майстрыха з Асіповіцкага раёна Вольга Жарнасек, якая атрымала і каштоўны досвед, і прыемныя ўражанні.

— Семінар у Глушы — вельмі ўдалы праект, асабліва ён карысны для пачаткоўцаў, — лічыць маладая керамістка. — Я працую з глінай толькі год. На мінулым семінары ў Глушы навучылася рабіць гліняныя свістулькі, а сёлета засвоіла тэхналогіі абвару і аднаўлення — мяркую, што буду выкарыстоўваць іх у сваёй творчасці. Падчас такіх мерапрыемстваў адбываецца перадача традыцыйных тэхналогій літаральна з рук у рукі, ад вопытных майстроў маладым. Гэта цудоўная магчымасць пазнаёміцца з выдатнымі ганчарамі, якія з радасцю адказваюць на любыя пытанні наконт тэхналогіі. Таксама завязваюцца творчыя і сяброўскія стасункі паміж маладымі ўмельцамі. Асобна хачу зазначыць гасціннасць і творчы талент сям'і Арловых, якая жыве ў Глушы. У многім дзякуючы ім, а таксама братам Юрыю і Валерыю Боўда, у Глушы развіваецца кераміка і ганчарства.

Дарэчы, усе гэтыя і іншыя вырабы ўдзельнікаў семінара ішлі нарасхват падчас выстаўкі-продажу ў рамках фестывалю "Глушанскі хутарок". Папулярнасцю карысталася і дробная пластыка: статуэткі, свістулькі, асабліва з выявай бабруйскага "брэнда" — бабра.

Развітвацца з гасціннай Глушай было крыху сумна. Застаецца спадзявацца, што фэст "Глушанскі хутарок" і семінар па кераміцы ў яго рамках будуць мець працяг і выйдуць на больш высокі ўзровень. На гэта спадзяецца і дырэктар Бабруйскага раённага цэнтра культуры і вольнага часу Анжэла Салангіна:

— У будучым мы плануем пашырыць фестываль, прыцягнуць да ўдзелу ўстановы адукацыі, арганізацыі і гаспадаркі раёна, сельвыканкамы. Яны дапамогуць у афармленні падворкаў, і свята будзе яшчэ больш прыгожым. Думаю, такое мерапрыемства патрэбна людзям. Для ўстаноў культуры гэта каштоўны досвед супрацоўніцтва з мясцовымі органамі самакіравання. Для работнікаў клубных устаноў, майстроў і творчых калектываў магчымасць паказаць вынікі сваёй працы і пазнаёміцца з творчасцю калег, абмяняцца досведам, сакрэтамі майстэрства. Вельмі важна, што нашы майстры і ўмельцы, асабліва юныя, могуць прэзентаваць на фестывалі свае вырабы, якія з задавальненнем набываюць госці свята. Усё гэта дае вялікі стымул для далейшай творчасці.



*Гарлач пасля абвару.*

## Афарызм

*Калі б у чалавека не было горкіх развагаў і прычын, выклікаўшых гэтыя развагі, дык не было б і належнай вастрыні для ўспрыняцця жыцця і яго з'яў.*

**Якуб КОЛАС**

## З глыбінкі

### …І СЛОВА ПАЭТА СТАНЕ БЛІЖЭЙ

Аршанская цэнтральная гарадская бібліятэка імя А. С. Пушкіна паставіла сабе на мэце наблізіць паэтычнае слова да чытача і паспяхова рэалізуе яе з дапамогай шэрагу мерапрыемстваў. Вось і нядаўна тут адбылася сустрэча з віцебскай паэтэсай Тамарай Красновай-Гусачэнкай.

Асноўная тэма яе вершаў — прырода, чалавек, любоў — усё, што блізкае кожнаму з нас. Па-асобаму гучала і ўспрымалася грамадзянская лірыка паэтэсы, якая родам з Расіі, пра Беларусь. Асобнай старонкай імпрэзы стала прэзентацыя новых вершаў Тамары Іванаўны.

Сустрэчу з аматарамі паэзіі Т. Краснова-Гусачэнка выбудавала ў форме дыялогу, ахвотна адказваючы на пытанні пра творчасць, натхненне, любімых аўтараў і герояў.

Заключным акордам святочнай імпрэзы невыпадкова стаў "Аршанскі вальс" (музыка Ігара Лучанка) — Тамара Краснова-Гусачэнка з'яўляецца аўтарам яго слоў.

**Наталля ЯНКОЎСКАЯ, г. Орша**

### КОЖНАЯ КНІГА ЗНАХОДЗІЦЬ СВАЙГО ЧЫТАЧА

Маладзечанская цэнтральная раённая бібліятэка арганізавала акцыю "Падары кнігу бібліятэцы".

Сярод значных падзей — прыезд у Турэц-Баярскую сельскую бібліятэку пісьменніка Анатоля Бутэвіча і старшыні Беларускага фонда культуры Уладзіміра Гілепа. Яны падарылі ўстанове выданні У. Караткевіча "Дзікае паляванне караля Стаха" (на чатырох мовах), паэмы "Новая зямля" Якуба Коласа (на трох мовах), шыкоўны альбом "Шэдэўры Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь", а таксама кнігі А. Бутэвіча, У. Ліпскага, Н. Гальпяровіча, А. Жука і іншых творцаў.

Не засталіся ў баку і прыватныя выдавецтвы рэспублікі. Так, вялікую колькасць вартых увагі кніг падаравалі выдаўцы А. Вараксін, В. Хурсік, З. Колас, выдавецтвы "Харвест", "Чатыры чвэрці", "Звёзды гор", "Кнігазбор", "Мон литера", "Аверсэв", "Галіяфы", "Красіка-Прынт", "Промкомплекс", "Зорны верасок", "Про Христо", "РИВШ", "Квадрограф", "Эльсід". Сярод падараваных кніг: мастацкая і метадычная літаратура, навуковыя і папулярныя выданні, энцыклапедычныя слоўнікі і даведнікі, перакладная белетрыстыка, мастацкія альбомы.

Цікавыя кнігі і дыскі, прысвечаныя гісторыі і культуры Кітая, атрымала бібліятэка імя М. Багдановіча ў падарунак ад Пасольства КНР у Рэспубліцы Беларусь.

Асаблівай разнастайнасцю кніжнай прадукцыі, падараванай бібліятэкам, вызначыліся рэдакцыі газет "Мінская праўда", "Звязда", дзіцячага часопіса "Вясёлка".

**Наталля ПЛОТАВА, Маладзечанскі раён**

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220034, Мінск, пр. Незалежнасці, 39, п. 4а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by

Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.

Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец: Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства "Выдавецтва "Беларускі Дом друку" г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 2700 рублёў

Наклад — 2715.
Умоўна друк. арк. 5,58
Нумар падпісаны ў друк 18.10.2012 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4554
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686